Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 20 (4564) 21 мая 2010 г.

## У нумары:







# Прастора дабрыні

«Як цяжка без кнігі!» — заўважыў Аляксей Пысін, які ў далёкім 1967 годзе пісаў (між іншым, у "ЛіМ") пра пераезд Магілёўскай абласной бібліятэкі ў новае памяшканне. Сёлета скарбніцы — 75. Яна святкуе свой юбілей, праз усе гады настойліва-пранікнёна нагадваючы сваім сучаснікам: без кнігі жыць нельга.

Таму, як і ў пысінскія часы, чалавек, завітаўшы спярша проста на агледзіны, пабываўшы на першым паверсе, дзе месціцца адміністрацыя і актавая зала, інфармацыйна-даведачны аддзел ды абанемент і абавязкова — куточак, дзе адбываецца запіс чытачоў, затым узнімаецца на другі паверх. Зачараваны па ходу найцікавейшымі вітражамі (абавязкова з тэмай кнігі!), завітвае і на трэці паверх, дзе знаходзіцца аддзел беларускай літаратуры і краязнаўства. Завітаўшы сюды аднойчы, вяртаюцца людзі са скарбніцы перакананымі яе сябрамі.

Магілёўшчына — край усходняй Беларусі з надзвычай багатай гісторыяй. Даўно заўважанай і ацэненай творцамі. У Магілёве нарадзіліся беларускія педагогі і пісьменнікі XVII ст. Ігнацій і Фама Іяўлевічы, беларускі друкар С. Собаль. Горад — радзіма беларускага фалькларыста і этнографа XIX ст. П. Шэйна, вучонага-прыродазнаўца М. Судзілоўскага ды інш. Паданне пра назву абласнога цэнтра ўзяў за аснову сваёй паэмы "Магіла льва" Янка Купала. Не чуць сябе чужымі ў родным горадзе на старажытнай зямлі — вялікая справа.

Бібліятэка акумулюе веды пра край і творцаў. У далёкія ад нашага часу 60-я гады мінулага стагоддзя ў сваім нарысе пра кніжную скарбніцу А. Пысін падкрэсліваў паяднанасць яе з творцамі, з прыгожым літаратурным словам. І на адкрыцці тады прысутнічалі творцы, "харошыя падарункі бібліятэцы і чытачам перадалі пісьменнікі-землякі А. Русецкі, М. Аўрамчык, Р. Бярозкін, П. Кавалёў, А. Зарыцкі, К. Губарэвіч, К. Кірэенка — свае кнігі з цёплымі аўтографамі". Цяпер у аддзеле беларускай літаратуры і краязнаўства знаходзяцца кнігі пісьменнікаў, якія ў розныя гады сустракаліся з чытачамі і супрацоўнікамі Магілёўскай абласной — іх шмат, хоць рабі выстаўку рэдкага аўтографа. Сярод падпісаных кніг — зборнік вершаў А. Пысіна "Ёсць на свеце мой алень", даследаванне А. Адамовіча "Шлях да майстэрства: станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага", вершы М. Аўрамчыка "Дороги моего края", "Апавяданні" І. Шамякіна; таксама кнігі з дарчымі надпісамі А. Мальдзіса, М. Чарняўскага, П. Саковіча...

Былая дырэктар бібліятэкі Вольга Баранава, якая 30 гадоў узначальвала ўстанову, згадвала на юбілейнай сустрэчы з ветэранамі кніжнай справы: былі часы, калі прыходзілі ў бібліятэку больш за тысячу чытачоў у дзень. Стаялі чэргі! Яны існавалі недзе да 1990-х гадоў. Людзі настолькі часта наведвалі бібліятэку, іх так шмат прыходзіла, што чытальныя залы былі перапоўненыя!

На працягу многіх год бібліятэка займала першыя месцы ў рэспубліцы. І аўтаматызацыю працэсаў тут пачалі ўкараняць першымі з усіх абласных бібліятэк. "Я захварэла камп'ютэрызацыяй, — працягвае Вольга Дзмітрыеўна, — калі паехала ў камандзіроўку ў Польшчу. У Варшаве, калі мне сталі выдаваць інфармацыю імгненна, адразу сказала: і ў нас будзе гэтаксама. Звязалася з Ленінскай бібліятэкай, яны нам далі старыя камп'ютэры, якія былі ў карыстанні, але людзі прывыкалі працаваць па-новаму".

За стварэнне аўтаматызаваных інфармацыйных сетак "Абласная бібліятэка" і "Магілёўская вобласць" у намінацыі "Дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа і прапаганда духоўных каштоўнасцей" у 1998 годзе калектыву бібліятэкі прысуджана Спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Магілёўцам — першым з усіх абласных бібліятэк. Такія ж спецыяльныя прэміі Прэзідэнта Беларусі — за дасягненні ў прапагандзе беларускай культуры, гісторыі і літаратуры — атрымалі дзве раённыя ЦБС Магілёўскага рэгіёна — Крычаўская і Круглянская.

І цяпер абласная скарбніца годна нясе званне адной з лепшых у краіне. З 2000 года тут — зноў жа ўпершыню ў краіне — адкрылі цэнтр прававой інфармацыі для чытачоў. І на базе цэнтра стварылі вольны доступ для чытачоў у Інтэрнет. У сваю чаргу аддзел аўтаматызацыі супольна з краязнаўчым аддзелам і раённымі бібліятэкамі на працягу 2002 — 2008 гг. стварылі першую ў краіне краязнаўчую базу даных і цяпер маецца паўнатэкставая версія "Край мой Магілёўшчына". Праграму прадстаўлялі на міжнароднай канферэнцыі ў Судаку — атрымалі ўхвальныя водгукі.

Тут адкрылі цэнтр вывучэння замежных моў, які мае больш як 8 тысяч кніг на 17 мовах свету, і на яго базе — тры куточкі: амерыканскай, французскай літаратуры і цэнтра нямецкай мовы — Інстытута Гётэ.

Людзі прыходзяць па кнігу і... аб'ядноўваюцца па інтарэсах. У аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры працуе аб'яднанне "Спадчына", экавалеалагічны клуб "Крынічка", створаны найперш для дзяцей — школьнікаў малодшых класаў, для аматараў кінавытворчасці — "аматараў кіно", ды яшчэ шмат іншых кірункаў для згуртаванняў.

А калі абласная бібліятэка скамплектавала свае выдатныя цэнтралізаваныя фонды, гэта пасадзейнічала і таму, што ўпраўленне культуры аблвыканкама звярнула ўвагу на памяшканне, якое патрабавала дапрацоўкі. Капітальны рамонт завяршыўся ў 2009 годзе. Чытачы, якія сюды прыходзілі па інфармацыю і веды, зноў адчулі атмасферу ўтульнасці і цеплыні.

Маладая — па ўзросце і пасадзе дырэктар (кіруе яна крыху больш года) Ілона Сарокіна на заўвагі што калісьці, а менавіта ў 1830 годзе ў першай публічнай бібліятэцы Беларусі было ўсяго некалькі дзесяткаў кніг і працаваў адзін бібліятэкар, заўважае: прайшло з таго часу 180 гадоў. І сёння на Магілёўшчыне працуе 23 раённыя бібліятэкі ды Магілёўская абласная. Кніжны фонд — больш як 800 тысяч адзінак, і фарміруецца досыць актыўна. Між іншым, з гісторыі прыйшло і імя рэгіянальнай скарбніцы. Пасля адкрыцця ў сталіцы Нацыянальнай бібліятэкі імя Леніна ўрадавай пастановай 1934 года прадугледжвалася адкрыць у Віцебску, Гомелі і Магілёве яе філіялы. Магілёўскі філіял Ленінкі пачаў працаваць у 1935 годзе. Напачатку — вечарам, у адну змену. Чытачоў было — 40—60 чалавек. А ў 1938 годзе філіял Ленінкі стаў абласной бібліятэкай. Але імя правадыра пралетарыяту ў назве так і захавалася. Між іншым, гэтак цяпер у трох згаданых абласных скарбніцах: Магілёўскай, Віцебскай і Гомельскай.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Алега Файніцкага.

Калаж Віктара Калініна

Працяг тэмы на стар. 4, 5.

## Пункцірам

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Віктара Чарнабаева з 80-годдзем, народнага артыста СССР, кампазітара Андрэя Эшпая — з 85-годдзем, народную артыстку СССР Людмілу Касаткіну і заслужаную артыстку Беларусі Анжаліку Агурбаш — з юбілеем.

•Знакамітыя казкі пра мумітроляў шведскамоўнай пісьменніцы Туве Янсан нарэшце загучалі пабеларуску. Кніга "Маленькія тролі і вялікая паводка", перакладзеная Настай Лабадой, выйшла ў выдавецтве Зміцера Коласа.

•Далучыцца да культуры Індыі, у прыватнасці да яе кінамастацтва, змогуць гэтымі днямі жыхары Гомельскай вобласці. З 17 па 23 мая тут праходзіць Тыдзень індыйскага кіно.

•Х "Дударскі фэст" сабраў у музейным комплексе "Дудуткі" лепшых музыкаў з усёй краіны. Акрамя традыцыйных выступаў гуртоў, адбыўся камерны канцэрт дудароў, конкурс імправізацыі з дзіджэем і нават канферэнцыя, на якой абмяркоўваліся дасягненні ў свеце дударскага руху.

•У Мінску прэзентавалася кніга даследаванняў гісторыка Наталлі Гардзіенкі "Беларусы ў Вялікабрытаніі" — гэта 18-е выданне серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", што была заснавана ў 2004 годзе Згуртаваннем беларусаў свету. У кнізе прадстаўлены звесткі пра беларускія мясціны, арганізацыі, магілкі ў Вялікабрытаніі, пададзеныя біяграфіі беларускіх дзеячаў, чыё жыццё звязана з гэтай краінай, ды шмат іншага.

•Пасольства Ізраіля ў Беларусі зладзіла ў гісторыка-мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць-герой" выставу "Віза на жыццё. Дыпламаты, якія выратоўвалі яўрэяў". На 27 стэндах прадстаўлены кароткія біяграфічныя звесткі, фотаздымкі, копіі дакументаў дыпламатаў, а таксама сведчанні людзей, што былі выратаваныя імі ў гады Халакосту.

•Сёння ў Мінску завяршае работу V міжнародны кангрэс беларусістаў. У ім удзельнічалі самыя вядомыя даследчыкі беларускай гісторыі, культуры і мовы з Вялікабрытаніі, Польшчы, ЗША, Украіны, Расіі і Беларусі.

•Сёлета, пасля перапынку ў некалькі гадоў, аднавіць сваю працу школа-студыя на базе вядомага харэаграфічнага калектыва "Харошкі" пад кіраўніцтвам народнай артысткі Беларусі Валянціны Гаявой. У бліжэйшы час адбудзецца набор дзяцей у школу для будучых артыстаў.

•28 калектываў бяруць удзел у конкурсе духавых аркестраў Гомельскай вобласці, які адбываецца гэтымі днямі. Творчае спаборніцтва праходзіць пад дэвізам "Музыка Перамогі".

•Лепшыя мадэлі беларускіх дызайнераў-удзельнікаў фестываля "Млын моды" сабраныя на выставе, што нядаўна распачалася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Паводле слоў яго дырэктара Сяргея Вечара, гэта падзея можа стаць першым крокам для стварэння ў Беларусі музея моды.

•Берлінскаму міжнароднаму фестывалю кароткаметражнага кіно "ІнтэрФільм Усход" сёлета спаўняецца 25 гадоў. У сувязі з гэтым з 20 мая ў сталічным Доме кіно мінчане змогуць паглядзець лепшыя працы фестываля за розныя гады. У праграму ўключаныя 13 фільмаў з 9 краін.

•У свет выйшла выданне "Беларусы ў Літве: учора і сёння. Кніга І". Аўтар — жыхар Вільні, выхадзец з Шаркаўшчыны Алесь Адамковіч. Кніга прысвечана гісторыі беларусаў у Літве — у прыватнасці, за польскім часам (1921—1939 гады). Таксама змешчаны інтэрв'ю са знакамітымі віленчукамі нашых дзён.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ШУМАЎ Сяргей Аляксандравіч. Публіцыст.

Нарадзіўся 20 ліпеня 1953 года ў вёсцы Фурсы Кіеўскай вобласці. Скончыў Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут, потым Разанскае вышэйшае паветрана-дэсантнае каманднае вучылішча. Ваяваў у Афганістане, узнагароджаны ордэнам і медалямі. Член Саюза пісьменнікаў Расіі з 2008 года, член Саюза журналістаў Расіі. Аўтар 14 кніг па гісторыі Еўропы, Расіі, Беларусі, Украіны.



АНДРЭЕЎ Аляксандр Радзьевіч. Публіцыст.

Нарадзіўся 14 кастрычніка 1957 года ў г. Усолье-Сібірскае Іркуцкай вобласці. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны гісторыка-архіўны інстытут, Акадэмію знешняга гандлю СССР. Член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Расіі. Аўтар 14 кніг па гісторыі Еўропы, Расіі, Беларусі, Украіны. У сааўтарстве з Сяргеем Шумавым выдаў наступныя кнігі: "Монашеские ордена", "Удивительная Беларусь" (2008), "Запорожская Сечь" і інш.



РУДОЙ Васіль Іосіфавіч. Празаік.

Нарадзіўся 28 чэрвеня 1946 года ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці. Скончыў Вышэйшае ваенна-марское вучылішча імя М. В. Фрунзе (Ленінград), Ваенна-марскую акадэмію па спецыяльнасці камандзір атамнай падводнай лодкі і Усесаюзны завочны інстытут замежных моў па спецыяльнасці ваенны перакладчык (англійская мова). Мае шэраг публікацый у часопісах "Алеся", "Новая Немига литературная". Аўтар кніг "Сумасшедший экипаж" (2009).

## З нагоды

# Помніць сэрцам і словам

У Доме літаратара прайшло ўрачыстае ўшанаванне памяці творцаў-франтавікоў, загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны, тых, хто пайшоў з жыцця ўжо ў пасляваенны час, а таксама ўручэнне грамат і грашовых прэмій пісьменнікам-ветэранам.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец заўважыў: "У гады вайны людзі творчай працы рабілі шмат для набліжэння перамогі, разам з салдатамі і мірнымі людзьмі змагаліся з ворагам. 27 нашых старэйшых таварышаў не вярнуліся з поля бою, мы іх памятаем, іх імёны змешчаны на мемарыяльнай дошцы, што знаходзіцца ў Доме літаратара. У мемарыяльнай зале сабраны партрэты пісьменнікаў-франтавікоў, многіх з якіх забіла вайна ўжо ў мірны час. Мы рады, што ветэраны сёння з намі, яны дапамагаюць сваімі парадамі, а часам і слушнай крытыкай. Нам ёсць у каго вучыцца".

Пісьменнікаў-франтавікоў зала вітала кветкамі і гучнымі, апладысментамі. Мікалай Чаргінец перадаў ганаровым гасцям вечара віншаванне і падзяку за плённую шматгадовую працу ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.



У гэты вечар гучалі вядомыя песні і прэм'еры, ваенная лірыка, цёплыя словы віншавання і пажаданні ў адрас ветэранаў. Ім зычылі здароўя, доўгіх год жыцця, творчага натхнення. Прыемным сюрпрызам для ўсіх прысутных стала выступленне народнага артыста Беларусі кампазітара Эдуарда Ханка. Ён заўважыў, што ветэраны — самая ўдзячная публіка, і разам з гасцямі вечара праспяваў старыя любімыя песні.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: ветэранаў віншуюць удзельнікі ўзорнага тэатра мініяцюр пры Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі пад кіраўніцтвам Юліі Кірыенка.

Фота Кастуся Дробава

## Стасункі

# Ці будзе год спрыяльным?

Адбылося чарговае пасяджэнне Міждзяржаўнага савета СНД па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі. На парадку дня значыліся каля дзесятка пытанняў. Але галоўнае — пра стварэнне спрыяльных умоў для ўзаемнага абмену друкаванай прадукцыяй.

Пра неабходнасць адпаведнага пагаднення дзяржавы-ўдзельніцы дыялога загаварылі некалькі гадоў таму, калі стала відавочным, што страчаныя каштоўнейшыя напрацоўкі ў духоўнай сферы, калі кнігі свабодна перамяшчаліся праз межы. Абмен кнігамі існаваў паміж усімі рэспублікамі былога СССР і паміж СССР і краінамі Захаду. Потым у кнігавыдаўцоў з'явілася шмат дадатковых праблем па друкаванні і распаўсюджванні кніг. Сітуацыя ўскладнілася існаваннем мытных бар'ераў, розната ўзроўню падаткаў на дабаўленую вартасць і г.д.

Значны крок у вырашэнні праблемы быў зроблены 9 кастрычніка 2009 года, калі кіраўнікі 8 дзяржаў падпісалі Дэкларацыю аб падтрымцы кнігі. Але каб яна паўнацэнна запрацавала, неабходна стварыць адпаведнае заканадаўства. Вось тут і праявіліся розныя падыходы. Праект пагаднення пра стварэнне спрыяльных умоў для ўзаемнага абмену друкаванай прадукцыяй быў разасланы на ўзгадненне краінам-удзельніцам дыялога. Найбольш заўваг атрымалі ад расійскага боку. Прычым такіх, з якімі не могуць пагадзіцца іншыя. На думку прадстаўніка беларускай дэлегацыі Дзмітрыя Макарава, прапанаваныя расіянамі карэктывы нават парушаюць некаторыя палажэнні прынятай Дэкларацыі. І, значыць, падпісанне пагаднення адцягваецца. Прамаруджванне ва ўмовах эканамічнага крызісу можа прывесці да негатыўных наступстваў. "Мы можам згубіць вельмі важную галіну", — трывожыцца Дзмітрый Макараў і лічыць, што падпісваць пагадненне неабходна ў 2010 годзе.

Падчас абмеркавання прагучалі нават дапушчэнні, што, калі расійскі бок не захоча далучацца да пагаднення, ён можа яго не падпісваць ці падпісаць, выказаўшы сваю асабістую думку па асобных артыкулах.

Такім чынам, пытанне адкладася да разгляду на наступным пасяджэнні. Між тым, вялікі рэзананс, які атрымала падпісаная Дэкларацыя аб падтрымцы кнігі, відавочны. Яшчэ адным яе ўдзельнікам, магчыма, зможа стаць Украіна.

Што да іншых аспектаў, якія датычаць кнігі, то на пасяджэнні Савета выказаліся слушныя прапановы па ўвядзенні дадатковых намінацый у конкурс "Мастацтва кнігі". Да прыкладу, у сувязі з тым, што наступны год у СНД прапануецца аб'явіць Годам гісторыка-культурнай спадчыны. І аб заснаванні яшчэ аднаго конкурсу — кнігагандлёвых арганізацый. Што, бясспрэчна, паспрые папулярызацыі вопыту найбольш эфектыўнага распаўсюджвання друкаванай прадукцыі.

Ірына ТУЛУПАВА

## Конкурсы

У Доме літаратара адбылося падвядзенне вынікаў Міжнароднага літаратурнага конкурсу сярод падлеткаў і моладзі на лепшы твор, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. Ён быў арганізаваны Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі сумесна з Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім інстытутам развіцця адукацыі і Мінскім гарадскім аддзяленнем БРСМ.



# Тэма — гераізм

У конкурсе прынялі ўдзел 795 чалавек, у тым ліку з Расіі, Украіны, Літвы і Латвіі – 57. На заключны этап паступіла 1627 твораў — вершаў, апавяданняў, замалёвак, абразкоў, эсэ, нарысаў...

Сярод членаў журы, якое ўзначаліў Міхась Пазнякоў, былі такія пісьменнікі, як Міхась Башлакоў, Наталля Касцючэнка, Павел Сакавіч, Таццяна Кувырына.

Конкурс праведзены па дзвюх узроставых катэгорыях: да 18 гадоў і ад 18 да 25 гадоў па наступных намінацыях: паэзія, проза, публіцыстыка, літаратуразнаўчы артыкул, навуковае даследаванне.

Лаўрэатам І прэміі ў пераліченых намінацыях уручаны дыпломы, памятныя падарункі і крыштальная статуэтка Еўфрасінні Полацкай. 16 удзельнікаў конкурсу сталі ўладальнікамі дыпломаў і памятных падарункаў за ІІ месца. 27 чалавек узнагароджаны дыпломамі і памятнымі падарункамі за трэцяе. Спецыяльнымі дыпломамі адзначаны 12 конкурсантаў. Сярод узнагароджаных — старшакласнікі і студэнты з Мінска, Гомеля, Жлобіна, Магілёва, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Калінінграда, Вільнюса, Рыгі, Даўгаўпілса...

За адметную работу з юнымі талентамі і актыўны ўдзел у конкурсе таксама заахвочаны некаторыя сярэдні школы, гімназіі, цэнтры пазашкольнай работы і творчай сталіцы.

Свята пачалося тым, што на сцэну падняліся вядомыя пісьменнікі – удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі, Уладзімір Федасеенка, Мікалай Іваноў, якіх букетамі руж і падарункамі, цёплымі словамі і працяглымі апладысментамі прысутныя павіншавалі з надыходзячым Днём Перамогі. Шаноўныя пісьменнікі-ветэраны, а таксама члены аргкамітэта конкурсу — начальнік аддзела Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі Рамуальда Гурулёва і дзяржаўны ды грамадскі дзеяч з Масквы, паэт і кампазітар Іосіф Рогаль, уручылі пераможцам і прызёрам конкурсу заслужаныя ўзнагароды.

Павел КУЗЬМІЧ

На здымку: студэнтка БДПУ імя Максіма Танка Вольга Трыгубовіч, лаўрэат І прэміі ў намінацыі "Паэзія", і ветэран вайны, пісьменнік Мікалай Іваноў.

Фота Кастуся Дробава

## Госці са Швецыі

# Прыярытэты — за культурай

Інстытут журналістыкі БДУ плённа супрацоўнічае са Шведскім інстытутам павышэння кваліфікацыі журналісцкіх кадраў "Fojo".

Штогод шведскія калегі прыязджаюць у Інстытут дзяліцца прафесійным вопытам. У сваю чаргу нашы выкладчыкі і студэнты пасля завяршэння семінараў у Беларусі ездзяць у Швецыю, каб ужо на практыцы азнаёміцца з дзейнасцю шведскіх сродкаў масавай інфармацыі.

У Інстытуце журналістыкі БДУ прайшлі семінары на тэму "Культура і СМІ" з удзелам вядомых шведскіх журналістаў, якія спецыялізуюцца на культурнай тэматыцы, Енса Крысціана Бранда і Мустафы Кана. Заняткі заўжды адбываюцца ў нефармальных абставінах: праводзяцца гульні, бліц-апытанні, шведскія журналісты распавядаюць павучальныя гісторыі з уласнай практыкі.

Госці адзначылі, што тэма культуры ў Швецыі — адна з прыярытэтных і рэйтынгавых у СМІ. Пісаць пра тэатр, кіно, літаратуру і мастацтва — вельмі прэстыжна. Найбольш распаўсюджаныя жанры ў гэтай тэме — рэпартаж і інтэрв'ю.

Уладзімір ПАДАЛЯК

## Літ-абсягі

# Свой у краіне дзяцінства

Так называўся творчы вечар, прысвечаны 70-годдзю пісьменніка Уладзіміра Ліпскага, што адбыўся нядаўна ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі.

Старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонда, галоўны рэдактар часопіса “Вясёлка” з'яўляецца даўнім сябрам маленькіх чытачоў, што, бясспрэчна, самая вялікая ўзнагарода для дзіцячага пісьменніка. Таму і ягоны юбілей распачаўся дзіцячымі спевамі: песні на словы Уладзіміра Сцяпанавіча выканалі выхаванцы дзіцячага садка “Ліхтарык”, сярод якіх быў і ўнук пісьменніка Толік. У астатнім жа свята праходзіла па-даросламу ўрачыста: юбіляр грэўся ў святле сафітаў, прымаў шматлікія букеты, падзякі за сваю творчасць і віншаванні, зала вітала яго стоячы.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец узнагародзіў Уладзіміра Ліпскага дыпломам і аб'явіў аб прысваенні яму звання “Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі”: “Уладзімір Сцяпанавіч у сваім узросце захаваў у душы ўсё тое светлае, цёплае, што ўласціва дзецям. А які ён гумарыст! Хто не быў у Аўцюках, абавязкова наведайце, надарвеце жываты ад смеху! Але ў Саюзе пісьменнікаў мы назіраем і іншага Ліпскага: гэта сур'ёзны, адказны чалавек, ён часам выказвае досыць крытычныя меркаванні, да якіх заўжды прыслухоўваюцца”. Пасля гэтага Мікалай Чаргінец зачытаў віншаванне ад Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

Словы падзякі за сваю літаратурную і культурную дзейнасць Уладзімір Ліпскі атрымаў і ад прадстаўнікоў Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Пісьменніка прыйшлі павіншаваць сябры і калегі — літаратары, музыканты, культурныя дзеячы, землякі з Рэчыцкага раёна і слынныя аўцюкоўцы. Для юбіляра спявалі заслужаныя артысты Беларусі Надзея Мікуліч, Іван Краснадубскі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Іван Буслай. Уладзімір Ліпскі першым у беларускай літаратуры расказаў пра свой радавод (“Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод”), дапоўніўшы яго асобнымі кнігамі пра самых дарагіх для яго людзей — “Мама. Малітва сына” і “Бацька. Пісьмы на неба”, урыўкі з якіх гэтым вечарам зачыталі заслужаны артыст Беларусі Валерый Анісенка і народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. Яна таксама сказала некалькі віншавальных слоў віноўніку імпрэзы: “Мне прыгадваецца, як Уладзімір Сцяпанавіч святкаваў адзін з папярэдніх юбілеяў: на падмурках сваёй былой хаты паставіў багата накрытыя сталы і паклікаў усіх сваіх аднавяскоўцаў. Ён сапраўды чалавек шырокай душы і вялікай гасціннасці, таму ў яго так шмат сяброў”. І, канечне, у свяце ўдзельнічалі галоўныя і заўсёдныя сябры пісьменніка — дзеці.

Алена НАЧАЛАВА



На здымку: кветкі ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі Уладзіміру Ліпскаму ўручае Мікалай Чаргінец.

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Музыка без межаў

Напярэдадні вялікага свята 65-годдзя Перамогі ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа адбыўся канцэрт-акцыя “Памяць”. У ім браў удзел зводны хор: народны маладзёжны хор музея “Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва” (мастацкі кіраўнік — Віталь Раўза), маладзёжны хор “Даўгава” (г. Даўгаўпілс, Латвія, мастацкі кіраўнік — Яўген Усцінкоў), лаўрэат міжнародных конкурсаў і фестываляў аркестр акардэаністаў г. Даўгаўпілса (мастацкі кіраўнік — Таццяна Саратава).



Сумесны беларуска-латвійскі праект “Памяць” быў ажыццёўлены ў рамках дамовы аб развіцці і супрацоўніцтве гарадоў-пабрацімаў Віцебска і Даўгаўпілса. Калектывы азнаёмілі віцебскіх слухачоў з выдатнымі творамі, створанымі геніяльнымі кампазітарамі свету. Музыка не мае межаў, не з'яўляецца прыналежнасцю адной нацыі, а мае агульначалавечую каштоўнасць, аб'ядноўвае людзей у агульнай веры ў дабро і розум.

У першым аддзяленні канцэрта быў выкананы зводным хорам “Рэквіем” Яганеса Брамса (дырыжор — Віталь Раўза). Незвычайным быў акампанемент: замест сімфанічнага аркестра — аркестр акардэаністаў. Праўда, з даволі ўдалай аранжыроўкай для дадзенага складу. Незвычайнае спалучэнне тэмбравых фарбаў харавога гучання і аркестра не парушыла стылю музыкі Брамса.

Выкананне хору адрознівалася чысцінёй інтанацыі, характэрнай дынамікай, раўнацэнным гучаннем харавых партый і, што важна адзначыць, нефарсіраваным гучаннем хору ў кульмінацыйных частках “Рэквіема”. Гэта, несумненна, адбіваецца на традыцыйнай пеўчай харавой культуры нашых прыбалтыйскіх сяброў. Прамяністым і праніклівым спевам парадавала салістка Алена Барэле, якая выканала сольную партыю сапрана ў 4-й частцы.

Другое аддзяленне канцэрта граў аркестр акардэаністаў. Трэба заўважыць, што ў Прыбалтыцы нароўні з харавым жанрам існуе і развіваецца акардэонная школа. Цікава падабраны рэпертуар — творы Іягана Штраўса, Астора П'яцолы, Гельмута Верніке, Інгі Мукане, Вілі Мюнга, Юрыя Пешкава, — віртуознасць выканання як аркестра, так і салістаў (Зінаіда Нікіціна, Вадзім Карніцкі), разнастайнасць выканальніцкай манеры ў залежнасці ад стылю твора — усё гэта адметная асаблівасць прафесійнага ўзроўню аркестра.

Гледачы і арганізатары канцэрта цёпла віталі Генеральнага консула Консульства Латвіі ў Віцебску Маргарыту Штэйна за падтрымку дадзенага праекта і яго працяг у сяброўскай і творчай садружнасці беларускіх і латвійскіх музыкантаў.

Барыс КАЖЭЎНІКАЎ

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

# Фестываль у Туркменістане

У выставачным цэнтры Ашхабада прайшла міжнародная выстава твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і фальклорны фестываль пад агульнай назвай “Духоўная скарбніца чалавецтва”.

Арганізавана ўсё было на вельмі высокім узроўні. Дні былі распісаныя па хвілінах: наведванне музеяў, галерэй, майстар-класы, выступленні. І гэта ўсё ў атмасферы нефармальных зносін і шчырай зацікаўленасці. Немалую ролю ў такім настроі адыграла і надвор'е, у тыя дні ў Ашхабадзе было пад 30 градусаў цяпла. Асабліва ўразіла прысутных ткацкае майстэрства туркменскіх жанчын.

Міністэрства культуры і тэлерадыёкампанія арганізавалі гэты форум з мэтай стымулявання вывучэння фальклору і народных традыцый і далучэння шырокай аўдыторыі да мастацкіх дасягненняў розных краін.

Калі сказаць, што мастацтва мае шмат галінаў, то яго коранем можна лічыць фальклор і традыцыі. Многія рэчы, створаныя майстрамі мінулых стагоддзяў, працягваюць жыць і цяпер. І для таго, каб наведвальнікі маглі ўбачыць гэта, для кожнай дзяржавы на выставе быў арганізаваны свой павільён, дзе экспанаваліся карціны, дываны, габелены, музычныя інструменты, вырабы з керамікі, дрэва, жалеза, мазаіка, ювелірныя ўпрыгажэнні і шмат іншага. Можна было ўбачыць работы ад майстроў з Германіі і Кітая, Сінгапура і Партугаліі, Ірака і Карэі, Беларусі і Расіі. Увогуле, у гэтым форуме прыняло ўдзел 26 краін.



Выстава праводзілася ў Ашхабадзе не першы раз. А вось фальклорны фестываль у гэтым годзе здзівіў правядзеннем нацыянальных вясельных абрадаў, а не толькі народнымі песнямі і танцамі. Але і народныя танцы самі па сабе непаўторнае відовішча. Эмоцыі, воклічы, кураж, апладысменты, падарункі. Беларускай зорачкай стаў калектыў “Guda”, які вельмі годна прадставіў нашу краіну.

У рамках выставы і фестывалю прайшла і навукова-тэарэтычная канферэнцыя “Традыцыі фальклорнай творчасці і класічныя абрады”. Жывыя зносіны, узаемны інтарэс, інтэнсіўны абмен творчай энергіяй падаравалі новыя перспектывы супрацоўніцтва, падштурхнулі да пошуку новых ідэй.

Ганна ПАКІДЗЬКА

## З-пад пяра

Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны стане нацыянальным. Гэтую прапанову ветэранаў падтрымаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Напярэдадні Дня Перамогі ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны міністр культуры сустрэўся з ветэранамі, каб павіншаваць іх з вялікім святам. “Упэўнены, што маладое пакаленне будзе заўсёды захоўваць памяць пра геравічны подзвіг нашага народа. Нікому не дадзена права перапісаць гісторыю”, — сказаў Павел Латушка падчас сустрэчы. Пісьменнік-ветэран, былы камандзір падрыўной групы партызанскай брыгады імя Варашылава Алесь Савіцкі адзначыў: “Мне падаецца, што ўжо надышоў час надаць музею Вялікай Айчыннай вайны статус нацыянальнага. Бо кожны музейны экспанат, кожны ліст, здымак, рэч, любая дробязь — гэта душа нашага народа і нацыі!”

Ганна БАСОРЫНА

З пачатку 2010 года ў Мінскай гарадской бібліятэцы № 5 па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і загадчыцы бібліятэкі Алены Калейнік створана літаратурная гасцёўня, дзе праходзяць сустрэчы аўтараў і чытачоў. Цёплыя і шчырыя размовы з чытачамі вялі пісьменнікі Анатоль Зэкаў, Ірына Лявонава, Лізавета Палеес і іншыя. Урок мужнасці “Я прайшоў па той вайне” для навучэнцаў вучылішча № 23 будаўнічых і мантажных работ правёў пісьменнік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Аляксандр Суслаў. Паэтычны вечар “Дзеці блакаднага Ленінграда” прайшоў з удзелам паэтэсы Алы Чорнай. Да 65-годдзя Вялікай Перамогі была наладжана кніжная выстава “Адна на ўсіх Перамога”, на якой прадстаўляліся кнігі і мемуары ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны Г. Жукава, К. Ракасоўскага, І. Чарняхоўскага, А. Васілеўскага і іншых.

Крысціна УКЛЕЙКІНА

Паэтычны тэатр Арт.С пашырае жанравыя межы сваіх праектаў: канцэрты, літаратурныя вечарыны, перфомансы дапоўніліся яшчэ і мастацкай выставай. Фотавыстава Алены Кахановіч прайшла ў бібліятэцы імя Цёткі. У той жа час яе можна віртуальна наведаць і ў Інтэрнэце. Фотамастачка адлюстравала як праспекты вялікіх мегаполісаў розных краін, так і вузенькія вулачкі правінцыйных гарадкоў. На яе думку, горад — гэта не толькі гісторыя, у першую чаргу — гэта яго жыхары. У гарадоў ёсць нешта няўлоўна агульнае і своеасаблівае. Як пацверджанне гэтаму — выявы абсалютна аднолькавых фрагментаў вуліц у Стакгольме, Пецярбургу і Мінску.

Алесь ТУРОВІЧ

Няшмат засталося тых, хто пакінуў на ўзятым рэйхстагу аўтограф. Алесь Савіцкі, ветэран вайны, пісьменнік, актыўны грамадскі дзеяч напярэдадні Дня Перамогі завітаў у Коласаўскі музей, у якім працаваў у далёкіх 1960-х і які да сённяшняга часу называе Храмам. Сустрэча з курсантамі Мінскага суворaўскага вучылішча прайшла на адным дыханні, цёплыя якому надаў аповед малодшага сына Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча пра драматычны ваенны перыяд у жыцці іх сям'і, а таксама музычнае суправаджэнне вечарыны Юрася Шышкі. Падарункі ад музея, пытанні, аўтографы, фота на памяць... Курсанты доўга не адпускалі шаноўных выступоўцаў. На развітанне будучыя афіцэры паабяцалі, што стануць рэгулярнымі наведвальнікамі музейных імпрэз.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# І фаліянты, і аўдыёкнігі

**Магілёўская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна вылучаецца моцнай прававой базай, упэўненым укараненнем новых тэхналогій і... створанай тут камбініраванай базай дадзеных пра Магілёўскі рэгіён.**





Летась пры падтрымцы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі для Магілёўскай бібліятэкі былі алічбаваныя 73 рарытэтныя выданні, што датычаць Магілёўскай губерні, якіх не было ў фондах абласной скарбніцы. Яны выклікалі вялікую цікавасць сярод краязнаўцаў, гісторыкаў. Фонд рэдкай краязнаўчай кнігі ў Магілёве вельмі невялікі, на жаль.

З гэтага мы і пачалі размову з дырэктарам бібліятэкі Ілонай Сарокінай і намеснікам Вольгай Чумаковай.

І. С.: — Шмат найкаштоўнейшых фаліянтаў мы страцілі ў Вялікую Айчынную вайну. Бібліятэку разрабавалі немцы. Таму з абласных скарбніц Магілёўская валодае самым маленькім зборам рэдкіх кніг: усяго крыху больш як 5 тысяч адзінак, і толькі каля 200 выданняў — менавіта пра Магілёўскую губерню.

— Але, як і ва ўсіх скарбніцах, асноўны фонд бібліятэкі чытач усё ж не бачыць. Добра, калі на паліцах выстаўлена каля 10 працэнтаў таго, што ёсць. Але вядомая псіхалогія: тое, што ты ўбачыў, цябе і зацікавіла...

В. Ч.: — Цяпер у бібліятэцы спрабуюць лічыць рэдкай кнігай і выданні даваенныя. У адкрытым фондзе ёсць, прыкладам, даваенны Мальер. У бліжэйшы час такія кнігі плануецца сабраць у асобны фонд, таму што праз гады гэтыя кнігі стануць сапраўднымі рарытэтамі. Ёсць прыжыццёвыя выданні некаторых аўтараў, датаваныя 1936 годам.

І. С.: — Між іншым, Вялікая савецкая энцыклапедыя 1929 года, якую, магчыма, нават не кожны бібліятэкар трымаў у руках, — да гэтага года ўвогуле стаяла ў фондзе даведачнага аддзела. А сёлета ў сувязі з 75-годдзем бібліятэкі ёсць падставы адкрыць такія дакументы.

В. Ч.: — Таму са студзеня мы пачалі арганізоўваць адкрыты прагляд усіх тых выданняў, якія атрымалі летась. Кожны аддзел праводзіць дзень адчыненых дзвярэй.

— Наколькі актыўны цяпер працэс замены традыцыйнай кнігі выданнямі на электронных носьбітах?

І. С.: — І ў нас ёсць шмат "агучанай" літаратуры, электронныя варыянты кніг. Гэта энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі. Вельмі слушна атрымліваецца, калі, да прыкладу, побач з "Повестями Белкина" А. Пушкіна стаіць аўдыёдыск — з тым жа творам. Першыя закупкі нашы ў гэтым кірунку былі, так бы мовіць, выпадковыя. Бралі, што выдавалася. Цяпер імкнемся закупляць сур'ёзныя выданні. У нашых фондах Колас, Купала. Маюцца і монаспектаклі. А выдавецтва "Вышэйшая школа" выдае больш вучэбнай літаратуры менавіта на электронных носьбітах. Стараемся браць і такую. Падручнікі, слоўнікі і даведнікі, энцыклапедыі досыць запатрабаваныя.

Але пры выкарыстанні электроннай кнігі ўзнікаюць пытанні не толькі іх сістэматызацыі, а і захоўвання — для наступных карыстальнікаў. Каб дыск адкрываўся, каб не было вірусаў і г.д.

І. С.: — Ведаеце, вандалы ёсць заўсёды. І выдаючы кнігу ў чытальнай зале, не заўсёды прасочыш за тым, каб не псавалі яе выгляд. Неяк гадоў дзесяць таму быў семінар, на якім выступала спецыяліст з нямецкай дзіцячай бібліятэкі. Яна гаварыла, што сярод электронных дакументаў ёсць тыя, якія выдаваліся па 100 разоў на дом. І яны вярталіся ў нармальным выглядзе. У прынцыпе, ні адна традыцыйная кніга, як бы яе акуратна не чыталі, такога не вытрымае.

В. Ч.: — Пры ўсім, калі чалавек бярэ дадому кнігу — гэта чалавек удумлівы, у якога ёсць культура адносінаў да кнігі. У нас праводзяцца ўрокі бібліятэчнай бібліяграфічнай граматнасці. Прывучаем моладзь, асабліва школьнікаў да карыстання кнігай.

І. С.: — Маёй дачцэ 13 гадоў. І я магу назіраць: цяперашняе пакаленне, падлеткі, часцяком не ведаюць, што такое энцыклапедыя, слоўнік. І карыстацца імі не ўмеюць. Магчыма, з-за таго, што вельмі скупыя хатнія бібліятэкі. Арыентуючыся на гэтую катэгорыю, мы распрацавалі адмысловую праграму. Запрашаем 10 чалавек з класа альбо з ліцэя і вучым карыстацца бібліятэкай. Калі зрабілі такое ў першы раз, было незадаўненне нават у нашых супрацоўнікаў: навошта гэта? А пасля аказалася: трэба! Дзеці не карыстаюцца кнігай і каталогам не таму, што не хочуць, а таму, што не ведаюць і не ўмеюць. А калі яны прыходзяць у бібліятэку, і ім паказваюць і расказваюць, якую і дзе можна знайсці інфармацыю, як карыстацца картатэкай ці каталогам бібліятэкі, усё адбываецца больш асэнсавана. Таму такія ўрокі патрэбныя. Мы рыхтуем не толькі спрыяльнага чытача сабе, але і граматнага карыстальніка інфармацыяй і тым самым даём першы штуршок для самастойнай працы.

— Цяпер шмат гавораць пра культуру спажывання інфармацыі: з чым мы сутыкаемся? Да прыкладу, і ў школах маглі б арганізаваць такія ўрокі...

І. С.: — ...і пры гэтым школьнаму бібліятэкару дырэктар мог бы аплачваць гадзіны. Але пакуль што гэта справа не рухаецца.

— Магілёў — горад, дзе бібліятэкараў рыхтуюць на прафесійнай аснове — у Магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным каледжы імя А. С. Пушкіна. Вы гэта адчуваеце на сабе?

І. С.: — Так, 96 працэнтаў нашых супрацоўнікаў — са спецыяльнай адукацыяй: "бібліятэказнаўства і бібліяграфія". А цяпер з'явілася і "клубная дзейнасць". Ёсць спецыялізацыя на авалоданне менавіта інфармацыйнымі тэхналогіямі. Каледж дае штуршок да працягу адукацыі ва ўніверсітэце. І прафесійны ўзровень бібліятэкара атрымліваецца вельмі высокі. Такая шматступенная сістэма адчувальная. Калі чалавек закончыў бібліятэчны каледж — ён больш практык. Зараз створана адмысловая творчая лабараторыя: супрацоўнікі бібліятэкі праводзяць майстар-класы ў каледжы, і выкладчыкі каледжа таксама часта далучаюцца да бібліятэчных мерапрыемстваў. Да таго ж, калі тут каледж, дык спецыялістаў застаецца больш у Магілёўскай вобласці. Нават у бібліятэках аграгарадкоў, дзе былі патрэбныя кадры, змаглі атрымаць спецыялістаў менавіта з бібліятэчнай адукацыяй.

Няма ўжо таго стэрэатыпа, які існаваў гадамі, нібыта бібліятэкар — вельмі ціхі чалавек, які сядзіць за каталогам альбо нешта запісвае ў фармуляр. Бібліятэкар — вельмі начытаны чалавек, сучасны. Вельмі эрудзіраваны. І калі гадоў пяць таму было адчужэнне ад новых тэхналогій, то цяпер яны не толькі прымальныя, але і неабходныя. І такое аблічча бібліятэкара выклікае да яго павагу. З 16 аддзелаў у нас тры загадчыкі — трыццацігадовага ўзросту. І сельскія бібліятэкары, і бібліятэкары аграгарадкоў павінны ведаць, што яны —работнікі не толькі сферы культуры, а і інфармацыі.

І. С.: — Хаця ў папулярызацыі кнігі застаюцца і добра вядомыя формы. Заўсёды былі і ёсць літаратурныя прэзентацыі. Да прыкладу, на вечарыну Аляксея Пысіна мы змаглі запрасіць творцаў, яго дачку.

З далучэннем творчых сіл на нашай базе паспрабуем зрабіць Пысінскія чытанні. У іх возьмуць удзел людзі, якія ведалі паэта, даследчыкі яго творчасць. Магчыма, арганізуем конкурс. Дачку А. Пысіна зацікавілі некаторыя фотаздымкі, якія ёсць у нас і няма ў яе сямейным архіве.

В. Ч.: — Ёсць у нас і яшчэ адна добрая традыцыя — арганізоўваць у фае фотавыстаўкі. Мы імкнёмся паказаць наш інтэлектуальны патэнцыял, які ёсць у рэгіёне, і прадставіць яго нашым чытачам.

—Як папаўняюцца ды фарміруюцца бібліятэчныя фонды?

— У нашай установе самая добрая падпіска ў горадзе. І на беларускія, і на расійскія выданні. Ёсць разуменне ў аблвыканкаме і 15 працэнтаў са сродкаў, што выдаткоўваюцца на ўтрыманне бібліятэк, накіроўваюцца на камплектаванне фондаў. Такое рашэнне вельмі моцна падтрымала нас. Пры гэтым адсочваецца запатрабаванасць літаратуры.

Беларуская літаратура ў агульным спісе займае 10 працэнтаў. Між іншым, дзіцячыя аддзелы нашага абслугоўвання маюць рэкордную колькасць выдачы літаратуры на беларускай мове. Нават на дарослым абанеменце менш. Але там усё залежыць ад тэматыкі кнігі.

— В. Ч.: Мы суправаджаем сваімі выстаўкамі мерапрыемствы абласнога ўзроўню. Да прыкладу, на "Анімаёўцы" выстаўлялі дзіцячую літаратуру, і прыярытэт быў аддадзены дзіцячай беларускамоўнай літаратуры. У дзяцей няма моўнага бар'ера!

З адноўленай цікавасцю да краязнаўства, да каранёў, да сваёй малой радзімы збіраем усё, што выдаецца па рэгіёне. І тут нашым выдавецтвам трэба падумаць пра гэты кірунак, напэўна, больш уважліва.

Ірына ТУЛУПАВА



На здымках: дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі Ілона Сарокіна; намеснік дырэктара Вольга Чумакова; так выглядалі залы бібліятэкі раней.

Фота Алега Файніцкага, аўтара і з архіва бібліятэкі

# Скарб, які збераглі

**Да 65-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылася прэзентацыя фотавыстаўкі "Вайна. Перамога. Памяць. Магілёўшчына гераічная".**

Фотавыстаўка — працяг праекта, які бярэ пачатак у 2007, юбілейным для горада Магілёва годзе (740 год). Тады фотавыстаўка прадстаўляла фотаздымкі дарэвалюцыйнага Магілёва пад назвай "Магілёў пачатку XX стагоддзя". Захоўваючы традыцыю, фотаэкспазіцыя 2010 г. таксама заснавана на краязнаўчым матэрыяле і прысвячаецца Магілёўшчыне.

Фотавыстаўка складаецца з двух раздзелаў, адзін з якіх пад дэвізам Года ветэранаў "Мы перамаглі разам" прысвечаны ветэранам Вялікай Айчыннай вайны — магіляўчанам. Фотаздымкі ветэранаў выкананы вядучым фотакарэспандэнтам газеты "Магілёўская праўда" Ірынай Савосінай.

Другі раздзел — "Ленінка" ў гады Вялікай Айчыннай вайны" — заснаваны на архіўных дакументах, фотаздымках, успамінах сведкаў Вялікай Айчыннай вайны, якія вяртаюць сучаснікаў у цяжкія гады акупацыі і першае пасляваеннае дзесяцігоддзе бібліятэкі.

Наведвальнікам было прапанавана пазнаёміцца з выстаўкай-памяццю "Кнігі, якія збераглі…". Выстаўка змяшчала літаратуру даваенных гадоў выдання, якую выратавалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны бібліятэкары і чытачы абласной бібліятэкі.

У гады фашысцкай акупацыі г. Магілёва кніжныя фонды бібліятэк былі часткова знішчаны, часткова вывезены ў Германію. Аднак найбольш каштоўную частку выданняў работнікі бібліятэк захавалі.



Падвяргаючыся вялікай небяспецы, супрацоўнікі закопвалі кнігі ў зямлю, хавалі ў падвале, раздавалі чытачам. Такім чынам, было захавана звыш 40 тыс. экзэмпляраў каштоўнай літаратуры.

У Магілёўскай абласной бібліятэкі наладжаны даўнія добрыя сувязі з РВУ "Літаратура і Мастацтва" і рэдакцыяй альманаха "Вожык". На гэты раз для выстаўкі "Свет подзвіг ваш запомніць на стагоддзі", якая арганічна дапоўніла комплекс выстаў у фае бібліятэкі, рэдакцыя альманаха "Вожык" прадставіла выстаўку з лепшых карыкатур газеты-агітплаката "Раздавім фашысцкую гадзіну!". З фонда Магілёўскай абласной бібліятэкі на выставе таксама было прадстаўлена факсімільнае выданне аднайменнай газеты-агітплаката, якая выходзіла ў гады вайны на тэрыторыі Беларусі.

Гасцям бібліятэкі ў рамках прэзентацыі быў прапанаваны новы бібліяграфічны паказальнік "Они освобождали Могилевщину. Герои Советского Союза, принимавшие участие в освобождении Могилевской области от немецко-фашистских захватчиков", падрыхтаваны аддзелам беларускай літаратуры і краязнаўства.

Фотавыстаўка "Вайна. Перамога. Памяць. Магілёўшчына гераічная" будзе дзейнічаць на працягу 2010 г., выстаўка-вернісаж лепшых агітацыйных карыкатур ваеннага часу — да канца мая 2010 г.

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

На здымку: друкарка ваенных часоў.

Фота з фондаў бібліятэкі

# Да нас вяртаецца класіка

**Кажуць, не варта наракаць на цемру, лепш запаліць свечку. І агітаваць за культуру не варта там, дзе яна прысутнічае. Гасцям Магілёва найперш кідаецца ў вочы каменныя скульптуры, якія ў горадзе быццам паўсюль. Класічныя і сучаснага стылю, яны ў агульным гарадскім ансамблі. У ім досыць арганічна выглядаюць і аднуленыя храмы ды гарадская ратуша, гістарычныя памяшканні тэатраў — абласнога драматычнага і тэатра лялек, і будынак абласной бібліятэкі... Чым адметная культура ўсходняга рэгіёна і якое месца належыць кнізе? Пра гэта распавядае начальнік упраўлення культуры аблвыканкама, заслужаны дзеяч культуры краіны Анатоль СІНКАВЕЦ:**



— Напэўна, гэта асаблівасць рэгіёна, што ўвага развіццю культуры надаецца вялікая па ўсіх напрамках: клубная праца, бібліятэчная, дзіцячыя школы мастацтваў, школы рамёстваў, тэатральнае мастацтва. Агулам жа адносіны кіраўніцтва вобласці да развіцця культуры вельмі спрыяльныя. Тое, што вы бачылі — скульптуры ў горадзе — ёсць не толькі ў Магілёве, а і ў іншых раённых цэнтрах. Справа ў тым, што ў нас праходзіць пленэр па скульптуры, майстры прыязджаюць і працуюць, а працы свае дораць гораду. На пленэры па кераміцы “Арт-жыжаль” можна ўбачыць керамічныя вырабы, прычым гэта наша нацыянальная кераміка, захаваліся асаблівасці вырабу менавіта магілёўскія, і прыйшлі яны да нас здаўна, калі нашы продкі гліну адмыслова рыхтавалі. Яны квасілі яе ў вяршках, кіслым малацэ і выраблялі арыгінальныя, унікальныя па сваёй сутнасці прадметы, бо прымянялася адназначна толькі ручная лепка. Ніякі ганчарны станок не выкарыстоўваўся. І апальвалі толькі на дровах. Гэту традыцыю мы аднавілі. Цяпер пленэр, які праходзіць на Бабруйшчыне, прымае не менш як 15 замежных краін. Летась прыязджалі майстры з Вялікабрытаніі і далі форуму найвышэйшую ацэнку. Пастаянныя нашы ўдзельнікі — прадстаўнікі Прыбалтыкі. З Польшчы пані Зося, якая мае свой прыватны пленэр і прымае гасцей з Аўстрыі, Францыі, Ізраіля і ўсіх краін былога Саюза, таксама дала вельмі высокую ацэнку. Можна згадаць і яшчэ адзін, самы галоўны пленэр па жывапісу. Гэта сумесны праект Саюза мастакоў Расіі і абласнога выканаўчага камітэта, мастацкага музея Масленікава. Першыя 14 дзён мастакі працуюць у Расіі, раней збіраліся ў Цвярской вобласці, а з гэтага года — у Завідава Тульскай вобласці, да расіян таксама прыязджаюць творцы з далёкага замежжа. Туды абавязкова едзе наша моладзь. А пасля ўсе ўдзельнікі пленэра прыязджаюць да нас і тут працуюць. Пры гэтым абнаўляюцца фонды нашых музеяў, гарады, і гэта надае дынаміку жыцця. У нас працуе каледж мастацтваў, заснаваная галерэя знакамітых людзей Магілёўшчыны. Кожны пленэр пішуцца партрэты, яны застаюцца ў мастацкім музеі.

У развіцці культуры рэгіёна мае вялікае значэнне таксама фестывальны рух. Вобласць захавала ўсе свае фестывалі. З іх каля 10-ці маюць статус міжнародных. Пачынаючы ад фестывалю “Залатая пчолка”, які займеў сусветнае імя. Прымеркаваны ён да 1 чэрвеня — дня абароны дзяцей. Такі фестываль, у якім удзельнічае шмат людзей, — самая вялікая дыпламатыя.

Усім вядомы наш духоўны фестываль “Магутны Божа”, на якім мы ўздымаем пласт духоўнай класікі. А дзякуючы фестывалю “Залаты шлягер” вобласць прагучала далёка па-за межамі краіны. З рэгіянальных згадаю “Сузор’е талентаў” — фестываль сямейнай творчасці, які праходзіць у Глуску. Дзе яшчэ сустрэнеце такое, каб творчая сям’я прыязджала да творчай сям’і? І калі такія сем’і выконваюць, прыкладам, беларускую песню, гэта ні з чым не параўнальна! А Слаўгарадскі фестываль “Наша Прыпеўка”!...Дарэчы, гэта ж наш фальклор, наша спадчына. І зберагаецца яна ў тым ліку і ў бібліятэцы. Людзі прывыклі прыходзіць сюды па інфармацыю, веды, яны шукаюць усемагчымыя звесткі пра родны край.

— У бібліятэках традыцыйна арганізуюцца краязнаўчыя аддзелы, вакол якіх згуртоўваюцца гісторыкі, людзі, неабыякавыя да лёсу зямлі, на якой жывуць. На ваш погляд, у вяртанні народу гістарычнай памяці наколькі важная супольная праца прыватных асоб, бібліятэк і органаў улады?

— У нас дзейнічае асобная самастойная праграма — па захаванні помнікаў археалогіі, архітэктурных помнікаў. Праграма мае фінансавую падпітку: ёсць абласная інвестпраграма, якая мае сродкі ў тым ліку і на аднаўленне спадчыны. Летась мы аднавілі палац Пацёмкіна, на працы па якім пайшло каля 9 мільярдаў рублёў (супольна з рэспубліканскімі сродкамі). Цяпер там краязнаўчы музей. Усе помнікі на тэрыторыі вобласці знаходзяцца пад асаблівым кантролем і ўвагай кіраўніцтва раёнаў. Такое даручэнне аблвыканкама. У аблвыканкаме ёсць штатная адзінка — галоўны спецыяліст, які вядзе менавіта гэты напрамак. Сёлета асаблівая ўвага надаецца Пустынскаму манастыру (Мсціслаўскі раён). Аднаўляецца і палацава-паркавы ансамбль у Жылічах Кіраўскага раёна, Бабруйская крэпасць.

Наш знакаміты бялыніцкі мастак Віктар Альшэўскі прапанаваў на практыку рэстаўратараў. Яны будуць працаваць і ў краязнаўчых музеях, і ў палацава-паркавых ансамблях. У праграме — Груздзінаўка Быхаўскага раёна, Свята-Нікольскі храм у Падніколлі, дзе цяпер размяшчаецца жаночы манастыр. Гэта тое, што мае фінансавую падтрымку. Шмат і тых помнікаў, дзе стаяць ахоўныя знакі і наведзены парадак. Яны ўключаюцца ў турыстычныя маршруты. Патрабаванне — каб пры ўездзе ў кожны раён была карта размяшчэння помнікаў археалогіі, прыроды, архітэктуры.

— Вельмі блізка мы падыходзім да тэмы літаратурнай творчасці.

— З Магілёўскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў мы цесна супрацоўнічаем, асабліва наша абласная бібліятэка. Кожны паэт з імем і які толькі пачынае сваю літаратурную дзейнасць арганізоўвае ў скарбніцы творчыя сустрэчы. Праходзяць прэзентацыі зборнікаў, кніг.

Вяртаецца да нас і класіка — наш лялечны тэатр ставіць спектакль па творы У.Караткевіча “Дзікае паляванне караля Стаха”. Тэатр выйграў грант у Міністэрстве культуры Беларусі, мы атрымліваем фінансавую дапамогу, і цяпер поўным ходам ідзе пастаноўка. Гэта будзе лялечны спектакль.

Што да кніжнай скарбніцы, то вельмі жадаю, каб аднавіўся іх кніжны фонд.

Бібліятэка — тая ўстанова, у якой заўсёды чысціня ды ўтульнасць. І надзвычай цікавыя формы працы сустрэнеш менавіта тут. Я да бібліятэчных работнікаў стаўлюся з вялікай павагай. Нават калі не выконваюць план платных паслуг — не сваруся. Ведаю, што значыць для бібліятэкі зарабіць грошы. Як можна іх паставіць на рэйкі бізнеса? Усё жыццё ў нас кніга была даступная і бясплатная. І трэба, напэўна, гаварыць не пра камерцыйную літаратуру, а літаратуру, набытую за зароблены грошы. У мінулы год мы расцэнтралізавалі наша фінансаванне і аддалі па раёнах. Сёлета мы цэнтралізавана пакінулі ўсе грошы ў абласной бібліятэцы. Уся літаратура закупаецца менавіта тая, што неабходна чытачу. Да таго ж, праграма адраджэння вёскі, камп’ютэрызацыя бібліятэк — гэта вельмі важныя звёны. Цяпер база сельскіх бібліятэк бывае лепшая за базу гарадскіх. Значыць, неабходна далейшая распрацоўка пытання.

— Якія кнігі вы любіце чытаць самі, які з аддзелаў бібліятэкі наведваеце часцей?

— Вось якраз на тое, каб пачытаць, амаль няма часу. Дырэктар бібліятэкі зусім нядаўна прапанавала Драйзера. Люблю класіку. І кнігі па дзелавым этыкеце. Зразумела, кожны паняздзелак з бібліятэкі атрымліваю абнаўленні ў сферы прававой інфармацыі — указы, пастановы.

— Якія праекты супольна з кніжнай скарбніцай маглі б наладзіць у бліжэйшы час?

— Гэтыя праекты паспяхова дзейнічаюць. Апошні — абласная бібліятэка з мастацкім музеем і музеем этнаграфіі ўзяліся за справу і змаглі аднавіць старажытныя касцюмы ўсіх рэгіёнаў — 21 раёна і двух гарадоў. І правялі навукова-практычную канферэнцыю. Са Смаленска людзі прыязджалі таксама — нашы касцюмы маюць шмат агульнага. Шмат што зроблена бібліятэкай і да юбілею вобласці.

— Вы помніце сваю першую бібліятэку?

— Натуральна. Вёска Баранавічы-1 Осаўскага сельскага савета Магілёўскай вобласці, дзе я нарадзіўся. У нас была сямігадовая школа, і вельмі ўтульная бібліятэка ў ёй. Заўсёды любіў туды хадзіць, пасядзець вечарам, пачытаць кнігі. Дарэчы, цяперашні дырэктар Магілёўскай абласной — Ілона Уладзіміраўна Сарокіна — прайшла школу сельскай бібліятэкі. А калі яе пройдзеш, значыць, працаваць будзеш добра.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Фота аўтара







# Захаваліся праз вякі...

**Самая старая кніга ў фондзе Магілёўскай абласной бібліятэкі — “Письма о разных физических и философических материях, писанные к некоторой немецкой принцессе, с французского языка на Российский переведенные Степаном Румовским”, С.Пецярбург, 1772 г. Ёсць яшчэ айчынныя выданні XVIII — XIX, XX стст., надрукаваныя грамадзянскім шрыфтам; “Русская старина” — штомесячнае гістарычнае выданне 1883г.; “История России с древнейших времен. Сочинения С. М. Соловьёва” (некаторыя тамы 1857 — 1882 гг. выдання); прыжыццёвыя выданні твораў знаных рускіх пісьменнікаў (раман у вершах “Евгений Онегин” А. Пушкіна; Творы графа Л. Талстога; “Пёстрые письма” М. Е. Салтыкова-Шчадрына (1886 г.); “Путешествие из Петербурга в Москву” А. Радзішчава, выдадзенае ў 1790 г. у Санкт- Пецярбургу) ды інш.**




У складзе фонда знаходзяцца таксама энцыклапедычныя выданні: “Большая энциклопедия” у 22-х тамах пад рэд. С. Южанава, С.-Пецярбург, 1904г.; “Настольный энциклопедический словарь Бр. А. и И. Гранат” у 9-ці тамах, Масква, 1895 г.; “Энциклопедический словарь Ф. А. Брокгауза и И. И. Ефрона” у 74-х тамах, С.-Пецярбург, Сямёнаўская Тыпа-Літаграфія, 1890; Яўрэйская энцыклапедыя ў 16-ці тамах.

Маюцца выданні серыі “ЖЗЛ”, якія выходзілі ў свет у першыя гады пасля заснавання серыі (1890 г.): “Аляксандр Македонскі і Юлій Цэзар. Іх жыццё і ваенная дзейнасць”, С.-Пецярбург, 1898 г.; “Э. Кант і Гегель. Жыццё і філасофская дзейнасць”, С.-Пецярбург, 1891 г., інш.

Да таго ж, калекцыя краязнаўчай літаратуры і мясцовых выданняў таксама ўяўляе сабой багацейшы і найбольш поўны збор дакументаў аб рэгіёне.

У першую чаргу гэта вядомыя на сённяшні дзень летапісы і хронікі, што асвятляюць магілёўскую мінуўшчыну XVI — XIX стст. і якімі, па словах гісторыка Мікалая Улашчыка, не можа ганарыцца ніякі іншы беларускі горад (выданні канца XIX — пачатку XX ст.): Баркулабаўская хроніка; Хроніка горада Магілёва Сурты і Трубніцкіх; Запіскі ігумена Арэста; “Разныя записки, касающіяся до Бѣлорусской епархіи и здъшняго благочестія”, складзеныя ў Спаскім манастыры. Гонар бібліятэкі — “Памятные книжки Могилёвской губерніи...” — штогадовае даведачнае выданне аб адміністрацыйным і гаспадарчым жыцці губерні, якое выдавалася з 1854 г. У краязнаўчым фондзе захоўваецца 15 кніжак з 35 выдадзеных.

Вельмі каштоўнымі крыніцамі для вывучэння гістарычнай спадчыны Магілёўшчыны з’яўляюцца таксама: “Обзоры Могилевской губернии...”; “Матерьялы для исторіи возсоединенія Руси”. П. А. Куліша (1877 г.); “Опыт описания Могилёвской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях...” (1882 — 1884 гг.) у 3-х тамах — выданне, падобнага якому не мела ні адна губерня Расійскай імперыі; часопісы “Вестник Могилёвского земства” і “Могилёвские епархиальные ведомости”.

Адна з самых старых кніг краязнаўчага фонда — “Землеописаніе Россійской імперіи для всѣхъ состояній” Еўдакіма Зяблоўскага (1810 г.).

У 2009 г. краязнаўчы фонд папоўніўся 73 электроннымі копіямі рарытэтных кніг па гісторыі Магілёўшчыны канца XIX-пачатку XX ст.

Вольга ЧУМАКОВА,
намеснік дырэктара Магілёўскай абласной бібліятэкі

На здымках: “Опытъ описанія Могилевской губерніи...” губернатара Дэмбавецкага. Гэта найбольш значнае друкаванае выданне дарэвалюцыйнага часу ў краязнаўчым фондзе бібліятэкі. Да 740-годдзя Магілёва (2007 г.) было зроблена перавыданне гэтай унікальнай працы; летапіс, напісаны ў в. Баркулабава Быхаўскага р-на не пазней 30-х гадоў XVII ст.; выданне, прысвечанае старэйшай навучальнай установе Магілёўшчыны, якая была заснавана ў 1809 годзе і дала шлях многім вядомым пазней вучоным, грамадскім і палітычным дзеячам, выдатным прадстаўнікам мастацтва.

Фота з архіва бібліятэкі

## Меркаванне

Публікацыя пад назвай “А што там далей?”, змешчаная ў “ЛіМе” 9 красавіка 2010 года, выклікала неадназначную рэакцыю чытачоў. Нагадаем сутнасць таго матэрыялу...

Выпускнікам філалагічнага факультэта БДУ было прапанавана напісаць невялікія эсэ – паспрабаваць зрабіць своеасаблівыя “прагнозы” адносна “будучыні айчыннай літаратуры”. Тры пытанні, на якіх студэнты павінны былі засяродзіць увагу, фармуляваліся такім чынам: 1) Творчасць якіх сучасных пісьменнікаў будзе запатрабаванай чытачамі ў сярэдзіне XXI стагоддзя? Якія творы сыдуць у маргіналіі, не будуць карыстацца ўвагай наступных пакаленняў? 2) Якія тэндэнцыі выявяцца ў нацыянальнай літаратуры ў сярэдзіне XXI стагоддзя? 3) Якія тэмы і праблемы будуць на ўвазе мастакоў слова праз 40 — 50 гадоў? (Пры гэтым асобна адзначалася, што маюцца на ўвазе менавіта ўзоры сучаснай літаратуры, бо каштоўнасць класічнай спадчыны сумневу не падлягае).

Зразумела, меркаванні студэнтаў — суб’ектыўныя. У іх, як і ў кожнага чытача, — свае густы, погляды, літаратурныя прыярытэты. Таму зусім не дзіўна, што ў ацэнках творчасці адных пісьменнікаў яны кардынальна разышліся, а наконт іншых — аднадушна пагадзіліся.

Дацэнт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта Ала Бразіхіна прапанавала сваім студэнтам далучыцца да гаворкі. Такім чынам, сёння ў чытачоў “ЛіМа” ёсць магчымасць пазнаёміцца з меркаваннямі навучэнцаў філалагічнага факультэта ГДУ.

Л. А.

# А што там далей?




## Веру ў шчырасць

Даўно сказана, што мінулае ёсць пачатак будучыні. Менавіта клопатам пра будучыню беларусаў як нацыі, якой суджана існаваць на працягу многіх стагоддзяў, народжаны творы на гістарычную тэму. Таму я лічу, што скарбонку лепшых мастацкіх палотнаў, якія здольныя захапляць прыхільнікаў сапраўднай літаратуры наступных пакаленняў, будуць складаць творы такіх сучасных аўтараў, як А. Дудараў, А. Наварыч, В. Іпатава. Галоўная ж задача пісьменнікаў нашага пакалення заключаецца, перш за ўсё, у тым, каб найбольш дакладна і шчыра адлюстраваць гістарычную праўду сённяшняга жыцця для наступных пакаленняў.

На маю думку, праз некалькі дзесяцігоддзяў пісьменнікі будуць пісаць так, як пісалі нашы класікі, у крайнім выпадку, не горш. Галоўнае, што патрабуецца ад майстра слова, заключаецца, перш-наперш, у тым, каб твор быў напісаны праўдзіва і шчыра, бо хлусня, нават зусім невялічкая па сваіх памерах, імгненна адчуваецца і такі твор, наўрад ці знойдзе свой шлях да сэрца чытача, выхаванага на лепшых узорах айчыннай класічнай літаратуры.

Сюжэты твораў будуць усё больш захапляльнымі. У сувязі з гэтым хачу ўзгадаць майго любімага пісьменніка Івана Шамякіна, якому, упэўнена, няма роўных у мастацтве ствараць займальны сюжэт. Калі ж гэта будуць вершаваныя радкі, няхай яны будуць падобныя на пяшчотныя і дужа сардэчныя “гісторыі ў вершах”, якія належаць пяру вядомай беларускай паэтэсы Е. Лось.

Хочацца верыць у тое, што праз некалькі дзесяцігоддзяў за кнігамі айчынных празаікаў і паэтаў будуць выстройвацца вялікія чэргі, а чытачы будуць нецярпліва чакаць адкрыцця кнігарні дзеля таго, каб набыць кожны новы твор, напісаны таленавіта і па-беларуску.

АЛЕНА ПАЎЛАВА, 5 курс

## Будучае за інтэлектуальным чытачом

Думаю, паступовае паніжэнне прамалінейнай умоўнасці мастацтва і імкненне да уніфікацыі — вось прыкладны шлях развіцця беларускай літаратуры ў наступныя 30 – 40 гадоў. Межы паміж літаратурай і сапраўднасцю “размыюцца”. Мастацтва слова перастане быць мастацтвам у звыклай нам форме, стане толькі фіксацыяй гэтай рэчаіснасці, яе дубляваннем (эскалацыя плыні нон-фікшн у сучаснай літаратуры — таму пацвярджэнне).

Магчыма, з цягам часу відазменіцца формы традыцыйнасці. Вонкавы кансерватызм зменіцца больш складанай устойлівасцю ўнутраных фактараў, якія арганізуюць літаратуру. Сама традыцыйнасць пры гэтым не знікне – яна стане толькі менш прыкметнай. Мастацкі твор больш не будзе ўяўляцца скончаным і застылым “матэрыялізаваным” фактам. Кожны чытач зможа самастойна працягнуць сюжэт, па меры сваёй адукаванасці. То бок літаратура будзе адпавядаць запатрабаванням розных сацыяльных катэгорый, стане універсальнай.

Хуткасць змены стыляў і кірункаў усё больш паскорыцца — выразны знак іх надыходзячага канца. Аднак на змену вялікім стылям і кірункам прыйдуць індывідуальныя стылі, роля якіх будзе павялічвацца па меры росту ў літаратуры асобаснага пачатку. Развіццё індывідуальных стыляў нароўні з велізарнымі магчымасцямі, якія яно адкрывае, звязана з вялікай небяспекай: з’яўленнем “псеўдастыляў”, штучна прыдуманых тэрмінаў і дэфініцый. Таму велізарнае значэнне будзе мець рост асабістай культуры чытача, здольнага зразумець літаратуру.

Сярод сучасных творцаў, чые імёны стала асацыіруюцца з эксперыментальнай паэзіяй, безумоўна, застанецца ў гісторыі літаратуры А. Разанаў, якога ўжо сёння можна назваць “жывым класікам”, сярод празаікаў гэтае месца, на мой погляд, належыць В. Казько. Магчыма, будуць цікавымі для нашчадкаў лепшыя вершы В. Шніпа і А. Глобуса. Аднак у прозы апошняга з названых пісьменнікаў, думаю, будучыні няма. У межах развіцця “урбанфіласофіі”, якая можа стаць адной з дамінантных тэндэнцый “новай літаратуры”, вытрываюць У. Арлоў, Г. Дубянецкая, а таксама маладая паэтэса В. Трэнас.

Заўтрашні дзень працягне не толькі сённяшні, але і ўчарашні: паводле вартаснасці ацаніць сучаснае мастацтва можна толькі на фоне стагоддзяў. Якім будзе аблічча беларускай літаратуры праз 30 – 40 гадоў залежыць ад таго, што дзеля яе развіцця зробім сёння. Адзінае можна сказаць дакладна: будучае мастацтва слова не столькі за адыёзнымі памкненнямі саміх аўтараў і звышфіласофскім зместам іх твораў, колькі за інтэлектуальным чытачом.

АЛЕСЬ БАРАНОЎСКІ, 4 курс

## Перамога пасіянарнасць

Размаўляла напярэдадні з сяброўкай, таксама філолагам. Спытала яе: “А што будзе з беларускай літаратурай гадоў праз трыццаць, як лічыш?” Думала нядоўга: “Ведаю, што мае дзеці наўрад ці будуць чытаць творы па-беларуску...” Размаўляла з настаўнікам са школы, якую скончыла, бо цікава пачуць меркаванне ўсебакова адукаванага і проста цікавага чалавека. Мой ранейшы настаўнік па гісторыі ўпэўнены: “Літаратура — культурны працэс, які адбываецца на працягу амаль чатырох тысячагоддзяў, і вось так узяць і скончыць сваё развіццё, а тым больш існаванне, не зможа”. Вось так. Як бачыце, акрамя песімістычных адказаў тыпу “канец беларускай літаратуры”, нямала і людзей, настроеных пазітыўна. Гэта прыемна. Сапраўды, пакуль жыве чалавек-стваральнік культурнага працэсу, напрыклад, мой таленавіты аднагрупнік Алесь, вершы якога друкаваліся неаднойчы (а жыць і пісаць ён будзе доўга), будуць і вынікі пачуццёвай дзейнасці творчай асобы.

Згадзіцеся, што многія кнігі сучасных, асабліва маладых, аўтараў цяжкавата знайсці ў кніжных крамах побач з атласамі і дапаможнікамі абітурыентам. Сёння ў пошуках упадабаных словатвораў дапамагае беларускі Internet, які ўжо наплёў усеабдымнае павуцінне сайтаў. Нягледзячы на выдаткі “сеціратуры” (суседства таленавітых і графаманскіх твораў), менавіта Internet у будучым дапамажа развіццю нашай літаратуры і, здаецца мне, можа адбыцца, што выкарыстанне яго павуціна-сайтавай мовы народзіць новыя напрамкі ў літаратуры. Калі былі ўжо pager-вершы, быць можа, з’явяцца якія-небудзь незвычайныя net-вершы. Чым не новае адгалінаванне ў паэзіі? У гэтым кантэксце трэба згадаць А. Хадановіча, які, магчыма, застанецца ў гісторыі беларускай паэзіі як адзін з таленавітых пачынальнікаў літаратуры на tut.by, што будзе плённа развівацца і далей.

Сучасны фармат беларускай літаратуры знаёміць нас з мноствам імёнаў і стракаціць тэкстамі на любы густ. Мы ўжо перастаём здзіўляцца той колькасці творцаў, што ўпрыгожваюць сёння і без таго харызматычнае, шматнастраёвае аблічча нашай літаратуры. Але ці многія з іх застануцца ў памяці? Дакладна, што з падручнікаў і хрэстаматый не знікне імя паэта-філосафа, паэта-рэфарматара А. Разанава. Упэўнена, што ўшанавана будзе творчасць паэта-пасіянарыя А. Сыса. Магчыма, некаторыя творы постмадэрнісцкага характару таксама стануць не толькі часовым захапленнем-забаўкай для сучаснікаў. Маю на ўвазе гомельскага пісьменніка С. Балахонава. Ягоны зборнік “Імя грушы” падабаецца цікавым і інтрыгуючым сюжэтам, некаторыя часткі можна параўнаць са стылем Барыса Акуніна.

На пытанне “Што адбудзецца з літаратурай?” смела адказваю: літаратура адбудзецца і будзе адбывацца зноў і зноў, бо ў любыя часы жывуць пісьменнікі-пасіянарыі, якія вядуць адзін з адным пераклічку праз стагоддзі і абараняюць святое ў літаратуры. Іх шмат, гэтых анёлаў-ахоўнікаў, і не толькі літаратуры, а і іншых відаў мастацтва.

А праз дваццаць-трыццаць гадоў беларускую літаратуру будуць рэабілітаваць, калі спатрэбіцца, дзеці маёй сяброўкі.

ВЕРА КРЫЎЦОВА, 4 курс

## Застанецца сумленне

Для кожнага з нас заўтрашні дзень — загадка. Цяжка нават адказаць, што можа здарыцца нават праз некалькі імгненняў ці хвілін з нашым жыццём. Вядома, што час — гэта хуткаплынная рака. Таму напісанае можа быць сёння актуальным, але заўтра апынуцца на запыленых паліцах.

Сумленны пісьменнік часцей за ўсё хвалюецца за тое, што застанецца ад яго і пасля яго. Сапраўды, што здарыцца з беларускай літаратурай праз 30 – 40 гадоў? Ці працягнецца “эра малых жанраў”, або ізноў надыдзе час раманаў-эпапеяў? Сённяшняе пакаленне не любіць чытаць. Ці жадалі класікі, каб іх чыталі ў сухім, бяздушным скарочаным варыянце? Адказаць няцяжка, але пачуццё сумлення трапіць у будучыню, на жаль, у скажоным выглядзе, кароткім пераказе бацькоў у стылі “што такое добра і што такое дрэнна”.

Магчыма, праз паўстагоддзя стануць папулярнымі кнігі ў адзін радок ці нават у адно слова. У сусветнай літаратуры гэта існуе і зараз. Нядаўна атрымаў узнагароду пісьменнік за твор, які складаецца з усяго толькі аднаго радка — трох слоў, са змешчанымі ў кнізе ілюстрацыямі і крытычнымі каментарыямі. Мабыць, гэта і ёсць сапраўдная эстэтыка, “мастацтва дзеля мастацтва”...

Набылі цікавасць электронныя варыянты кніг. Чалавек лянуецца сам шукаць патрэбны твор, а часцей звяртаецца да інтэрнэт-рэсурсаў. Але якасць выкладзенага матэрыялу пакідае жадаць лепшага: памылкі ў напісанні, адсутнасць многіх знакаў прыпынку часта мяняюць нават сэнс твораў. Спажывец літаратуры развучыўся звяртаць увагу на якасць зместу і формы падачы кнігі. Традыцыя і сама сутнасць назвы “кніга”.

Хто ведае, што будзе пасля? Галоўнае, каб беларуская літаратура заўсёды займала пачэснае месца ў агульнанароднай свядомасці і не страчвала сусветнай вартасці. А вось клопат пра змест і форму даўно ўжо застаўся за плячыма сучаснікаў. Так, творы Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, Д. Бічэль-Загнетавай — новая класіка на рубяжы тысячагоддзяў. Запатрабаванымі будуць і творы на гістарычную тэму, і найперш проза Л. Дайнекі, Л. Рублеўскай і інш. Не страціць актуальнасці, на жаль, і тэма Чарнобыля, а таму будзе папулярнай паэзія і М. Мятліцкага. З маладзейшага пакалення ёсць шанц застацца ў гісторыі ў В. Жыбуля і зусім юнай яшчэ Вікі Трэнас.

Разважаючы пра магчымыя шляхі развіцця беларускай літаратуры ў XXI стагоддзі, узгадваю радкі А. Разанава з “Пункціраў”: “адна сцяжына — і тая ў неба”.

Вікторыя АГЕЕВА, 3 курс

## Прагнозы — няўдзячная справа

Вось каб даведацца, што з беларускай літаратурай праз 40 гадоў будзе!..

Gdyby, ah gdyby na wierzbie rosly grzyby... Жыве чалавек — жыве яго цікаўнасць! І нічога ўжо з гэтым не зробіш.

Але вернемся да беларускай літаратуры. Па-першае, тое, што яна будзе існаваць, — гэта факт. Куды ж дзенуцца тыя творы, што ўжо напісаны? Надта ўжо складана ўявіць, што яны нейкім чынам проста знікнуць. Растварацца... Растануць... І адпраўляцца перасякаць прасторы сусвету. Жах!

Ці, можа, іх спаляць? Увіце: насуплены змрочны злыдня ходзіць па бібліятэках ды кніжных крамах, забірае ўсе кніжкі, а потым іх паліць. Яшчэ больш жах. Але бяда яго ў тым, што ён не будзе ведаць: да маёй маленечкай бібліятэкі ён дабрацца не зможа. І зноў — беларускія кніжкі будуць існаваць.

Па-другое, тое, што яна будзе развівацца, таксама факт. Пакуль існуюць тыя “вар’яты”, што захапляюцца беларускім словам і нават размаўляюць па-беларуску, літаратура на іх роднай мове будзе жыць, развівацца. Яны ж, гэтыя дзівакі, такія хітрыя: не проста сваёй літаратурай захапляюцца, яны і сваім дзецям дадумаюцца перадаць гэтае захапленне. А тыя дзеці — сваім дзецям, а тыя — сваім дзецям... Вось вам не такі ўжо складаны рэцэпт развіцця беларускага слова ў часе і прасторы.

А вось каб яшчэ даведацца, хто з сучаснікаў будзе праз тыя 40 гадоў радаваць мяне сваімі шэдэўрамі... Куды ж мы дзенемся без усіх тых, хто зараз ужо стварае свае непаўторныя, вялікія творы. Напрыклад, цяжка будзе ўявіць літаратуру без такіх асоб, як Змітер Вішнёў, Вольга Гапеева, Альгерд Бахарэвіч, Юрась Нераток. Хочаце правярыць? Сустрэнемся праз 40 гадоў.

А ўвогуле, літаратура — дама капрызная, наравістая. Хто ведае, куды яе занясе. І не тое што праз 40 гадоў, анават праз год. Будучыню занадта цяжка прадказваць...

Вольга ГРЫНЬ,
3 курс

## У пошуках вартасці

Мяркую, што ў бліжэйшыя 30 – 40 год у цэнтры ўвагі мастацтва будзе нацыя, у сваце стане модным адрознівацца ад іншых роднай культурай (аднак не саломай і лапцямі). Таму ў беларускай літаратуры і крытыцы застанецца Пятро Васючэнка, з уласцівай яму шчырасцю і далікатнасцю; сёння права перавярнуць літаратурны "пясочны гадзіннік" належыць гэтаму чалавеку.

Беларусь ператворыцца з Краіны Паэзіі ў Краіну Эсэ (эсэ, па сутнасці, — самы беларускі жанр, які гарманіруе з нашым менталітэтам, жанр, блізкі людзям, здольным тонка адчуваць, паволька думаць; эсэ не дорыць букет кветак, яно заманьвае іх водарам). Безумоўна, лідэрамі ў гэтай галіне застануцца Уладзімір Арлоў і Валянцін Акудовіч, апошні, дарэчы, трывала замацуецца ў гісторыі літаратуры (і не толькі) яшчэ і таму, што названы "беларускім філосафам" (гэта ўжо не святар-філосаф К. Тураўскі, не пісьменнік-філосаф Кузьма Чорны).

У сённяшнім рэзкім папаўненні колькасці жанраў аўтары самі разгубіцца, любое пісьмо прыйдзецца назваць творам, а гэта небяспечна для літаратуры. Таму многія з аўтарскіх жанраў знікнуць ці, у лепшым выпадку, пачакаюць свайго часу. Зменшыцца і колькасць аўтараў, многія з якіх сталі "пісьменнікамі" толькі дзякуючы лёгкаму працэсу выдання кнігі.

Аднымі з самых запатрабаваных стануць кнігі Р. Барадуліна. Будучы пенсіянер А. Хадановіч праз колькі год напіша чарговую кнігу і застанецца адным з самых папулярных паэтаў першай паловы XXI стагоддзя. Працягне ўвекавечваць жыццё свайго пакалення С. Прылуцкі. А вось творчасць З. Вішнёва, С. Мінскевіча, М. Мартысевіч і інш. хутчэй за ўсё будзе ўзгадвацца толькі ў якасці прыкладу пры напісанні тэарэтычных работ пра сучасны літаратурны працэс.

У прозе спрэчным, але папулярным застанецца Ю. Станкевіч, але хочацца, каб побач з'явіўся такі ж моцны па стылі, але больш светлы па тэматыцы пісьменнік. Не знікнуць з прозы і А. Федарэнка, А. Казлоў і інш. Месца другога боку "празаічнага" медаля будзе чакаць свайго творцу.

А вось выратавальніка беларускай драматургіі ў бліжэйшым будучым я не бачу. Напісанае А. Макаёнкам па сённяшні дзень чакае таленавітага нашчадка, які здолее прыняць тыя жанрава-стылёвыя і тэматычныя шляхі, якія былі адкрытыя з такой скрупулёзнасцю і ўважлівасцю. І. Сідарук, якога называюць самым таленавітым сучасным драматургам, на мой погляд, абсалютна далёкі ад жаданых вынікаў. Спробы паэтаў (Л. Дранько-Майсюк) і празаікаў (Ю. Станкевіч) напісаць п'есу таксама не зусім удалыя.

Чаго мы наўрад ці дачакаемся ў бліжэйшыя два дзесяцігоддзі, дык гэта беларускамоўнага кітчу і літаратурнай рэкламы на вулічных шчытах.

Беларуская літаратура моцна залежыць ад сацыяльна-гістарычных падзей. Хацелася, каб у будучым рашаючую ролю адыграла мастацкасць, каб літаратура адштурхоўвалася не ад знешніх умоў, а ад унутраных, уласна мастацкіх. Аднойчы беларуская літаратура вуснамі Кузьмы Чорнага малілася: "Памажы мне, Божа, знайсці дзверы ў маю будучыню". Дзверы даўно знойдзеныя, трэба проста падабраць правільны ключ, адзін з мноства магчымых.

ІРЫНА БАЖОК,
5 курс

## Tribus verbis

Што ж будзе з беларускай літаратурай праз 40 – 50 год? Большасць людзей цікавяць не творы ў любімым жанры, а "любімыя" (папулярныя, раскручаныя, аўтарытэтныя, модныя) аўтары. Але гэтак адбываецца скрозь у свеце. Таму мала пісаць таленавіта, трэба быць яшчэ "прамацыйна апрацаваным". А прамацыйна будуць апрацоўвацца ў беларускіх сродках масавай інфармацыі так званыя нацыястваральныя аўтары і творы.

Відавочна, што сённяшні чытач — не толькі спажывец масавай культуры, але і яе выхаванец. Тое, што раней сарамліва хавалася, сёння становіцца "культурным мэйнстрымам", а па сваей масавасці і ўздзеянні на фарміраванне густаў шырокай публікі часта значна пераўзыходзіць уплыў сур'ёзнага мастацтва. Адным словам, цяжка рабіць прагнозы. Але ёсць упэўненасць, што застанецца-вернецца класіка: творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, М. Багдановіча, Ул. Караткевіча і іншых.

Творчасць Р. Барадуліна, В. Быкава, антыутопіі А. Адамовіча не ўкладвалася ў афіцыйна вызначаныя рамкі, таму захаваецца надалей і будзе цікавай для "пераборлівага" чытача. Сярод старэйшага пакалення сучасных пісьменнікаў шмат тых, творы якіх сыдуць у нябыт, бо ўжо зараз з'яўляюцца "нечытабельнымі" (думаю, што абыдземся без імёнаў). Застанецца, на маю думку, экзістэнцыяльная і постмадэрнісцкая літаратура, якая прадстаўлена плеядай не менш таленавітых пісьменнікаў, чым класічная. Сярод такіх творцаў я асабліва вылучыла б А. Бахарэвіча, але вельмі шмат і розная "смецця".

Увогуле роля і месца літаратуры ў будучым грамадстве могуць быць з дастатковай грунтоўнасцю выяўлены ў тым выпадку, калі ў даследчай практыцы будзе ўлічвацца ўся складаная сукупнасць разнастайных фактараў, якімі абумоўліваецца і суправаджаецца літаратурны працэс. Як жа гэта зрабіць? Можа, адбудзецца рост колькасці беларускіх літаратурных выданняў? Верагодна, але гэта, на жаль, рэдка прыводзіць да росту іх якасці. Прарыў на замежныя рынкі? Няблага, але таксама наўрад ці паўплывае на ўвесь літаратурны працэс, бо ён не стане масавым, толькі што ў выпадку аб'яднання беларускага культурнага поля з нейкім іншым, еўрапейскім, расійскім, украінскім. Да таго ж галоўным бар'ерам яшчэ доўга будзе заставацца моўны.

Кацярына СІЛКОВА,
4 курс

## Погляд аптыміста, песіміста і рэаліста

Каб даведацца, якімі мы будзем праз колькі гадоў, дастаткова паглядзець на сваіх бацькоў. Наша будучыня заўсёды ў нашым мінулым. Што ж змянілася ў нашай літаратуры за апошнія 30 – 40 гадоў? На першы погляд, шмат чаго, аднак усе гэтыя змены абумоўлены былі ўсяго двума фактарамі. Першы звязаны з грамадска-палітычнымі зменамі, другі — з сусветнымі тэндэнцыямі ў развіцці літаратуры. Спрагназаваць гэтыя фактары складана.

Зразумела, што кожная нацыянальная літаратура мае сваю спецыфіку, свае цяжкасці, свае поспехі. Так, калі ў рускай літаратуры ідзе дыскусія, як жа сярод безлічы гламурна-дэтэктыўных раманаў адшукаць твор, які можа прэтэндаваць на статус класікі, то ў нас па вядомых прычынах праблема іншая: як знайсці чытача, які возьме ды й пачытае па-беларуску, і для нас зусім неістотна, ці будзе гэта сапраўдная папяровая кніга або раман на нейкім электронным носьбіце. Дарэчы, пытанне, ці здолее выжыць кніга ў сваёй звычайнай форме ў эру камп'ютэрных тэхналогій, на мой погляд, такое ж недарэчнае як пытанне, ці не знікне тэатр ва ўмовах існавання тэлебачання. Канечне, кніга, звычайная папяровая кніга, застанецца, таму што нармальны пісьменнік будзе заўсёды марыць, каб яго шэдэўр не патануў недзе ў вялікай павуціне, а існаваў рэальна на паліцы, быў бы часткай гэтага рэальнага складанага свету, а не часткай сусветнай інфармацыі.

Што ж тычыць канкрэтных прагнозаў, то я маю тры версіі.

Аптымістычная, амаль што утапічная. Беларуская літаратура будзе перажываць сапраўдны бум, бо на беларускай мове пачнуць пісаць усё: ад інструкцый на асвяжальніках паветра, нізкапробных дэтэктываў і кулінарных кніг да высокай, незразумелай большай часткі чытачоў літаратуры. Версія малаверагодная, аднак такая жаданая, што хочацца зараз жа сесці і напісаць іранічны дэтэктыў для нейкай хатняй гаспадыні. Няхай такі твор і не пакіне следу ў гісторыі, аднак сваю маленькую, але важную місію ён усё ж такі выканае.

Песімістычная. Рускамоўная беларуская літаратура стане ключавой з'явай у нашай літаратуры. Адпаведна беларуская літаратура будзе развівацца ў кантэксце рускай літаратуры. На шчасце, таксама версія малаверагодная. Заўсёды знойдзецца свой Багушэвіч, які выцягне літаратуру на ўзровень Купалы і Багдановіча.

Рэалістычная. Асабліва нічога не зменіцца. З'явіцца нейкі новы постпостмадэрн, які старэйшае пакаленне будзе лаяць, а малодшае ўсхваляць. Магчыма, на іншы ўзровень выйдзе літаратура, дзякуючы кіно. Паколькі экранізацыя — гэта заўсёды паспяховая рэклама кнізе, то і літаратары будуць імкнуцца ствараць нейкія "кіношныя", экспартныя творы. Несумненна, з'явіцца і новая класіка. Зразумела, што не ўсе сённяшнія творы вытрымаюць іспыт часам. На мой погляд, будуць актуальнымі праз 30 – 40 гадоў творы Ю. Станкевіча, бо, з аднаго боку, ад іх не вее нафталінам (і з боку зместу, і з боку формы), а з другога — яны захоўваюць традыцыйны зварот да агульначалавечых каштоўнасцей. З паэтаў папоўніць невычарпальную скарбніцу беларускай літаратуры А. Хадановіч, якога вельмі хочацца параўнаць з М. Багдановічам (нават прозвішчы сугучныя), і не столькі па ўзроўні паэтычнага таленту, колькі па незвычайнай здольнасці выназходзіць нешта новае. Думаю, што квіток у будучыню не атрымае жаночая паэзія (В. Трэнас, Т. Сівец, М. Мартысевіч і інш), бо кактэйль з напускной, штучнай інтэлектуальнасці і жаночай эмацыянальнасці наўрад ці каго зацікавіць у будучым.

Адно можна спрагназаваць дакладна: у беларускай літаратуры ёсць будучыня, а гэта ўжо сам па сабе неблагі прагноз для нас, беларусаў.

Таццяна ШЫШОВА,
5 курс

Фота Кастуся Дробава

# Творчы вір Вольгі Русілкі

**У красавіку Алег Салтук, рэцэнзуючы зборнік Вольгі Русікі "В. І. Р.", пісаў, што "трэцяя па ліку кніжка яе адметная сваёй жыццёвай напоўненасцю, шчырасцю і непасрэднасцю". Сёння, працягваючы абмеркаваннетворчасці паэткі хацелася б засяродзіцца на яе іншых, менш заўважных, мастацкіх адмеетнасцях.**

Пачатак 1980-х гадоў у беларускай літаратуры быў адзначаны як час адкрыцця новых паэтычных дараванняў. На старонках літаратурных часопісаў і газет пачалі з'яўляцца творы Уладзіміра Мазго, Любові Тарасюк, Міколы Мятліцкага і іншых. Менавіта да гэтай пісьменніцкай плеяды належыць і Вольга Русілка.

"Вершы вершыць лёс, надыктоўвае і сціпае..." Гэтыя вершаваныя радкі з новага зборніка паэзіі Вольгі Русілкі "В. І. Р" (2009) характарызуюць асноўны пафас яе творчасці: яна піша пра асабіста перажытае, глыбока адчутае. У многім яе вершы — уласная біяграфія, сам жыццёвы лёс з яго перыпетыямі, пошукамі і знаходкамі...



Хвалюючая змястоўнасць, глыбокая эмацыянальнасць, кранальная шчырасць — вызначальныя рысы паэзіі Вольгі Русілкі. Ды яшчэ, на маю думку, творчай манеры аўтара ўласціва па-свойму ашчаднае і далікатнае абыходжанне са словам. Гэтая своеасаблівая "пільнасць" паэтычнага почырку Вольгі Русілкі — вытанчаная дакладнасць вобразаў, трапнасць вызначэнняў, выключная яркасць метафорыкі — верагодна, не толькі прыроджаная, але і выхаваная прафесійнай дзейнасцю.

Зборнікі вершаў "Табе" (1996) і "Ажына" (2004) адразу ж прыцягнулі ўвагу і чытачоў, і літаратуразнаўцаў. Першы зборнік засведчыў, што ў літаратуру прыйшоў адораны паэт — непасрэдны, арыгінальны, гранічна шчыры. А ўжо другі зборнік даў падставы гаварыць пра імклівы рост творчага майстэрства аўтара, пашырэнне праблемна-тэматычных абсягаў паэзіі... Так, напрыклад, у лімаўскай рэцэнзіі Лада Алейнік заўважыла: "...Пачуцці, якімі дзеліцца аўтарка, уражваюць своеасаблівай "пазнавальнасцю": яны знаёмыя ці не кожнаму, хто аднойчы пакінуў утульную цеплыню бацькоўскай хаты і апынуўся ў вірлівым "вялікім" свеце, дзе зведаў слодыч эйфарыі дасягненняў і горыч расчараванняў ад няспраўджаных спадзяванняў. Адчуванне ўласнай безабароннасці перад гэтым светам, няпэўнасці і няўпэўненасці, разуменне зменлівасці лёсу — перажыванні, натуральна ўласцівыя жывой душы, выяўляюцца ў вершах з трапяткой эмацыянальнай вытанчанасцю. За гэтай паэтычнай шчырасцю расхінаецца пластычная і рухомая вобразная рэальнасць, дзе пяданы мастацкая канцэпцыя свету і асобы".

Варта заўважыць, што ў сваім новым зборніку Вольга Русілка не адыходзіць ад асабістых "паэтычных традыцый". Вершы яе працягваюць кранаць душэўнасцю, эмацыянальнай прачуласцю, тонкім лірызмам. Яны па-ранейшаму вельмі асабовыя і асабістыя.

Тэмы малой радзімы, вёскі, бацькоўскай хаты, першых уражанняў, якім раней ужо было прысвечана нямала паэтычных твораў, атрымалі мастацкія ўвасабленні і ў новым зборніку Вольгі Русілкі. Сярод іх — вершы, прысвечаны роднай вёсцы Берашты, які выяўляе пачуццё непарыўнай паяднанасці асобы з той мясцінай, дзе быў зроблены першы крок у вялікі свет... І аднагасова ў радках увасоблена вытлумачэнне вытокаў мастацкага таленту аўтара, самой прыроды паэтычнага светаасэнсавання:

Крык народзін
маіх самы першы,
Сон юнацтва
наіўна-бязгрэшны,
Вёска родная – Берашты.
Тут у садзе растуць мае вершы,
А ў хаце дзяды
лёс мой вершаць,
Вёска родная – Берашты...

Не пакінута без увагі ў кнізе "В. І. Р." гэтаксама тэма каханння. Інтымная лірыка Вольгі Русілкі вельмі разнастайная. Гэта натуральна. Каханне, як вядома, здольна натхняць і акрыляць, дарыць хвіліны найвышэйшага шчасця, але яно можа разбураць і нішчыць, прымушаць глыбока пакутаваць... Вершы "Якое там каханне...", "І вось цяпер...", "Гэта як подых...", "Ён не вернецца ў жоўты верасень...", "На развітанне..." і іншыя ўвабралі шырокую гаму пачуццяў і перажыванняў, уласцівых каханню, закаханым. Яны лірычныя і іранічныя, рамантычныя і драматычныя...

І хай стамлёнаю рукою
Мне жнівень атуляе стан.
Прасіла ў долечкі спакою,
А ты маёй трывогай стаў.

Асаблівасцю кнігі "В. І. Р." з'яўляюцца тэматычна новыя вершы, якія ўражваюць надзвычайнай глыбінёй пачуцця, несхапсальнай пяшчотай, кранальнай мілагучнасцю. Гэта творы, прысвечаныя тэме мацярынства, — "Дачушка!", "Я цябе чую...", "Старыя лісткі", "Трывога", дзе абвостранасць унутранага перажывання спалучаецца са светлай радасцю, надзеяй...

Зерне, парастак, сцяблінка –
падрастай, мая дзяўчынка.
Кволая пупышка, кветка –
расцвітай, мая ты дзетка.

Вольга Русілка, несумненна, — паэт-традыцыяналіст. Яна ў асноўным прытрымліваецца класічных формаў верша, галоўную ўвагу надае сэнсу твора, і новы зборнік аўтара — доказ таму. Тут галоўны акцэнт робіцца на рэфлексію, эстэтыку вобраза, а таксама – на чытацкі роздум і разуменне. Аднак вядома, што фактычна кожны мастак, часам, робіць спробу эксперыменту. Дык вось трэба падкрэсліць, што эксперыменты Вольгі Русілкі (якіх, праўда, у кнізе "В. І. Р." няшмат), цалкам удалыя. Трэба заўважыць, што зборнік "В. І. Р." склалі не толькі вершы. Тут змешчаны гэтаксама празаічныя мініяцюры ("У нас такое прымаўкоў", "За такое калыханне", "Файно, от файно" і іншыя), дзе аўтар па-мастацку дасціпна дэманструе сапраўдны каларыт беларускай вёскі і яе жыхароў. Апроч таго, у кнігу ўвайшлі перакладзеныя Вольгай Русілкай вершы Яўгена Голубева (Даўгаўпілс). Па вялікім рахунку, гэтая кніга яшчэ раз засведчыла не толькі шматграннасць таленту, але значны мастакоўскі патэнцыял Вольгі Русілкі.

Алесь ГРЫБОЎСКІ



## Алесь ЧОБАТ

### Самалёт

Смерць нідзе не ходзіць сама —
Звыклая ёй адзінота, самота;
Смерць ляжыць — як зямля, і зіма,
І месца выбуху самалёта.

На крыжаванні бяроз і нябёс
Перасякаюцца проста і прама
Шлях да ямы, — па імені Лёс, —
З дзірой у зямлі — па імені Яма.

А што было і чаго не было,
Гісторыя потым напіша крывая —
Цемра раней, ці раней святло,
Сусвет у дзіры, ці яма без края?! —

Цяпер на адзінай вечнай мяжы, —
Па імені Смерці Вечныя Дзверы, —
Цені таўкуцца — жыцця, душы,
Сумлення, страху, памяці, веры…

### Ты і я

Даўно было тое і адляцела,
цяпер спакой — каб паспамінаць,
як слёзкі прыймаць і з вочак, і з цела,
і подых твой у свой подых прыймаць.

Даўно было жыццё не такое,
цяпер другое — якое ёсць,
у розных пакоях цяпер мы двое,
і ў нас другія і кроў, і косць.

Прайшлі шпіталі і пераломы,
тваё сэрца хворае, я сляпы —
чаго зноў жыць? Каб дзесятак знаёмых
ізноў пільнавалі, дзе я і ты?!

Не ты і не я цяпер ты і я,
так выйшла абодвум —
і смерць незадоўга;
царквы, касцёлы і Быція
памяць, і праўда, і проста доля…

### Я знаю даўно…
### (з Юрыя Левітанскага)

Я знаю даўно,
што калі паміраюць людзі
і прымае зямля
іх душаў навонак зямны, —
пераменаў ніякіх у свеце.
Другія людзі
гэтаксама жывуць далей —
ад адной да другой сцяны.

Гэтаксама снедаюць,
сварацца, абдымаюцца,
ідуць па закупы,
цалуюцца наўзадых,
ў лазнях мыюцца,
ці на сходах маюцца,
свет не рушыцца —
ўсе на месцах сваіх.

Але ў смерці кожнай
скураю чую: рушыцца!
У імгненне апошняй —
кароткай, як стрэл! — цішыні
неба рушыцца,
зямля рушыцца,
і не чуюць такога
нелюдзі хіба адны…

### «Бо стала цесна…»[1]

Быў вінаваты ткацкі станок —
бо сам па ім бегаў чаўнок,

потым нітку, — як злётку! —
круціла сама калаўротка,

потым механік Ват
прыдумаў узяў апарат —

і была ўжо стальная машына
народнаму гору прычына,

а потым крыклівае радыё
акіянкай свет загадзіла,

потым прыйшло кіно —
у ружовы дурман завяло.

а нямала і сёння пакутаў —
цяпер вінаваты камп'ютэр,

бо ў наш XXI век
лішні сам сабе чалавек.

### Вясна

Сон мой адвечны, хамскі і панскі,
ізноў абудзіць цяпло вясновае —
зазелянее край партызанскі,
запалымнее зара вечаровая.

"Сонца свабоды праз хмары, цёмныя
узыйдзе ясна над нашай нівою,
і будуць жыці дзеткі патомныя
нашаю доляй, доляй шчасліваю!"

Так і напіша ноччу ў завулку, —
і застанецца ў цемры прычына! —
з Лібава-Роменскай мінскай чыгункі
інжынер Неслухоўскі vel[1] Янка Лучына.

### Мёртвыя душы

«Не совершается ли уже,
пока мы здесь говорим,
какое-то страшное
и безмолвное дело?»
Николай Гоголь

Круціца кола — сям'я і школа,
жыцця апошняя пядзь,
а голад і холад, як серп і молат,
даўно ў падручніках спяць.

Круціцца вецер у небе голым,
ноччу косці баляць,
а ўздоўж бяссонніцы —
верхам і долам —
мёртвыя душы стаяць.

Стаяць шыхты
на бяссонных манеўрах,
граюць ролю сваю
з легендаў і казак пра касінераў
ці Залатую Жняю.

Стаяць і чакаюць, калі я згіну,
ці прыйдзе спакойны скон —
дакосіць Ясь сваю канюшыну,
дажне Пані Смерць загон…

А я, калі гэтай ночкай не здохну
і смерць перайду, як мяжу,
то па-ўкраінску —
у версіі львоўскай! —
Гогалю ў Рым напішу.[1]

---

[1] Радок Якуба Коласа "Бо стала цесна, з той прычыны…"
[1] vel (лац.) — альбо, іначай.
[1] З прафесурай з Лемберга-Львіва ў 1840-х гадах Гогаль перапісваўся па-ўкраінску, бо ён быў чалавекам еўрапейскай культуры; украінская мова пад Аўстра-Венгрыяй лексічна і фанетычна была троху іншай, чым пад Расійскай Імперыяй…



## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

* * *

Позірк цнатліва-цікаўны
Ясных блакітных вачэй…
Хто ты, мая Яраслаўна?
Мрою спаткаў я знячэў?

Голас — бы звонкія льдзінкі
У марыве летняга сонца.
Хто ты, багіня-дзяўчынка,
Кветка у марах бясконцых?

Ты застанешся ў санетах,
Што я сплятаю ў вянок, –
Краска ў зяленіве лета,
Шчымнага шчасця глыток…

* * *

Снегам зацярушыла валасы мае…
І чаго яшчэ табе, дружа, не стае?
Ворагаў бязлітасных
ці сяброваў злых?
Не, каханне чыстае,
ты — мой кожны ўздых!
Промнямі апошнімі апалі душу,
Лугам будзь няскошаным,
Я цябе прашу!
Вуснамі вішнёвымі
Моцнага віна,
Ноччу вераснёвыю,
Выпітай
Да
Дна…

* * *

Яблыкі беланаліўныя
Радасцю беласунвецяцца,
Быццам зярняткі жніўныя,
Залатапромна свецяцца…

### Чарніцы

Ледзь толькі рэха навальніцы
Растала ў летняй цішыні,
У лес чарніцы-чараўніцы
Нарэшце мы збіраць пайшлі.

І сінь з туманам белым ягад
Настолькі вабіла пагляд!
Сябе былі мы цешыць рады
У чарнічным царстве зор-наяд.

І колькі прыгаршчаў ляснога
Жывога шчасця ў нас было!
Не трэба слодычу другога,
Калі каханне расцвіло!

Адчуў я смак салодкіх вуснаў
І дотык-шэпт любімых рук.
Пагляд твой спапяліў спакусны
Мяне і выдаў сэрца стук.

Няхай спявае навальніца,
Малюе ў небе агняцвет…
Мы пойдзем зноў збіраць чарніцы,
І зноў закружыцца Сусвет…



## Кастусь ЖУК

### Санцакос

На пажухлыя пакосы
Сонца ўпала прамянямі.
І гуляе ветрык босы
З разамлелымі чмялямі.

Выпіла азерца — неба…
Неба — выпіла азерца…
І прапахла поле — хлебам.
І прапахла хлебам — сэрца.

Конік — скокам, конік — бокам
Вальс танцуе свой старанна.
І сарока-белабока
Рассмяшыла смехам ранак.

Песціць песню жаваронак.
Канаплянка вучыць ноты.
Басавітыя вароны
Падпяваюць ім, блазноты.

Меданосна, высакосна
Выпахлі лугі ў даліне.
І павук на сонца кроснах
З павуціння
Тчэ націнне.

Бусел лоўка галавою
Кланяецца ў пояс травам.
І ласі да вадапою
Крочаць па сцяжынцы млява.

Не забуду ўсё, што чую.
Не забуду ўсё, што бачу.
Тут я сёння — заначую.
І паплачу… дню на ўдачу.

### Апантана

Душою ўрастаю
У зялёную замець лясоў.
І няма даражэй — небакраю.
І няма даражэй — верасоў.

Ад ласа, ад рыжухі лісіцы
Навучуся жыццю спакваля.
А з крыніцы жывое вадзіцы —
Пры сустрэчы пап'ю апасля.

Адгавецца душою паспею
І ачысціцца ад мітусні.
Мой ажыннік — у сэрцы даспее,
А чарнічнік — у дум глыбіні.

Мне ад лесу нічога не трэба,
Толькі б жыў тут Лясун-барадач.
І спрыяла ўсёй жыўнасці — неба.
І махначыўся сам ён, махнач.

### Чацвер

Хоць развучыўся
верыць я ў людзей,
Ды продкам — веру,
Бо кожны пераджыты мной чацвер —
Не зычу й зверу.

Чамусьці забіраў (маіх!) чацвер
У шлях апошні.
Не зранку рыпацеў тады асвер —
Апоўдні.

Карцела працаваць яму тады,
Як і належыць,
Бо не хапала ў той чацвер вады,
Як людзям — сцежак.

Як сонцу — промняў не хапала ў той
Чацвер ля дачы,
Так не хапала і вады жывой,
Каб лёс з'іначыць.

І рыпацеў спагадліва асвер
Сушлівым летам —
Каціўся слуз гарачых мой давер
Да ног кабетаў.

Счацвертавала ты мяне, жыццё,
І знелюбіла.
І што мне забыццё і небыццё?!
Я сам — магіла.

* * *

Паэты чытаюць вершы —
І гром раскалыхвае цішу.
З іх кожны — галоўны і першы,
Бо кожны — сакральнае піша.

Паэты бароняць вершы
Няўрымсліва, ашалела.
Яны — эпахальнае вершаць,
Душу спапяляючы, цела.

Грахоў спапяляючы нішу,
Паэты — жыцця праўдасветы…
Паэты — крывёй сваёй пішуць,
Таму яны — і паэты.



Фота Віктара Кавалёва

# Спёка

## Апавяданне



Мікола АДАМ

Суднік застагнаў. Ён прыхіліўся спінай да валуна, асцярожна выцягнуў параненую нагу.

Паклаўшы аўтамат на калені, Суднік нясмела датыкнуўся да раны. Боль адразу пранізаў яго тысячамі голак, давёў ледзь не да непрытомнасці.

Стрэлы аддаляліся некуды ў горы, заціскаліся скаламі. Суднік глядзеў на мокрую штаніну, пад якой крывянілася чырвоная лужына, і ні на што не звяртаў увагі, акрамя сваёй параненай нагі і крыві пад ёй, скрыгочучы зубамі і кусаючы губы, каб не заплакаць.

У небе захлебасталі верталёты. Суднік мітусліва паспрабаваў падняцца, але параненая нага згіналася, як галіна, і ён падаў на яе, угрызаючыся зубамі ў зямлю, каб не завыць ад нясцерпнага болю. Ён махаў, як сцяжком, кепкай, мокрай і бруднай ад поту, каб яго заўважылі і забралі, бо сам ён не мог даклыпаць да месца пасадкі верталётаў, а калі б і рашыўся на такі ўчынак, наўрад ці здолеў бы адолець і дзесятак крокаў, — падстрэлілі б, як зайца. Між тым, верталётчыкі таксама рызыкавалі, забіраючы параненых і тых, хто застаўся пад моцным абстрэлам.

Калі машыны падняліся ў неба без яго, Суднік даў волю слязам. Ён плакаў, не саромеючыся (каго было саромецца тут?), размазваючы і глытаючы горкія слёзы. На яго забыліся ці палічылі зніклым без вестак або палонным. І цяпер няма на каго разлічваць, апроч сябе.

Але хіба ён вінаваты ў тым, што выбуховай хваляй яго адкінула на гэтыя скалы? Дзякуй богу, што хрыбет не зламаў, як запалку, аб камяні. Хіба ён вінаваты і ў тым, што яго падстрэлілі крадком, з-за вугла? Калі б не добра выпрацаваная рэакцыя, не ўдалы скок уніз галавой за гэты валун, не было б Судніка. Лепш бы яго забілі, чым пакінулі тут жывым аднаго.

І што цяпер рабіць? Такою спякотаю не тое, што параненаму, здароваму ці пад сілу зрабіць кіламетры тры? Ды спёка адно: яшчэ скалы па дарозе, якія сочаць за кожным тваім крокам, гатовыя выплюнуць смяртэльны свінец у любую хвіліну. Правёўшы разведку боем, разлік, у якім Суднік болей, відаць, не лічыўся, з пэўным поспехам вярнуўся з задання на заставу, да якой тры кіламетры, не так ужо і шмат, але яны страшылі Судніка, як пасажыраў "Тытаніка" воды акіяна.

Суднік абцёр узмакрэлым рукавом лоб: пот бруднымі пісягамі сцякаў па шыі за каўнер. Хацелася курыць. Але цыгарэт не было, забыўся іх узяць з тумбачкі ў спешцы… хаця б які цянёк…

Хацелася і курыць, і есці, і да ветру. Апошняе непакоіла ўсё больш, здавалася, яшчэ крыху, і мачавы пухір лопне… Так бывае пасля піва. Суднік паспрабаваў падняцца, выкарыстоўваючы аўтамат замест мыліцы. З трэцяй спробы яму ўдалося моцна стаць на здаровую нагу, але параненай не мог і варухнуць: па ўсім целе расцякаўся такі боль, што хоць кідайся на скалу і драпай яе пальцамі і зубамі.

Праскакаўшы на адной назе пару метраў, Суднік спыніўся, скінуў ХБ, споднюю кашулю, апрануў ХБ на голае цела, кашулю парваў на бінты і на іх жа справіў патрэбу. Вярнуўшыся на месца пад утульным валуном, пачаў перавязваць рану, туга сцягваючы канцы, каб спыніць крывацёк.

Прыкметна палегчала. Але адольвала спякота. Як на здзек, і флягу з вадою, і НЗ Суднік згубіў, мабыць, падчас выбуховай хвалі.

Насунуўшы кепку на вочы ад сонца, ён склаў на грудзях рукі, задумаўся. Палез у кішэню, дастаў некалькі канвертаў з лістамі і фотаздымкам Сашы. Лісты таксама былі ад Сашы, і іх назбіралася даволі шмат, Суднік захоўваў іх у казарме пад матрасам. Гэтыя два не паспеў адкласці. Фотаздымак заўсёды насіў з сабой. На ім Саша была ў джынсах і ў белай майцы, сфатаграфаваная на фоне летняга парку: светла-русыя валасы, заплеценыя ў дзве коскі, як у Пэпі Доўгая Панчоха з фільма, вялікія зялёныя вочы нечаму ўсміхаліся, над правай верхняй губкай, нібы шакаладная кропелька, нерухома застыла радзімка. Саша сядзела на лаўцы і некага чакала. Чакала яго, бо якраз Суднік і фатаграфаваў тады дзяўчыну.

…Яны былі аднакласнікамі.

Суднік вучыўся абы-як, бо цікавей за лагарыфмы і паэзію Пушкіна лічыў футбол і "качалку" ў сутарэннях двара. Саша, наадварот, вучылася старанна, каб паступіць ва універсітэт.

Да сённяшняга часу Суднік не разумеў, чаму заўсёды далікатная, чыстая, вытанчаная, ледзь не арыстакратычная Саша абрала яго — даўгалыгага, цыбатага, задзірлівага, з вечна пабітым тварам і далёкага ад думак пра культуру і мастацтва.

Менавіта яна і зрабіла першы крок. Суднік раней нават ніякай увагі не звяртаў на яе. Ну, вучыцца з ім у класе дзяўчына сама з сябе ўся, выдатніца і зубрыла, і хай вучыцца. Яго гэта не датычылася. А яны заканчвалі дзевяты клас. Хто-ніхто выхваляўся з хлопцаў ужо сваімі перамогамі, расказваючы пікантныя падрабязнасці праведзенай разам ночы, накшталт, якія яна любіць насіць трусікі і ліфчыкі, як цалуецца і як "цягнецца", калі яе цалуеш у пупок…

Судніка ледзь не ванітавала ад такіх размоў. Футбол быў адзіным яго каханнем і сродкам для плётак. Ён мог суткамі ганяць мяч і спрачацца наконт таго, хто возьме залаты кубак на сусветным першынстве, абараняючы, калі дойдзе гаворка, свайго любімага футбаліста-варатара Рыната Дасаева.

Саша прыглядалася да Судніка, занатоўвала ў памяці яго паводзіны, бо Суднік ніколі нікога з дзяўчат не пляснуў кніжкай па галаве, не таргануў за касу, не пакрыўдзіў грубым абразлівым словам, як астатнія. На самай справе Суднік лічыў дзяўчат не болей за пустое месца.

Аднойчы "класуха" выклікала Сашу і Судніка ў піянерскі пакой наконт падрыхтоўкі да вечара, прысвечанага Дню міліцыі. Саша прыйшла першай, праз хвілін дзесяць прыпхнуўся Суднік, шкадуючы, што ўвогуле згадзіўся ўдзельнічаць, але прыстрашылі выключэннем са школы, разваліўся ў крэсле, выцягнуўшы доўгія ногі ледзь не на ўвесь праход, ды "класухі" ўсё не было.

Саша нясмела, але падсунулася бліжэй да Судніка. Ён, склаўшы на грудзях рукі, нібы не заўважаючы нічога, што вакол адбываецца, пазіраў на мыскі сваіх красовак і думаў, колькі галоў забілі нашы ў двары?..

Сядзелі моўчкі, пайсці ніяк не маглі, бо "класуха" абяцала быць абавязкова, а яе любілі і паважалі. Толькі чамусьці яна затрымлівалася.

Маўчанне, відаць, прыгнятала Сашу. Адзінае сузіранне Судніка не прыносіла ніякага задавальнення. Яна нагледзелася на яго на ўроках па фізкультуры.

— Суднік, а ты ўмееш цалавацца? — раптам спыталася яна.

— Чаго? — неўразумела зірнуў Суднік на дзяўчыну. Школьная карычневая сукенка вылучала ўсе Сашыны вабнасці. Але Суднік не затрымаўся на іх позіркам, яго займала іншае, а менавіта, дзе знайсці новы мяч, учора пракалаты бацькам.

— Ты цалавацца ўмееш? — нясмела паўтарыла Саша, ніякавеючы пад позіркам яго цыганскіх вачэй над гарбатым носам.

— А ты ўмееш, што пытаешся? — адказаў Суднік, злёгку пачырванеўшы. Ён падумаў, што Саша даведалася аднекуль пра яго некампетэнтнасць у гэтым казытлівым пытанні і здзекуецца з яго.

— Я першая спытала, — настойвала Саша.

— Якая табе справа, умею я ці не ўмею, — прабурчэў Суднік.

— Проста цікава.

— Нічога цікавага ў гэтым не бачу.

— Значыць, не ўмееш, — адзначыла Саша.

— Ты-та, умека! — пагардліва зірнуў на яе Суднік. — Брыджыт Бардо знайшлася…

— Ты мне не адказаў, — не адступалася дзяўчына.

— Слухай, ты, — раздуваючы ноздры, прамовіў Суднік, — я табе не груша, а ты не ў спартзале. Чакаеш "класную" і чакай моўчкі!

Саша спалохалася, але выгляду не падала.

— Ну, умею я цалавацца, умею, — крыкнуў ён, — і далей што?..

— Суднік, а чаму ты крычыш? — хутка-хутка заміргала Саша вачыма. — Я на цябе голасу не павышала…

Ён змаўчаў. Палічыўшы, што Суднік утаймаваны, Саша зноў рушыла ў атаку, але ўжо асцярожна падбіраючы словы.

— А… ты па-амерыканску ці паеўрапейску ўмееш?..

— Па-афрыканску, — буркнуў Суднік.

— Па-афрыканску? — здзівілася Саша. — Гэта як? — падалася бліжэй да яго.

— Ну, ідуць два негры насустрач адно аднаму, сустракаюцца… і…

— Што і?

— Нічога.

— Як цікава, — працягнула Саша. — Слухай, Суднік, а навучы мяне па-афрыканску цалавацца…

— Ты ж не негр. І, увогуле, — раптам выгукнуў, — чаго ты да мяне прычапілася?

— А што, і спытацца ўжо нельга?

— Нельга.

— Ну, ідзі і цалуйся са сваімі неграмі!..

— Негры таксама людзі.

— Дурань!

— Дура!

— Ах так! — вусны Сашыны дрыжэлі, вочы, прымружаныя да маленькіх шчылінак, пазіралі небяспечна, як у гатовай да рашучага скоку пумы, грудзі цяжка ўздымаліся і апускаліся…

— Я не хацеў, — сам не разумеючы, як у яго атрымалася, прамовіў Суднік, вінавата апусціўшы галаву.

Саша пераможна ўсміхнулася і сказала:

— А ты глядзеў учора вечарам кіно?

— Якое?

— Амерыканскае.

— Пра што?

— Пра каханне.

— Ну…

— Помніш, як малады чалавек абняў прыгожую гераіню на мосце і…

— …скінуў яе з моста? Не глядзеў.

— Не, Суднік, там зусім не так было, — усміхнулася Саша. – Яна паклала свае рукі яму на плечы… — Тое самае зрабіла і Саша. — Ён абняў яе за талію… Чуеш, Суднік, абдымі за талію… — Суднік абняў, як умеў. — І яны…

Ледзь дастаючы да ягонага пляча, Саша прыпаднялася на дыбачкі і пацалавала Судніка.

— Вось так было ў тым кіно, — скончыла яна, але Суднік не выпускаў дзяўчыну з абдымкаў, пазіраючы на яе твар, як на карціну. Ён быццам пачаў нанова бачыць пасля нейкай незразумелай слепаты:

— Ты маніш. Не так было ў кіно.

Суднікавы губы з моцаю п'яўкі прыляпіліся да Сашыных. Ён сціснуў яе ў абдымках, яна абвіла яго шыю рукамі…

…Суднік яшчэ раз зірнуў на фотаздымак і сумна ўсміхнуўся. Аднымі ўспамінамі не наясіся, хоць і стала лягчэй на душы. Зараз пяльмешак бы са смятанкаю, матчыных, ці пірага з яблыкамі, Сашынага…

Суднік каўтануў галодную сліну, з цяжкасцю падняўся. "Няма чаго расседжвацца, — штурхануў сам сябе, — нічога не выседжу. Трэба вяртацца на заставу самому".

Дапамагаючы аўтаматам, як мыліцай, Суднік пачыкільгаў у бок заціхлай бойкі.

Ён спусціўся на запыленую дарогу. Яму было ўсё роўна, заўважаць "духі" ці не.

Здавалася, што ён адолеў ужо кіламетраў дзесяць, калі не болей, а заставы ўсё не было. Дзівак, стомлены, ён не разумеў, што не прайшоў яшчэ і ста метраў. Спёка душыла, як удаў, закруціўшыся колцамі вакол цела, паціху дабіраючыся да горла.

Спатыкнуўшыся аб невялічкі незаўважаны ім каменьчык, Суднік пляснуўся тварам у пыл. Вочы самі сабой заплюшчыліся…

…Саша распускалася і квітнела, як барвовая ружа, кідкай прыгажосцю. На вуліцах і бульварах на яе заглядаліся прахожыя, нібы на мадэль з "Плэйбоя", машыны сігналілі, прапускаючы яе на чырвонае святло. Яна толькі паціскала плечукамі і бесклапотна ўсміхалася.

…Узяўшыся за рукі, Суднік і Саша шпацыравалі па горадзе. Гэта было напярэдадні яго адбыцця на службу ў войска. Стаяў летні цёплы дзень, квітнелі вішні і яблыні ў садах, радавала яркай зелянінай лістота.

Яны забрылі на нейкую часова спыненую будоўлю, паскакалі, забаўляючыся, як горныя алені, па бетонных плітах, нібы ў пячору, асцярожна пракраліся ў пад'езд недабудаванага дома, ад якога патыхнула холадам. Яны падняліся на другі паверх, гуляючыся ў дагаНялкі з рэхам, прайшлі ў кватэру, каб паглядзець праз пустэчу акна на прастор.

Сашыны валасы, адпушчаныя на волю, нясмела кранаў ветрык, яна падстаўляла яму і свой твар, мружачы ад прыемнай прахалоды вочы.

Раптам яна павярнулася да Судніка, узяла за руку.

— Суднік, — сказала, — ты хочаш мяне?

— Чаго? — не зразумеў ён.

— Ну, да чаго ж ты бесталковы… Ты мяне вельмі — вельмі любіш?

— Люблю, — буркнуў Суднік.

Саша абняла яго за плечы, прыціснулася ўсім целам да яго.

— Тады вазьмі мяне, — прашаптала, апякаючы твар Судніка пацалункамі.

— Што тут… за невядома што! — у праёме недабудаванай кватэры паказаўся вартаўнік. — А ну, псік адсюль, пакуль міліцыю не выклікаў! — закрычаў ён на іх.

— Добра, дзед, не крычы, — цягнучы за сабой Сашу, прамовіў Суднік. — Мы сыходзім.

— Такі настрой сапсаваў, — вымавіла Саша ўжо тады, калі яны даволі далёка адышлі ад будоўлі. — Але дадому я не пайду, пакуль у нас не атрымаецца. Я не хачу, каб ты ў войска цнатліўцам ішоў.

Суднік закурыў.

— А, можа, да майго брата паехаць? — услых падумаў ён.

Абодва ўчапіліся за гэтую ідэю, але і там ім не пашанцавала.

…Блізілася ноч. Не знайшоўшы ніякага прыстойнага месца, Саша зацягнула Судніка ў першую ж тэлефонную будку.

— Расшпільвай хутчэй, — кінула яму Саша, маючы на ўвазе сваю летнюю сукенку, сама пацягнула за "язычок" маланкі ягоных джынсаў, млеючы ад жадання. Іншую, напэўна б, доўгія пошукі, дзе б прызямліцца, расчаравалі і адбілі б усялякую ахвоту да любошчаў, але Саша прывыкла ўсе пачатыя і запланаваныя справы даводзіць да канца…

Калі ўсё скончылася, яны паселі на кукішкі ў той жа будцы, трымаючыся за рукі, але не гледзячы адно аднаму ў вочы.

Суднік цяжка дыхаў. Саша першаю паднялася, паправіла сукенку, пачала расчэсваць валасы.

— Ты не… — выціснуў урэшце Суднік. Саша, відаць, даўно чакала гэтых слоў, таму і адказ на іх прыгатавала даўно і мовіла як па пісаным:

— Гэта праўда. Я не хацела табе раней казаць, каб вобраз, які ты трымаў у сваёй галаве, каб той ружовы колер не пабляк ці не пачарнеў.

— І хто быў першы, калі не сакрэт?

— Не сакрэт. Твой брат.

Суднік не злаваў. Магчыма, калі б Саша назвала імя каго—небудзь іншага, яна б атрымала пару плюх і вярнулася дамоў з пасечанай губой. Саша назвала імя брата. Што ж, брат — свой чалавек. Суднік на яго не крыўдаваў. Крыўда прачнулася толькі тады, калі, узняўшы галаву з пылу, Суднік спрабаваў сплюнуць пясок, што сабраўся на патрэсканых губах, і ў яго не атрымалася. Лаючы свайго брата, які спакусіў яго першае каханне, жаніўся на прыгажуні і адкасіў ад войска, дзякуючы сувязям багатага цесця. А яму цяпер трэба падыхаць у гарах невядома за што і за каго…

…Шарэла. Суднік набліжаўся да заставы. Як ні дзіўна, але ён даклыпаў да яе. Толькі чамусьці святла не было відаць у казарме, не маглі ж салдаты, павячэраўшы, адразу адрубіцца; вартавых таксама не чуваць.

Суднік задумаўся. Яго насцярожыла дзіўная цішыня, якую разбаўляў, як цукар у гарбаце, сваёй прысутнасцю вецер.

…Першы труп, на які натыкнуўся Суднік, быў некалі яфрэйтарам Сінцовым. Ён ляжаў, падкурчыўшы пад сябе ногі, рукамі заціскаючы распораты жывот.

Пакуль Суднік даплёўся да казармы, паспеў нагледзецца яшчэ на пару дзесяткаў трупаў. Слёзы каціліся па яго шчаках і саланілі губы. Суднік перакуліўся праз парэнчы на ганку: яго званітавала.

Адкашліваючыся, ён прайшоў у казарму. Усе вокны былі пабітыя. Салдаты, з іх многія нават не паспелі зразумець, што памерлі, ляжалі ў сваіх койках. Нехта, з адным ботам на назе, сціскаючы аўтамат, ляжаў на парозе.

"Выразалі, — жахнуўся Суднік. — Усіх. Але як?"

Нешта невытлумачальнае і таямнічае вісела над заставай, у чыю тайну Суднік і хацеў бы зазірнуць, але перашкаджала прага існавання… Ён хацеў жыць, ужо прадчуваючы фатальнае завяршэнне свайго жыцця, якога не адчуваў нават на запыленай дарозе, калі пакутліва рухаўся да заставы. Але яно чакала Судніка, як самага апошняга. Вось чаму ён без усялякіх перашкод дабраўся, перамогшы спёку.

Як ад чумы, Суднік уцякаў з мёртвай заставы… Ён спатыкнуўся аб труп на парозе, пераляцеў праз яго на ганак, пераЛічыў рэбрамі прыступкі і пляснуўся тварам у наваксаваныя хромавыя боты. Суднік прыўзняў галаву і сустрэўся з арліным позіркам гаспадара ботаў.

Кажуць, перад смерцю бачыш усё сваё жыццё. Суднік бачыў толькі Сашыну ўсмешку ды гэты арліны позірк у арэоле густой чорнай барады і белай чалмы вакол галавы. Але тое не было чалавекам! Думка гэтая, апошняя думка, пранеслася тады, калі галава Судніка, як футбольны мяч, пацалавала сцяну казармы, афарбаваўшы тут жа яе ў чырвоны колер.

Суднік аб'ехаў тварам у пясок. Адначасова з гэтым запалалі стрэхі казармы. Побач з Суднікам ляжаў Сашын фотаздымак, ён выпаў з кішэні, калі Судніка шмякнулі аб сцяну, і на яго наступіў таямнічы барадач.

Спёка маленькай яшчаркай заснула да раніцы на астываючым камені.

У горадзе Чэрвені адбыўся адкрыты конкурс маладых вакалістаў "Убельская ластаўка", прысвечаны творчасці знакамітага беларуска-польскага кампазітара Станіслава Манюшкі.

# Адраджэнне «Убельскай ластаўкі»

Аўтар ідэі і натхняльнік гэтага творчага спаборніцтва — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат міжнародных конкурсаў, прафесар В. Скорабагатаў. Чытачы "ЛіМа", напэўна, памятаюць, што конкурс быў заснаваны ў 1999 годзе з мэтай выяўлення і падтрымкі маладых таленавітых спевакоў і скiравання іх увагі на багатую, але незаслужана забытую нацыянальную культуру, якая з'яўляецца непахісным падмуркам у станаўленні творчай асобы. У межах конкурсу адбываецца карысны абмен досведам у пытаннях вакальнай педагогікі і выканальніцтва. Многія з лаўрэатаў мінулых гадоў знайшлі сваё месца ў музычна-культурным жыцці Беларусі, некаторыя з іх працуюць у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь, паспяхова выступаюць на замежных канцэртных пляцоўках, прадстаўляюць нашу краіну на міжнародных конкурсах. У ліку лаўрэатаў "Убельскай ластаўкі" — У. Громаў, А. Волкава, І. Сільчукоў, Ю. Гарадзецкі, К. Стасенка і іншыя знаныя сёння выканаўцы.



На пачатку мая, да 191-ага дня нараджэння С. Манюшкі, конкурс (пасля пяцігадовага перапынку) аднавіўся. Яго першы адборачны тур праймоў у музычных вучылішчах і каледжах мастацтваў краіны. У выніку ў Чэрвені, непадалёк ад якога радзіма кампазітара, былая сядзіба Убель, сустрэліся 20 удзельнікаў другога тура. Узначаліў журы дэкан вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар В. Аўраменка. Разам з ім творчасць маладых спевакоў ацэньвалі вядомыя салісты нашага НАВТ оперы і балета Н. Руднева, А. Шведава, У. Громаў, В. Скорабагатаў, артыстка Музычнай капэлы "Санорус" Т. Пятрова. Да трэцяга конкурснага тура было допушчана адзінаццаць чалавек.

І вось — урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў і гала-канцэрт, у якім, акрамя лаўрэатаў, удзельнічала салістка Музычнай капэлы "Санорус" Т. Пятрова. Пераможцы атрымалі ганаровыя дыпломы першай, другой і трэцяй ступеней і каштоўныя прызы. На працягу конкурсу гучалі творы С. Манюшкі на беларускай, польскай, рускай і нават лацінскай мовах, беларускія народныя песні. За лепшае выкананне твора Манюшкі і беларускай народнай песні былі ўручаныя спецыяльныя дыпломы і прызы.

"Убельская ластаўка" прынесла сапраўднае свята і ўдзельнікам, і гледачам конкурсу. І падаравала надзею, што гэтая добрая традыцыя ўжо не перапыніцца, і музыка, напоўненая любоўю да роднага краю, будзе гучаць тут з вуснаў маладых выканаўцаў цяпер кожны год.

Новыя лаўрэаты:

І прэмія — Вольга Жалезкая (Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, 2 курс падрыхтоўчага аддзялення) і Настасся Храпіцкая (Мінскае дзяржаўнае музычнае вучылішча імя М. І. Глінкі, 1 курс);

ІІ прэмія — Маргарыта Ляўчук (БДАМ, 1 курс падрыхтоўчага аддзялення) і Геворг Амбарцумян (МДМВ імя М. І. Глінкі, 2 курс);

ІІІ прэмія — Ганна Казлова (БДАМ, 2 курс падрыхтоўчага аддзялення) і Настасся Вахомчык (МДМВ імя М. І. Глінкі, 4 курс).

Дыплом за лепшае выкананне твору С. Манюшкі — Маргарыта Ляўчук; дыплом за лепшае выкананне беларускай народнай песні — Аляксандра Шыман (Маладзечанскае музычнае вучылішча імя М. К. Агінскага, 4 курс).

Тацццяна СІЛЬЧУКОВА

На здымку: Вольга Жалезкая, Маргарыта Ляўчук, Ганна Казлова.

# Радуемся разам

**У оперным свеце** — некалькі адметных падзей. Урачыста адзначаны юбілей заслужанай артысткі Беларусі, прафесара Людмілы Колас, якая на працягу двух дзесяцігоддзяў упрыгожвала сваім дзівосным каларатурным сапрана спектаклі нашага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, а сёння загадвае кафедрай спеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, падрыхтавала плеяду яркіх маладых спевакоў. Яе калега, народны артыст Беларусі Віктар Чарнабаеў і свае 80 сустрэў на роднай сцэне: у нядзелю адбыўся яго юбілейны вечар "Прызванне — Опера!", у праграме якога кумір некалькіх пакаленняў публікі, уладальнік рэдкаснага баса-buffo выступіў у ансамблі з іншымі салістамі і музыкантамі тэатра. І — афіцыйная навіна: у НАВТ оперы і балета Беларусі з'явіўся галоўны рэжысёр. Як і меркавалася, на гэтую пасаду прыйшоў Міхаіл Панджавідзе — кіраўнік рэжысёрскай групы Вялікага тэатра Расіі, які сёлета паставіў у Мінску "Набука" Дж. Вердзі. Нарадзіўся М. Панджавідзе ў Ашгабадзе, яму 41 год; скончыўшы музвучылішча па класе скрыпкі, працаваў у аркестры Туркменскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета; атрымаў спецыяльнасць рэжысёра музычнага тэатра ў Расійскай акадэміі тэатральных мастацтваў, тамсама скончыў аспірантуру і па конкурсе паступіў у Вялікі тэатр Расіі — у якасці стажора. Паставіў больш як 20 спектакляў на розных сцэнах Расіі і за яе межамі. Уладальнік прэстыжнай прэміі "Золотая маска".

**Бліскуча** дэбютавала Беларусь на XV міжнародным конкурсе маладых музыкантаў "Еўрабачанне-2010" ("Eurovision Young Musicians"), які сабраў 14 спаборнікаў і адбыўся ў сталіцы Аўстрыі, стаўшыся яркім пачаткам слыннага Венскага фестывалю мастацтваў. Стыпендыят Фонду У. Співакова, наш 18-гадовы віяланчэліст Іван Карызна, знаёмы чытачам "ЛіМа" з часоў яго першых перамог на выканальніцкіх конкурсах, упэўнена выйшаў у конкурсны фінал у ліку сямі спаборнікаў — прадстаўнікоў Германіі, Нарвегіі, Польшчы, Расіі, Славеніі, Харватыі. Тыдзень таму многія з нас спрычыніліся да выступлення фіналістаў — дзякуючы "жывой" трансляцыі на Першым тэлеканале БТ, з кампетэнтным і далікатным, адпаведным духу класічнай імпрэзы, каментарыем беларускага кампазітара Аляксандра Літвіноўскага. Тэхнічна бездакорна і натхнёна выканаўшы 3-ю частку Канцэрта до мажор Ё. Гайдна ў суправаджэнні Сімфанічнага аркестра Венскага радыё (дырыжор К. Майстар), Іван Карызна пацвердзіў сваю рэпутацыю маладога артыста-віртуоза, якому апладзіравалі многія прэстыжныя залы. Высокі прафесійны ўзровень прадэманстравалі ўсе фіналісты, і выбраць тройку "самых-самых" было складана. Рашэнне міжнароднага журы было нечаканым: пераможцай яно прызнала 16-гадовую флейтыстку са Славеніі Эву-Ніну Козмус, на 2-м і 3-м месцах апынуліся, адпаведна, нарвежская скрыпачка Гура Клевен-Хаген і расійскі піяніст Даніл Трыфанаў.

**"Прымакі"** — вядомы і папулярны мастацкі калектыў беларускай меншасці ў Рэспубліцы Польшча. Гэты эстрадны ансамбль, у рэпертуары якога беларускія, польскія, рускія ды ўкраінскія народныя песні, дэбютаваў у Беластоку пад кіраўніцтвам Юркі Астапчука ў 1995 годзе. Сёння на рахунку "Прымакоў" — гастролі ў Беларусі, Германіі, Латвіі, Літве, Славакіі, Швецыі, Эстоніі, выпуск пяці альбомаў, неадназовыя перамогі на Усяпольскім фестывалі "Беларуская песня" (Беласток), узнагароды Міністэрства культуры Беларусі, Пасольства нашай краіны ў Польшчы, а таксама Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Як паведамілі нам з Міністэрства культуры, нядаўні візіт ансамбля ў Мінск прымеркоўваўся да 20-годдзя Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч", які кіруе Галіна Дзягілева. У Вялікай зале Белдзяржфілармоніі прайшла музычная імпрэза гасцей з Беластока пры ўдзеле артыстаў гэтага тэатра.

Лана ІВАНОВА

# Ад лялькі да малюнка

Мастак-аніматар Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Ганна Тумеля вядомая сваёй работай у такіх стужках, як "Не забі! Шосты запавет Майсея" (1990), "Чароўная дудка" (1998), "Салавей" (2006), "Трус з капуснага агарода" (2006), "Казіная хатка" (2009), "Беларускія прымакі" (2008) ды іншых.

Вядома, якасць анімацыйнага фільма ў значнай ступені залежыць ад мастакоў: менавіта яны прымушаюць персанажаў рухацца. Калі Ганна Юр'еўна расказвае пра стварэнне анімацыйных стужак у тэхніках "перакладка" і "лялька", у яе асабліва захоплена гараць вочы. І мне думаецца: як было б добра аднавіць на "Беларусьфільме" лялечную анімацыю. Дарэчы, Ганна Тумеля — жонка знакамітага рэжысёра-аніматара Міхаіла Тумелі, які пры стварэнні сваіх мультыплікацыйных стужак звяртаецца да нашых традыцый, да народнага прыкладнога мастацтва. А быць і калегай, і музай-натхняльніцай нялёгка…

— Ганна Юр'еўна, раскажыце, калі ласка, пра сябе.

— Нарадзілася я ў 1961 годзе ў мястэчку ля Масквы. Бацькі пераехалі ў Мінск. Тут у Палацы піянераў была лялечная студыя, дзе я атрымала першыя акцёрскія навыкі і працавала з лялькамі. Мы выязджалі са спектаклямі, ладзілі канцэрты. Гэта была нармальная школьная падрыхтоўка. А ў мультыплікацыю я прыйшла, мабыць, нават выпадкова. У мяне тата рэжысёр-дакументаліст. Ён падумаў, што калі я займалася ў лялечным тэатры, дык, магчыма, мне было б цікава працаваць у мультыплікацыі. А тады ў нас рабіліся маляваныя фільмы, а лялечныя толькі пачыналі асвойваць. Цікава займацца мультыплікацыяй, самім мультыплікатам. Да таго ж, мне пашанцавала: у мяне "пайшло", я адчула экранны час і тое, як трэба здымаць. Мне было неяк лёгка вучыцца. Калі запусцілі стужку "Мядзведзь-меліяратар", адну з першых беларускіх лялечных карцін, то і мяне ўзялі туды. Я дапамагала дэкарацыі рабіць і ў пастаноўцы кадра ўдзельнічала. А вечарамі, калі ўсе ішлі дадому, заставалася (што сёння, напрыклад, не вельмі любяць маладыя) і здымала. У мяне была такая магчымасць: мне давяралі камеру, пакідалі ўсё неабходнае. Мая першая спроба — я персанажа-зайчыка "вадзіла" па дарожцы. Да нас прыязджалі вядомыя аніматары з Масквы. На "Мядзведзя-меліяратара" прыехала вядучы мультыплікатар "Союзмультфильма" Наташа Цімафеева. А ў нас такая прафесія: усё перадаецца ад настаўніка да вучня. Аднойчы я села побач з ёю, глядзела, як працуе. Потым усеназіранні ў галаве неяк склаліся, і я здолела працаваць самастойна — здымала сцэны паралельна. Масквічы абмяркоўвалі, якія я там памылкі зрабіла. І патрошку я пачала здымаць цэлую карціну. А ўжо ў 1980-м годзе паехала на аб'ёмна-лялечныя курсы ў Маскву пры ВПКу і там атрымала спецыяльную адукацыю як мультыплікатар. Потым скончыла наш Беларускі дзяржаўны універсітэт, факультэт журналістыкі. Але гэта толькі для сябе. Я нават калі на курсы паехала, у мяне ўжо была за плячыма нейкая колькасць фільмаў. І здымалі не толькі лялечныя фільмы, а яшчэ і г.зв. перакладачныя.

— У якой тэхніцы вам найбольш падабаецца працаваць?

— Лялькі — улюбёная тэхніка. Майстар савецкай мультыплікацыі Шылабрэеў казаў, што ў лялечнай анімацыі нашмат больш магчымасцей, чым у маляванай тэхніцы, бо можна выкарыстоўваць усялякія фактуры, рабіць лялькі з любога матэрыялу. Вунь як Бардзін працаваў з пластылінам! Мы ў Кіеве рабілі лялькі з сілікону. Можна і з бісеру, з цвікоў, запалак… Рэальныя рэчы могуць быць персанажамі. А ўспомніце феномен жукоў Старэвіча! У гэтага майстра можна і зараз павучыцца. Раней мы перад тым, як распачаць новую работу, праглядалі які-небудзь фільм амаль пакадрава. Рабілі гэта дзеля таго, каб заўважыць цікавыя нюансы. Кожны мультыплікатар прыдумвае для сябе што-небудзь. І мы ўвесь час цікавіліся, як працуюць іншыя калегі, каб знайсці якія-небудзь хітрыя прыёмчыкі. Глядзіцца на экране гэта вельмі добра. Напрыклад, фактуры: туман, альбо дождж, альбо мора… Паспрабуй у ляльках жывую ваду зняць — не здымеш. Хаця Стас Сперанскі ў Кіеве зняў — як дзяўчынка мые ў тазіку сабачку. Сперанскі здымаў "жывую ваду" з бурбалкамі. Увесь час трубачкай падзьмувай, і бурбалкі ўзнікалі. Гэта яго вынаходка.

— І часта ў вас бываюць такія вынаходкі?

— Кожны дзень вынаходкі! Калі здымалі поўнаметражны фільм рэжысёра Т. Жыткоўскай пра Хрыста "Сын чалавечы", там быў цэлы эпізод з морам. Мы прыдумалі, як зняць мора. Яно па-сапраўднаму рухалася: такія хвалі хадзілі! Нацягвалі вяроўкі. На вяроўках — палачкі. Зверху ўкладвалі тканіну, потым бліскучы матэрыял. Усё гэта пакадрава здымалі — такая дэталёвая праца… Справа ў тым, што ажыццявіць ідэю можна, але спачатку трэба прыдумаць, як гэта зрабіць. У мультыплікацыі ўсё пабудаванае на нейкіх прыдумках.

— Вы якую форму больш любіце: рэалістычную ці абстрактную?

— Абстрактную — не люблю. Калі малады, мусіць, хочацца "штосьці такое" сказаць. А ты паспрабуй канкрэтна раскажы. Я люблю, калі разумееш сэнс. Каб расказаная гісторыя была вельмі простая і ў той жа час прагучала так, каб закранула штосьці ў душы. Каб яна цікавая была ва ўсіх адносінах. Няхай яна будзе трагічная, камічная, усялякая — але каб ты атрымаў задавальненне ад прагляду гэтай гісторыі на экране.

— А вы хацелі б быць рэжысёрам?

— Не ведаю... Хопіць аднаго рэжысёра ў сям'і. Я пакуль не адчуваю такой неабходнасці. Я б магла стаць і рэжысёрам, калі была б неабходнасць. Напрыклад, каб адрадзіць лялечную анімацыю.

— Што-небудзь робіцца дзеля таго, каб яе аднавіць?

— Гэта такая праблема, якая павінна вырашыцца з часам, бо цяпер ідзе рэканструкцыя студыі. Але пытанне такое пастаўлена, і на стале ў кіраўніцтва ляжаць адпаведныя заяўкі.

Гутарыла Аляксандра ІМБРА-ПРЫМАВА



На здымках: кадры з мультфільмаў "Беларускія прымакі" ды "Казіная хатка".

"Я ганаруся сваім пакаленнем", — такімі словамі пачынаюцца ўспаміны заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара, члена праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Міхася Солапава, публікацыя якіх прымяркоўвалася да яго 85-годдзя (гл. "ЛіМ" за 20. XI. 09 г., "Да музыкі любоў..."). Сёння Міхась Рыгоравіч прапануе ўвазе чытача працяг сваіх успамінаў, у якіх асэнсоўвае лёс пакалення, апаленага вайной. За дзень да выхаду газеты ў свет прыйшла прыемная навіна: Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў Міхася Солапава ордэнам Францыска Скарыны.







# Цяжкі доўг памяці

**У жыцці людзей майго пакалення тыя 1418 дзён і начэй — незабыўныя. Памяць франтавікоў Вялікай Айчыннай вайны захоўвае невычэрпную энергію, якая сілкуе жаданне звярнуцца да мінулага, успомніць дарагіх і блізкіх сэрцу франтавых сяброў.**

Я ніколі не забуду першы дзень вайны: 22 чэрвеня 1941 года, нядзеля. Быў ён сонечны і цёплы — такім яго стварыла прырода, а фашысцкія вылюдкіператварылі ў страшны "чорны дзень", пачатак жудаснай эпохі ліхалецця, нечалавечых людскіх пакутаў.

Напярэдадні, 21 чэрвеня, у канцэртнай зале Курскага музычнага вучылішча, дзе я заканчваў 1 курс, адбыўся вялікі ўрачысты выпускны вечар. Сярод педагогаў і студэнтаў (у той час навучэнцы сярэдніх спецыяльных устаноў зваліся студэнтамі) панаваў святочны настрой, была надзея, што заўтра будзе лепей за сёння. Пасля ўрачыстага вечара і паспяховага канцэрта мы доўга гулялі па горадзе. Аднак ва ўсіх нас было трывожнае прадчуванне. Студэнты дзяліліся ўражаннямі, якія не прадвяшчалі нічога добрага: службоўцы НКУС арыштоўвалі людзей ва ўстановах, у кінатэатрах, сталовых і кафэ, нават на вуліцах. Тым не менш, я не хацеў надаваць занадта сур'ёзнае значэнне гэтым уражанням: у мяне тады не было належнага жыццёвага досведу, каб разумець сутнасць таго, што адбывалася наўкол. Я рабіў першыя крокі ў дарослае жыццё.

Раніцай 22 чэрвеня я прачнуўся з пачуццём незразумелай, але глыбокай трывогі. Вельмі здзівіўся, што трое студэнтаў старэйшых курсаў, якія пражывалі ў пакоі са мною і мелі звычку па нядзелях лішнюю гадзінку пакачацца ў ложку, ужо адсутнічалі. Калі я выйшаў на вуліцу, ніяк не мог зразумець, што ж здарылася. Усе людзі былі нейкія паніклыя, разгубленыя, заклапочаныя, падыходзячы адно да аднаго прамаўлялі кароткае жудаснае слова: "вайна". Я ж усёй сваёй істотай абараняўся ад страшнай сутнасці гэтага слова, каб хоць бы на імгненне адцягнуць ад сэрца злавеснае, праклятае...

А было мне ў той час 16 гадоў, 8 месяцаў і 15 дзён. 22 чэрвеня 1941 года я, як і мае равеснікі, дачасна пасталеўшы, адчуваў велізарнае жаданне стаць у строй і накіравацца на фронт. Наша пакаленне выхоўвалася ў духу высокага патрыятызму. Ужо на другі дзень вайны ў ваенкамаце з ранку сабралася мноства маладых людзей дапрызыўнага ўзросту, якія не ведалі, да каго звяртацца і што рабіць, каб трапіць на фронт. Мне было даручана разносіць позвы наконт прызыву на армейскую службу вайскоўцам запасу.

Неўзабаве са студэнтаў музычнага вучылішча і медыцынскага інстытута г. Курска быў створаны працоўны атрад для аказання дапамогі сельгасустановам па ўборцы ўраджаю. Усё лета мы працавалі ў саўгасе Абаянь Фацежскага раёна. Мне вельмі пашанцавала, што я ўмеў кіраваць трактарам. Дырэктар саўгаса — стары, які быў вызвалены ад прызыву, — дазнаўся, што я — ласун, і заўсёды частаваў мяне мёдам, салодкай садавінай. Я мог есці дасыта і пачуваў сябе вельмі шчаслівым, бо за ўсё сваё жыццё ніколі так не харчаваўся. А пры канцы жніўня дырэктар музычнага вучылішча паведаміла, што ў нашым будынку размясціўся шпіталь, што кожную ноч фашысты бамбяць Курск. Усім нам выплацілі за летнія месяцы стыпендыю і з пажаданнем "лепшага часу" параілі дабірацца да бацькоў, да сям'і. Праз тыдзень з вялікімі высілкамі я дабраўся да роднага сяла Пакроўскае, дзе ўладкаваўся працаваць у калгасе. У канцы лістапада ўся наша сям'я перахварэла на сыпны тыф. Найцяжэй хвароба развівалася ў мяне. Тры дні я ляжаў непрытомны, сваякі ўжо рыхтаваліся да пахавання. Але сталася так, што я выжыў, а памерла маці. Пра гэта паведамілі тэлеграмай бацьку, які служыў тады ў 5-м запасным казацкім кавалерыйскім палку ў г. Камышыне Прыволжскай ваеннай акругі. Бацьку адпусцілі для ўладкавання спраў сям'і. На той час немцы знаходзіліся ўжо ў 30 км ад нашага сяла, таму, вяртаючыся ў полк, з дазволу Церабунскага райваенкама бацька ўзяў мяне з сабою. Так у 17 гадоў і 2 месяцы я стаў вайскоўцам — сынам палка. Мяне прызначылі чырвонаармейцам духавога аркестра, які сістэматычна суправаджаў маршавыя роты. Акрамя таго, я браў актыўны ўдзел як саліст і акампаніятар у чырвонаармейскай мастацкай самадзейнасці. Неўзабаве бацьку адправілі на фронт, полк расфарміравалі, а я быў пераведзены ў 8-ы запасны казацкі кавалерыйскі полк, дзе выконваў тыя ж музыканцкія функцыі, а яшчэ ўдзельнічаў у джаз-аркестры — граў на акардэоне. Гэты мастацкі калектыў вельмі любілі слухаць чырвонаармейцы, асабліва ім падабаліся мелодыі з кінафільмаў "Весёлые ребята", "Волга-Волга" і з амерыканскай стужкі "Вялікі вальс".

У чэрвені 1942-га, калі мне яшчэ не было 18 гадоў, я быў залічаны ў Тамбоўскае Чырванасцяжнае кавалерыйскае вучылішча імя Першай Коннай Арміі, якое было эвакуіравана ў г. Шадрынск Курганскай вобласці. У цяжкіх умовах даводзілася вучыцца і будаваць памяшканне для вучэбных заняткаў. У сувязі з гэтым раз праз дзень наш пад'ём быў не а шостай гадзіне раніцы, а ў дзве гадзіны ночы.

У 1943 г. я скончыў вучылішча па першым разрадзе (з адзнакай) у званні малодшага лейтэнанта, камандзіра ўзвода процітанкавых ружжаў (ПТР). Усіх выпускнікоў накіравалі на фронт, а мяне чамусьці адкамандзіравалі ў Алма-Ату ў 7-ы запасны кавалерыйскі полк. Мае шматразовыя настойлівыя просьбы наконт адпраўкі ў дзеючую армію заставаліся без адказу. Прычыну гэтага я высветліў пазней: пры росце 174—175 см я важыў 44—45 кг. Гэта была дыстрафія, але ж я не адчуваў хваравітага стану. Пасля шпіталізацыі ў красавіку 1944 г. нарэшце мяне залічылі ў маршавую роту. Быў доўгі і нудны шлях з Алма-Аты да беларускіх гарадоў Гомеля, Мазыра, а потым ва Украіну і — на фронт. Пастаянныя бамбёжкі, асабліва ў начны час; я перажываў, баяўся загінуць у прыфрантавой паласе, а не на фронце.

Толькі ў чэрвені 1944-га я быў залічаны камандзірам узвода ПТР у 57-ы асобны танкавы полк, у складзе 12-й кавалерыйскай дывізіі, а неўзабаве — прызначаны камандзірам разведкі гэтага ж палка. З таго часу актыўна ўдзельнічаў у баявых дзеяннях. Ва ўзводзе разведкі, якім я камандаваў, было больш як 30 чалавек дзесяці нацыянальнасцей. Мы былі адной сям'ёй, дзе панавалі мір і згода. Разам прайшлі шлях ад Беларусі і Украіны — да Ратэнау і Шпандау, апошніх гарадоў, якія мы ўзялі з боем. Была намечана сустрэча з саюзнымі войскамі на Эльбе, аднак для мяне гэтая сустрэча не адбылася з прычыны цяжкага ранення.

Мяне адзначылі трыма ордэнамі Айчыннай вайны 1 і 2 ступеняў, 20 медалямі, у тым ліку "За Победу над Германией 1941-1945 гг.", "За освобождение Варшавы", "За взятие Берлина", сямю падзякамі Вярхоўнага галоўнакамандуючага Узброеных Сіл СССР, 12-ю значкамі і знакамі. У самых цяжкіх, здавалася, безвыходных сітуацыях (на вайне як на вайне) я павінен быў загінуць — што зафіксавала памяць — трынаццаць разоў. Але ж мне ўдалося выжыць. Мой анёл-ахоўнік, як і ў іншых, хто вярнуўся з пекла вайны, — шасцікрылы-Серафім старанна маліўся Богу, каб мы павымяралі тыя доўгія і страшныя вогненныя вёрсты не толькі нагамі, але ж і сэрцам, і духам. У газетным артыкуле не раскажаш пра ўсе трынаццаць выпадкаў, якія пагражалі мне смерцю. Прыгадаю два з іх.

Так склаліся абставіны, што ў лютым 1945 г. на працягу некалькіх сутак я не мог адпачыць. І вось нарэшце мой непасрэдны начальнік капітан Друганаў дазволіў мне адну-другую гадзіну паспаць. Ледзь толькі я прылёг на ложак, як загадам начальніка штаба палка быў выкліканы па трывозе для выканання неадкладнай задачы: наладзіць сувязь з камандзірам палка і выправіцца для прыняцця новага папаўнення — роты танкістаў, выпускнікоў Харкаўскага танкавага вучылішча. І вось мы ўчатырох — камандзір палка з ардынарцам і я са сваім – накіраваліся да месца сустрэчы. Камандзір палка звярнуў увагу на тое, што я пачаў кульгаць. Я растлумачыў, што быў выкліканы па трывозе і не паспеў заматаць анучы, дык, напэўна, панаціраліся мазалі. Ён парэкамендаваў мне пераабуцца і дагнаць яго. Я пагадзіўся. Ды неўзабаве пачуўся мінамётны выбух. Я ўскочыў, каб дагнаць камандзіра, але тут — другі выбух, мёрзлая зямля з асколкамі міны са свістам абсыпала мяне і майго ардынарца. Мы вокамгненна леглі на зямлю. Аднак выбухаў больш ужо не было. Асцярожна рухаючыся наперад, мы пачулі стогны. Стагнаў цяжка паранены сяржант, ардынарац камpalка. Камандзір жа быў мёртвы, разадзёрты выбухам. Я загадаў свайму салдату бегчы ў штаб і паведаміць пра трагедыю. Хутка прыбыў намеснік камандзіра палка і памочнік начальніка штаба па разведцы. Нам загадалі працягваць шлях.

Сустрэча з новым папаўненнем была радасная, пра трагедыю гаварыць было забаронена. Выпускнікі танкавага вучылішча — зусім маладыя хлопцы, 1927 года нараджэння, — былі зялёныя, неабстраляныя. Знаёмства пачалося з музыкі пад трафейны акардэон. Навабранцы папрасілі мяне выканаць што-небудзь з кінафільма "Трактарысты": "Три танкиста", "Броня крепка и танки наши быстры". Хтосьці, мабыць, былы трактарыст, папрасіў сыграць яго любімую — "Ой, вы, кони, вы, кони стальные!" Потым пачалі ўспамінаць "душашчыпальныя", як хлопцы казалі, песні: "Катюшу", "Сашу", "Дядю Ваню", "Огонёк", "В землянке", украінскія і рускія народныя. Асвойтаўшыся, пачалі танцаваць — маладосць брала сваё. Весяліліся доўга.

Раніцай мяне зноў паднялі па трывозе. Дывізіённая разведка паведаміла, што рота папаўнення панесла значныя страты. Уначы немцы напалі на навабранцаў, некалькі машын спалілі, іншыя пашкодзілі фаўст-патронамі. Так маладыя танкісты на працягу ночы пачалі і скончылі ваенную "эпапею". І нярэдка менавіта гэткі лёс быў наканаваны чалавеку на вайне. Не ўсіх вядзе шчаслівая зорка.

А вось яшчэ адзін эпізод.

Чым хутчэй савецкае войска набліжалася да межаў Трэцяга рэйха, тым больш лютавалі гітлераўцы. Аднойчы ранняй вясной 1945 года, калі я вяртаўся з разведкі разам з аддзяленнем матацыклістаў і аўтаматчыкаў, мы трапілі ў засаду. Было прынята рашэнне ў адкрыты бой не ўступаць, бо мы не ведалі сілы праціўніка. У такіх умовах трэба абараняцца. Гітлераўцы некалькі разоў спрабавалі атакаваць нашы пазіцыі: прастрэльваўся літаральна кожны метр. Паспрабавалі мы распачаць контратаку, аднак беспаспяхова. З надыходам цемры нас падтрымаў памочнік начальніка штаба капітан Друганаў з аддзяленнем аўтаматчыкаў і бронетранспарцёрам. Пасля непрацяглага бою немцы адступілі. А мне было загадана неадкладна вярнуцца ў месца размяшчэння часці.

Раніцай мяне зноў па трывозе выклікалі ў штаб палка і загадалі арганізаваць пошук разведчыкаў на чале з Друганавым, якія павінны былі вярнуцца з разведкі апоўначы, ды так і не з'явіліся. Мы выйшлі на месца зніклых разведчыкаў, але нічога не знайшлі, акрамя двух дзяржанняў ад кінжалаў. Мясцовыя палякі растлумачылі, што ноччу, амаль да раніцы, доўжыўся цяжкі бой з удзелам артылерыі і механізаванай тэхнікі. Мы заўважылі вялікую брацкую магілу. З дапамогай палякаў адкрылі яе і знайшлі каля 40 трупаў салдат і сяржантаў, але не пахаваных, а скінутых у зямлю разам з ордэнамі і медалямі, якіх мы назбіралі амаль палову рэчавага мяшка.

Калі, вяртаючыся, мы пад'ехалі да шашы, на павароце, як з-пад зямлі, павыскоквалі немцы і пачалі ўраганны агонь, намагаючыся знішчыць нас і завалодаць казачнымі амерыканскімі матацыкламі "Харлей Дэвідсан". Я закрычаў свайму вадзіцелю-віртуозу Уханкіну (пры абароне Віслы ён не ездзіў, а лётаў па лесе сярод хвояў): "Давай, вытварай свае крэндзелі!". Ён, як і другія два экіпажы, пачаў віляць, выратоўваючы нас ад шквалу кулямётнага і аўтаматнага агню. Мы выраталіся, але на працягу сутак не стала цэлага аддзялення аўтаматчыкаў, майго сябра капітана Друганава і браневіка з поўным вайсковым рыштункам.

Калі я ўзнаўляю ў памяці ўсе гэтыя экстрэмальныя сітуацыі, то адчуваю іх, быццам перажываючы зараз. І мне робіцца страшна: здаецца, я тады так глыбока не перажываў і не пакутаваў, як сёння...

Подзвіг, які здзейснілі народы Савецкага Саюза ў Вялікай Айчыннай вайне, вышэй за сілы чалавечыя. І я ганаруся сваім пакаленнем!

Міхась СОЛАПАЎ

На здымках: М. Солапаў у гады вайны.

Фота з архіва аўтара

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.

Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# «Пісьменнік звольнены з пасады апостала ісціны…»

Ян Чыквін — легенда беларускай літаратуры ў Польшчы. Скончыўшы філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта яшчэ ў 1964 годзе, працаваў настаўнікам у ліцэі ў Беластоку. З 1969 года — у Варшаўскім універсітэце: асістэнт філіяла на гуманітарным факультэце ў Беластоку, дацэнт кафедры філалогіі. У 1988 годзе ўзначаліў літаб'яднанне "Белавежа". Доктар гуманітарных навук. Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, выдадзеных у Беластоку і Мінску. Шмат перакладае польскай паэзіі на беларускую мову. Як літаратуразнаўца займаўся рускай паэзіяй XIX стагоддзя. З просьбай адказаць на некаторыя пытанні газеты "Літаратура і мастацтва" да Яна Арцёмавіча і звярнуўся наш карэспандэнт.



— Сёння — няпросты час для літаратуры з самых розных поглядаў. Найперш — з прычыны пашырэння ўлады электронных сродкаў інфармацыі над свядомасцю грамадства... Не развіваючы гэты тэзіс далей, хацеў бы запытацца ў вас, а якія часы перажывае беларуская літаратура ў Польшчы? Ці было калі яшчэ горай, чым сёння?

— Паўсюль дзейнічаюць тыя самыя законы — і беларуская літаратура Польшчы ніколі не з'яўлялася нейкім выняткам, і таму таксама ж моцна адчувае цяперашні "няпросты час для літаратуры". Аднак у параўнанні з пісьменнікамі метраполіі мы, белавежцы, несумненна, даўно набылі пэўна іншы, значна больш адэкватны нашай сітуацыі, імунітэт адносна абставін, у якіх жывём. Справа ў тым, што нам ад самага пачатку не было, скажам мякка, арганізацыйна ўтульна: без Бацькаўшчыны (а значыць, на маргінэсе даброт, якія вынікалі хоць бы з членства ў Саюзе пісьменнікаў), з мізэрным унутраным культурна-асветніцкім абменам інфармацыяй у прасторы высокай асіміляцыйнай энергетыкі і г.д.

Затое ў плане духоўна-творчым мы былі непрынукныя, вольныя. Палітычная ўлада, ні ранейшая, ні пазнейшая, агульна беручы, не заўважала нас, не брала нас на сваё партыйнае ўзбраенне, не ставіла нам сваіх задач і мэтаў, не карміла нас з сваёй рукі. У гэтым аспекце "Белавежа" была і ёсць здаровым арганізмам. І яна, як сёння бачыцца, выкарыстала напоўніцу закладзены ў ёй творчы патэнцыял. Сённяшні цякучы час, у сваёй сутнасці бесталковы і бязладны, бо па прыродзе шматнапрамкавы, не ў змозе, хочацца верыць, от так сабе проста здзьмухнуць з быцця важкія ды чыстыя нацыянальным сэнсам творы беларускіх пісьменнікаў Польшчы. Менавіта гэта нас і трымае — творчы наробак, асвоенае, збеларушчанае тутэйшае, на якое можна абаперціся ў "горшы час", які для пісьменнікаў часта ж бывае добраю парою для роздумаў. Шчаслівыя людзі, як вядома, творчасцю не займаюцца. Дастаеўскі прыдумаў сюжэт "Злачынства і кары", лежачы на нарах у Омскім астрозе. Гэта, вядома — крайнасць, аднак павучальная: вось дзе і калі могуць расці шэдэўры мастацтва. Не трэба, мусіць, шукаць ці чакаць добрых умоў... Вось мы так і жывём: то затрымліваючы час, то адпускаючы яго вольным, паміж нечым безупынна хвілінным і нечым больш укаранелым, не шкадуючы ні сябе, ні таго ж часу. І ён таксама то вяжа нас, то пускае як бы скрозь свае пальцы...

— Адна з вашых паэтычных кніг носіць назву "Крэйдавае кола"... Якія геаметрычныя вывы найболей сімпатычныя вам у паэтычным, філасофскім спасціжэнні быцця — кола, квадрат, кут альбо прамыя, якія не перасякаюцца, ці нешта іншае?

— Мне блізкі погляд на творчы працэс старажытных мысляроў, якія бачылі ў ім два няроўнавялікія моманты: Ingenium і Ars (першая частка — па-за свядомасная, інтуітыўная, уяўленчая; другая — кантраліруемая інтэлектам, тэхнічнае ўменне, чаму можна навучыцца). Значыць, для паэта ў яго творчым працэсе не ўсё можа быць вытлумачана, найперш тое ingenium: чаму раптам адчуваецца патрэба напісаць, напрыклад, верш "Размова з сястрою" ці "Адысей і Наўзікая", не ведаючы анічагуткі, што будзе далей не толькі ў канцы твора, але і за вуглом-паваротам кожнага верша.

Адцягнена ад маіх вершаў, можна сказаць, што Прырода, Сусвет, Жывое выяўляецца найпаўней праз форму "вогненнага кола", цыклічнасць (падобна як часапрастора), а чалавек стварае сваю Цывілізацыю, дадаючы да гэтага "вострую геаметрыю". Магчыма, што і ў маіх тэкстах паўтараюцца нейкія "геаметрычныя вывы". Калі гэта "кола" (круг), то тым цікавей мне самому постфактум паспрабаваць асэнсаваць раней схопленае інтуітыўна (ці яшчэ як гэта назваць). Аднак развагаць самому аўтару пра ім жа напісанае – справа не надта гожая і хіба ўсё ж непрадуктыўная. Гэта — у кампетэнцыі даследчыкаў.

— У свой час вы выдалі на польскай мове манаграфію пра паэзію Афанасія Фета. Руская літаратура па-ранейшаму ў полі вашага зроку?

— Вядома! Па прафесіі я русіст і беларусіст, але ўвесь час чытаю студэнтам лекцыі па гісторыі рускай літаратуры XIX стагоддзя. І без далейшага вывучэння гэтай класікі я не ўяўляю ні сябе, ні іншых славістаў. Адзін Фет чаго варты! А яшчэ ж выдатны Цютчаў у той жа перыяд…

— "Тэрмапілы", часопіс, які вы заснавалі ў 1998 годзе, спраўджвае вашы надзеі? Шмат месца на яго старонках адведзена літаратуры з Беларусі "мацерыковай" ...Гэта складваецца само па сабе ці ў гэткай практыцы выяўляецца ваша наўмысная пазіцыя?

— На старонках "Тэрмапілаў" з'явілася шмат вельмі цікавых, таленавітых твораў: і нашых, і эміграцыйных, і "мацерыковых" аўтараў — і гэтым ужо часопіс апраўдаў сваё існаванне. Ён узнік у трывожны перыяд для ўсёй беларускай літаратуры. Колькі тады, на зломе сістэм, было ў 10-мільённай Беларусі шчырых беларускамоўных літаратурных публікатараў?! Мы звычайна пашырылі прастору друку і гэтым самым дадалі магчымасцей рэалізацыі беларускаму мастацкаму слову. У гэтым плане "Тэрмапілы" і надалей патрэбны. І надалей яны адкрыты ўсім беларускім пісьменнікам, эсэістам, даследчыкам — усім, хто неабыякавы да літаратуры, культуры нашай Айчыны.

— У рамане Уладзіміра Караткевіча "Нельга забыць" адна з гераінь прамаўляе: "Боль у Рэмбранта — туга па еднасці чалавечай"... Ці прысутнічае ў сучаснай паэзіі — беларускай у Польшчы, увогуле ў беларускай паэзіі — той болевы парог, які дазваляў бы сцвярджацца выключна гуманістычным ідэалам?

— Свет чалавечы, як і сам чалавек, — дыхатамічны: няма "тугі па еднасці чалавечай" без тугі па аўтаноміі асобы. Мяркую, што такога "болевага парога" няма ні ў беларускай, ні ў іншай нацыянальнай літаратуры, бо яго быць не можа. Як у хрысціянскай айкумене не можа быць выключна гуманістычных ідэалаў. Чалавек даўно не з'яўляецца "вянцом" прыроды і тым болей — цэнтрам бачнага ці нябачнага Космасу. Адраджэнская канцэпцыя гуманізму, асабліва заходнееўрапейскага, моцна пастарэла і патрабуе значных карэктываў менавіта дзеля дабра таго ж чалавека. Рабіць такую папраўку якраз у кампетэнцыі Паэзіі, якая, карыстаючыся логікай шматзначнасцей, разрываючы перажыўшыя сябе прычынна-выніковыя ланцугі, намацвае новыя мажлівасці...

— Паэзія сёння — гэта і дэкларацыя... У якога слова век даўжэйшы — у публіцыстычна-запальнага, грамадзянскага альбо лірычнага, скіраванага часам усяго толькі на пошук унутранай, персаніфіцыраванай гармоніі?..

— Да нас дайшла, праз Рым, мудрая сентэнцыя Гіпакрата: Ars longa, vita brevis! (мастацтва доўгатрывалае, а жыццё — кароткае). Сапраўды, мастацкія творы перажываюць сваіх аўтараў, і жывуць у шматлікіх пакаленнях, адраджаючыся, як арганіка, ва ўсё новых і новых іпастасях-чытаннях — але толькі тады, калі яны мастацкія. На жаль, чалавек навучыўся і ў прасторы духоўнага самавыяўлення рабіць падробкі, копіі, сурагаты, фальшыўкі, імітацыі. Колькі гэтага прадукуецца дзень у дзень!.. Само сабой разумеецца, што межы мастацтва і самой мастацкасці рухомыя, яны гістарычна зменлівыя, як і крытэрыі эстэтычнай ацэнкі. Больш за сто гадоў паэзія атаясамліваецца з лірычнымі жанрамі. То лірыка займае цэнтральнае месца, выштурхнуўшы па-за ўласна эстэтычнае поле вершаваную публіцыстыку, вершаваную грамадзянскую рыторыку, вершы-дэкларацыі, вершы-заклікі, вершы-напаміны дыдактычнага зместу і г.д. Яны, як тая амяла, маюць свой час, сваё жыццё, у сваёй прасторы. Іх можна бясконца мусіраваць і множыць. І, пэўна ж, яны даўжэй жывуць — як усе ў прыродзе агрэсіўныя арганізмы... Напісаныя вершам былі раней філасофскія трактаты (Лукрэцый), у наш час вершам пішуцца дзіцячыя лічылкі, а псіхолагі-педагогі карыстаюцца мнематэхнічнымі вершаванымі тэкстамі-прыёмамі. Але ж усе ведаюць, што гэта не паэзія, а нешта іншае, апранутае ў форму верша.

— Вы — вядомы перакладчык не толькі беларускай паэзіі на польскую мову, але і польскай на беларускую... Каго, на ваш суб'ектыўны погляд, беларускі, а мо нават і рускі, чытач прапусціў, недагледзеў з польскай паэзіі апошніх двух дзесяцігоддзяў?

— Польская паэзія больш двух стагоддзяў была моцна ангажавана ў нацыянальна-патрыятычную праблематыку. Каб вярнуць да жыцця Айчыну, яна апеліравала да агульначалавечых каштоўнасцей — Справядлівасці, Праўды, Свабоды. І Боскай міласэрнасці. Цяпер яна ў сваім агульным масіве жыве рэхам той слаўнай мінуўшчыны і гэтым "задавольвае прыемнасць сённяшняга дня" (Я. Юхнавец). Па-за межамі Польшчы пра яе чутно дзякуючы не толькі нобелеўскім лаўрэатам (Мілаш, Шымборска, і іх канкурэнтам — Сланімскі, Гэрберт), але цэлага шэрага выдатных імёнаў, на пачатку якога стаяць у навейшы перыяд Міцкевіч, Славацкі, Норвід. Здаецца, што рускаму, як і беларускаму чытачу, зацікаўленаму гэтым абшарам, адкрыты ўсе скарбы польскай паэзіі XIX і XX ст. у поўнай меры, у тым ліку і кнігі паэзіі каталіцкіх святароў, хоць бы Я. Ст. Пасерба і Я. Твардоўскага. Можа, у меншай ступені — наймалодшае пакаленне... ды найсампершае — з залатога перыяду польскай літаратуры на чале з Янам Каханоўскім (другая палова XVI ст., апошні перыяд дынастыі Ягелонаў). Можа таксама варты большай увагі польскі эміграцыйны паэт Казімір Вяжынскі. І хто ведае, ці не будзе наступным нобелеўцам Адам Загаеўскі?!

— Ці ёсць у сучаснага польскага чытача пэўная культавая кніга, якую, скажам, студэнты ці калегі па працы раяць адно другому абавязкова прачытаць?

— Літаратуразнаўства не выдзяляе такой катэгорыі як "культавая" кніга. Гэта — з сацыялогіі культуры і камерцыйнай рэкламы. Тут яна існуе. І асабліва ў нашым свеце новаяўленага капіталізму яе прысутнасць набірае разгон. Нядаўна рашуча і радыкальна змянілася ранейшая роля і значэнне пісьменніка і ягонага слова ў грамадстве: ён звольнены з пасады апостала ісціны, ягонае слова прыватызавалася, дэвальвіравалася, а сам твор разглядаецца як звычайны тавар. Цяпер усе, хто хоча, пішуць і друкуюць што заўгодна. Так нібыта і павінна быць — каб не тое, што "творчасць" амаль поўнасцю ў такой камерцыйнай літаратуры паглынаецца "таварнасцю". А таварныя творы рыхтуюцца ж не па законах высокай эстэтыкі, а рынку. Што ж, жывем сёння пакуль у доме як бы з памутнелымі навонкі вокнамі.

І тым не менш, колькі разоў толькі ў двух апошніх стагоддзях аб'яўлялі аб смерці мастацтва, літаратуры, паэзіі. А яны ўсё жывуць, аднаўляюцца. Апошнія абшары чалавечай свабоды. Справа, пэўна ж, у тым, чаго ў новым часе больш — неразборлівага і ўчэпістага штодзённага гулу дэмасу ці голасу яркіх індывідуальнасцей; перасыпанне з месца на месца груваcткай матэрыі, пяску слоў ці палёту чалавечай думкі і незалежнага духу; гульні ў слова дзеля самой гульні, каб забіць час (хранафагія) ці прадчуванне новай трансцэндэнцыі...

Ці не гэта шмат каму з нас дае ўражанне псіхічнага дыскамфорту і адчуванне "горшага часу"?

— І што паэтычнае з унутраных перажыванняў, які свой уласны верш вы адрасавалі б нашым сучаснікам сёння?..

— Буду ўдзячны, калі перадасце шаноўным чытачам "ЛіМа" адзін лірычны пейзаж…

— Дзякуй вялікі, спадар Ян, за цікавую размову! І за прадастаўленую для нашых чытачоў магчымасць пазнаёміцца з сімпатычным вершам…

Гутарыў
Кастусь ЛАДУЦЬКА

Ян ЧЫКВІН

## Пеўні Гайнаўкі

Шэры дзень з сонца не сходзіць.
Карэннем ўверх паўздымаліся дрэвы,
Быццам голыя людзі ідуць па балоце,
Сцягі пралетараў лапочуць на плоце —
Гайнаўка ўсюды. І чуюцца пеўневы спевы.

Кожны сам сабе тут вялікі і слаўны.
Ў вясковым касцюме, як ў світцы турэмнай,
Дзяды, паддзядкі, казлы-рабацягі ды фаўны
Сыходзяць у пушчу, у лес, у дрэвы ціха-звычайна —
Над імі Гайнаўка ўсюды. І пеўневы крыкі-запевы.

Недзе блізка п'юць піва і варыцца каша,
А наводдаль кірмаш — там за нішто прадаюць мужыкоў
У музей, разам з дзецьмі, бабамі, іхнімі трантамі...
Музыка з воза дармова гудзе і мова сцелецца наша,
Нібы з нейкіх чужых ратоў капае пеўнева кроў!

## Гусіным пяром



Марыя ВАЙЦЯШОНАК. Нарадзілася на Алтаі ў Змеінагорску ў сям'і польскага асадніка, высланага напрыканцы 30-х гадоў з асады Соўчына на Пастаўшчыне. Дакладная дата нараджэння невядомая (прынятая за афіцыйную — 3 мая 1942 года). Выхоўвалася ў дзіцячых дамах на Алтаі, у Маскве, Ракаве на Валожыншчыне, у цётκі Марылі ў вёсцы Грыдзькі. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Пасля працавала журналісткай у перыядычных выданнях. Выдала кнігі прозы: "Сярод блізкіх людзей", "Жанчына каля люстэрка", "Сад нявінніасці", "Кола", зборнік вершаў "Серпень" і кніжку для дзяцей "Каму расказваюць казкі на два вушкі". Жыве ў Мінску і ў вёсцы Іслач пад Ракавам. Зборнік вершаў "АСАДНІЦА" выйшаў у Мінску ў 2010 годзе.



# «Пастушкай іду за ягнятамі дзён»

Імя Марыі Вайцяшонак добра вядомае, дзякуючы яе мастацкай прозе (у свой час выйшлі чатыры кнігі яе апавяданняў, і ўсе яны былі заўважаны і адзначаны крытыкай). На першы погляд, здавалася б, у гэтым кірунку і будзе пашырацца і развівацца талент неардынарнай пісьменніцы. Аднак жа, пры ўсім пры тым, адчувалася ломкасць і крохкасць той празаічнай формы і стылю, якімі яна карысталася ў сваёй літаратурнай практыцы. Здараліся ў яе тэкстах своеасаблівыя "паветраныя ямы", у якія не раз і не два цягам аповеда абрынаўся чытацкі дух. І ўвогуле пераважная большасць створанага М. Вайцяшонак своеасаблівай настальгічнай аўрай "насілася" над чалавечай душой, як біблейскі "дух над цёмнай безданню". Панацэяй для аўтара ў такой безвыходнай сітуацыі магла стацца толькі паэзія, гэта значыць, больш гарманічны і адносна ўпарадкаваны літаратурны тэкст, які часова прымірае і зводзіць асобныя словы ў агульны і адпаведны змест. Не канкрэтызуючы тыя ці іншыя факты і дзеі жыцця, а развінаючы праз іх асабовую неардынарную і арыгінальную думку. Прасцей кажучы, аўтар прагнуў выказаць "невымоўнае". Паспытаць "першака" не дзеля ап'янення, а дзеля моцнага праяснення перажытага. Кажучы словамі М. Вайцяшонак: "Павярнуцца на другі бок тварам// да Соўчына, дзе яшчэ// не астыглі мае// падмуркі".

Першы зборнік Марыі "Серпень", які пабачыў свет у мінулым годзе, быў спробай і подступам да ўласнага паэтычнага самавызначэння (крышталізацыі пачуццяў, выкрасання агню з крэмня-скалкі). Але то ўжо сталася праявай няўвіднага боку яе таленту, як месяцовай "изнанки"… Таму няма здзіўлення, што абуджаны лірычны герой зборніка паўстае перад патрабавальным чытачом, як разбуджаны сярод ночы – такім як ёсць… Метафара, вядома, але насамрэч трымценне перад не да канца спазнаным светам суправаджала аўтара першага зборніка да апошняга шматкроп'я… Нездарма, як апраўданне, прагаворвалася і такое:

У мяне яшчэ
не было імя,
я яшчэ
не нарадзілася.
Круцяцца
пустыя
жорны.

А вось кніжку "Асадніца" ўжо ніяк не назавеш зборнікам паасобных вершаў. Гэта ад пачатку прадуманая і цэльная паэтычная кніжка, якая мае сваю сюжэтную лінію і адзінавобразную сістэму. З яе прачытання вынікае ўяўленне пра аўтара, як пра неардынарную асобу. І хоць некаторым можа падацца, што да рубрыкі "Гусінае пяро" гэтая паэтычная з'ява не зусім падыходзіць, аднак абазнаныя ў жыцці і лёсе Марыі Вайцяшонак, у тым ліку і я, могуць з гэтым не пагадзіцца. Па-першае, сама паэтэса па духу і нараджэнні вясковая, зямная, па-другое, і "труднуе" яна большую частку свайго жыцця ў вёсцы (на лецішчы ў вёсачцы Іслач, што пад Ракавам). У пастаяннага чытача твораў М. Вайцяшонак складваецца ўражанне, што мінулае трымае яе за руку, як малое дзіцё, і вядзе-вяртае да таго "раскіданага гнязда", адкуль вывелася яе родавая памяць, і ўжо апераная, — выпала і, не разбіўшыся, на кволым крыле ўзляцела… Там было холадна, галодна і страшна, і ўсе былі там пакутнікамі. Як ні дзіўна, але вядома, што нярэдка няшчасце і гора збліжаюць людзей мацней і надзейней, чым дабрабыт і будзённыя радасці існавання. Больш за тое, перажытыя нягоды і помняцца нам асабліва ярка і пранізліва цягам усяго нашага жыцця. Асабліва падчас новых выпрабаванняў лёсу: а мы ж у свой час і не такое адольвалі. Што ж, чалавечы характар гартуецца не толькі на высокім агні, а і на непамысным марозе. Таму зразумелыя наступныя радкі паэтэсы:

Спяшаюся,
каб не застацца
без мінулага,
якое мне даражэй
за будучае.

Вельмі ёмкая фраза, асабліва ў супастаўленні з той, якою зборнік адрываецца:

...сезон палявання
на мяне
адкрыты
ад пачату
веку.

Ведаючы "рэпрэсаваную" біяграфію паэтэсы, гэтыя радкі ўспрымаеш не як страшную гістарычную памятку, а як памяць цэлага пакалення. Не — як жывую частку цэлага замардаванага, загіблага і знішчанага пакалення. Беларускія "спалячаныя" асаднікі падпадалі пад катэгорыю няўгодных і небяспечных людзей для савецкай ідэалагічнай машыны. Цынічнае "исцеление Сибирью" — вось што ім было наканавана. У тым ліку і бацькам Марыі і ёй самой па нараджэнні там. Так, так, беларусы нараджаліся і ў той тадышняй жудаснай рускай Сібіры! Колькі трэба было вытрываць і пераасэнсаваць адпакутаванае, каб напісаць гэтак "празрыста":

Цябе нічога не дзівіць,
цябе пужае,
што ты сведка
ўсяго гэтага,
і сведка
жывая...

(Маецца на ўвазе сведка ўсяго знішчанага.)

І вось так праз увесь зборнік паэтэса праходзіць зваротным шляхам свайго жыцця, не раўнуючы як быццам гэта ёсць для яе своеасаблівым "хаджам у Мекку". "Басанож// пастушкай// іду// за ягнятамі// дзён" (…) "вакол майго// алтара// памяці". Іншым разам у такіх строфах ёсць адчуванне вандроўна-купрэеўскага стылю пісьма (верш "Соўчын"), пошукам свайго адзіна запаветнага месца на зямлі... І якая душэўная спагада, велікадушнасць і прастасць паўстае за аўтарскімі людскімі і людскімі вобразамі М. Вайцяшонак. Як у гэтым вось моманце, калі "невідушча// мінаючы// жабрака,// да цябе,// як да Бога,// ягоная// працягнутая// рука". Усё сённяшняе круціцца вакол асноўнага стрыжня яе мінулага ажно да ўзнікнення дацэнтрабежнай сілы, якую яна адолець ніяк не можа. Гэта яе планіда, яе не пераступіш з аднаго толькі жадання. Забыцца? На што і на каго? На самую сябе?! Больш за тое, "укрыжаваны сваім лёсам" аўтар цвердзіць, як "Ойча наш", што "жыццё — // гэта смага,// калі натолішся (...) ўжо ведаеш,// што не нап'ешся".

Хоць, ведама, як жанчына, яна, насуперак наканаванаму, прагне ўсёй сваёй зямной спраўджанасці ("магчымай немагчымасці"), як вось у гэтым вершы: "сёння ноччу// павукі// ставілі кросны,// карункі// плялі,// для немаладых// жанчын// восень// вэлюм// рыхтуе;// сыйду з хаты,// каб не заспела"... і далей: "што дзяцей не маю –// не шкадую,// я па іх сумую, яны пакінулі// маю// дзявочую// мару,// пайшлі// з дому,// перакінуліся// ў птушак,// дрэвы,// звяроў,// людзей"… Пры чытанні падобных вершаў нельга адкінуць і такое суб'ектыўнае меркаванне, што вопыт свайго дзяцінства пазбавіў яе і ўласнага мацярынскага вопыту. Але сам гэты зварот — ад свайго дзяцінства да сваіх "метафарычных дзяцей" — ёсць ці мог бы быць завяршэннем кругазвароту аднаго канкрэтнага чалавечага жыцця, калі б лініі жыццёвага кола сышліся з двух сустрэчных бакоў. Гэтага пакуль не адбылося… Чытаючы вершы М. Вайцяшонак немагчыма адкаснуцца ад роспачнай, глыбока мінорнай мелодыкі адной з вядомых строф рускага класіка А. Фета:

Не жизни жаль
с томительным дыханьем,
Что жизнь и смерть?!
А жаль того огня,
Что просиял
над целым мирозданьем,
И в ночь идёт, и плачет уходя.

Як бы не пераважала над здаровым сэнсам мая прыхільнасць і чалавечая любоў да паэтэсы, а пакінуць па-за ўвагай слоўныя парушыны (маўляў, само па сабе неяк прамаргаецца) усё ж не магу. Таму пазначу сям-там патрапіўшыя мне моўныя неспадзяванкі. У гаворцы пра папярэдні зборнік М. Вайцяшонак "Серпень" я ўжо казаў пра неадпаведнасць дыялектаў і мясцовых слоў у паэтычнай творчасці. Здаецца, аўтар зрабіла пэўныя высновы, але ўсё ж не выраклася-такі генетычных стрэмак сваёй моўнай памяці. І калі ў першым зборніку іх можна было ўспрыняць за своеасаблівую праяву аўтарскага паэтычнага стылю, то ў гэтым — менавіта за ўстойлівасць літаратурнай манеры, а можа, за ўпартасць характару альбо рэдактарскі недагляд.

("Дарала б" (хацела б); "пад столлю,// наважалі// (падвешвалі, навязвалі) бацькі// калыску"; "... каб налушчыць// смаляк// (смалякоў, нашчапаць) на распалку"; "зіма. Выходзіш// сустракаць,// у нешта ўступіўшы// на босую нагу" ( трэба пазбягаць падобных выразаў, якія маюць падвойны сэнс, ды і ўступаць можна босай нагой, а не на босую нагу, тут аўтар мела на ўвазе, што яна сунула ногі ў нейкі абутак, каб высці да дзвярэй); "... зло ніколі// не можа быць// справядловым" (ну чаму не справядлівым?).

Аднак гэтыя рэдкія дробязі не зацяняюць ясную паэтычную прастору зборніка, дзе глыбокі псіхалагізм, як бяскрайні марозна-снегавы наст, выядае вочы той чыстай беллю, якая даецца нам на апошні час… Пры жыцці мы называем гэта вечнасцю… Бо нездарма ж , як піша Марыя Вацяшонак, у яе доме "не пустуе// калыска любові". Адсюль і не заўжды спраўджанае наша жаданне:

на белым
свеце
жыць
набела.

ЛеГАЛ

# У працяг жыцця



Са смерцю вядомы сатырык ніколі не жартаваў, хоць і ставіўся да яе па-філасофску: "Усе паміраюць". І да ўласнай смерці па інжынернай логіцы быў гатовы: "Шасцідзесяцігоддзе як адгуляў, а, памятаеш? Сямідзесяцігоддзе, калі атрымаецца, адзначым, а пасля — наўрад што…" А чаго ж? Інжынер па-стараруску азначае розмысл.

Маё пакаленне пакуль не здолела ацаніць гістарычнай "халявы": ніводнай вайны (Афган крануў нязначную частку равеснікаў, пра астатнія ваенныя бядоты ў асноўным маўчаць) за жыццё на нашай спрадвечна супярэчна-вынішчальнай тэрыторыі.

Вайна ў адных бацькоў забрала,
А іншых — кінулі бацькі.
І бедаў стрэслася нямала —
Быў незайздросны лёс такі.

І сніўся нам кавалак хлеба,
І цёплы матчын бляск вачэй,
А ласкі бацькавай патрэба
Нас не пакінула яшчэ.

Калі юны пагранец (застава ў чужынскай тады і цяпер Эстоніі) адчуў цягу да мовы і вызначыў, што слова павінна быць родным, натуральным? Можа, так і трэба, каб жыццё выкінула з роднага Сусвету ў Іншасвет?

Дзе лепшага ўсяго вытокі,
Што сэрца бурна ўскалыхне?
Да светлых мар, ідэй высокіх
Цягнула ўсё жыццё мяне.

Неяк вывелі з Мікалаем Пятровічам выдатную жартаўлівую сентэнцыю: "Руская мова таксама з нашых летапісаў, толькі маскалі яе трошкі перарабілі ў час Карамзіна". Таму і раманс «Гори-гори, моя звезда» ў выкананні Вяршыніна гучаў пераканаўча, хоць размаўляў ён заўсёды на роднай беларускай мове.

І хіба хто калі прыкмеціў,
І ці пачуў хоць сэрца ўздых,
Што зусім я адзін на свеце.
Але жыву — і не прыціх.

І ўсё ж я знайшоў пуцявіну,
Адзіную-адзіную, сваю.
Другі даўно б упаў і кінуў,
А я стаю.

Мікола Вяршынін быў яўным экстравертам — чалавекам, павернутым да іншых, заўжды гатовым дзяліцца ўражаннямі, па-добраму спрачацца. Пры гэтым ніколі не выносіў на людзі сваіх праблем. І ўважліва ставіўся да суразмоўцы, кім бы ён ні быў.

Я ўдзячны лёсу за тое, што адгукнуўся на апошняе прыжыццёвае запрашэнне Пятровіча, бо звычайна спасылаўся на ўласныя "непад'ёмнасць і рацыянальную ляноту". Па-сяброўску сустрэліся, па-сямейнаму пасядзелі, па-роднаму развіталіся…

І дзве заслугі, думаю, што маю,
Бо лінія жыцця была свая:
Нікому не павінен ні рубля я,
І век нікога не пакрыўдзіў я.

Шчыры аратай на глебе роднага слова. Не пустога слова, бо часам з-за трапнай байкі ці фельетона і месца працы мяняць даводзілася.

Ён не дзяліў выданні на прэстыжныя і шараговыя. І людзям рангі прысвойваў не па кабінетных раскладах, а па чалавечых якасцях, імкнуўся да аб'ектыўнай ацэнкі.

Пра славу гучную маўчу.
Найлепш — з сябе спытаць.
Быць класікам — я не хачу.
Важней — паэтам стаць.

Паэтам ён, несумненна, стаў. Мікола Вяршынін адбыўся як чалавек і творца, хоць засталіся незавершанымі некаторыя праекты. Светлая памяць будзе жыць у сэрцах тых, хто яго ведаў, а творы будуць напамінаць, вучыць, прыструньваць, папярэджваць, забаўляць, бо сцежка сатырыка і гумарыста, якую ён свядома абраў на пачатку творчага шляху, ім, разумным і творчым чалавекам, у значнай ступені рэалізавалася.

20 мая 2010 года яму павінна было споўніцца 70. Па-жыццёваму — не споўнілася. І ўсё ж юбілей "сатырыка са светлай душой" Міколы Вяршыніна будуць адзначаць яго родныя, блізкія, суседзі, сябры, вучні, літаратары, прыхільнікі дасціпнага і вывеpанага слова. Цёплымі ўспамінамі, вершамі, недавершанымі размовамі. Бо душа паэта застаецца жыць у творчай спадчыне.

Юрась НЕРАТОК

# Аскепкі, або Позняй сустрэчы не бывае

Нейкім неспасціжным чынам атрымліваецца ў жыцці так: пра што думаеш, фантазіруеш, пракручваючы ў свядомасці варыянты магчымых сітуацый, — рана ці позна гэтаму наканавана здарыцца.

У далёкія 1960-я наша сям'я была надзвычайна ўсхвалявана атрыманым з Заходняй Германіі лістом і прыкладзенай да яго фатаграфіяй з лаканічным надпісам «Дарагому бацьку ад сына Усевалада, 27.07.63». Ці магла я думаць тады, што мае фантазіі 15-гадовай дзяўчынкі, выкліканыя гэтай экстраардынарнай падзеяй, калі-небудзь спраўдзяцца?



Тут я зраблю адступленне, адкручу кінастужку жыцця на шмат гадоў назад. Справа ў тым, што да першага арышту (1936 г.) у таты была сям'я — жонка Галіна (Ліна) і сын Сева, які нарадзіўся, калі бацьку забралі. У нашай хаце на гэтую балючую для бацькі тэму ніколі не гаварылася. І не таму, што бацька меў ад сям'і нейкія таямніцы. Мама мая ўсе падрабязнасці гэтага драматычнага адрэзка жыцця бацькі ведала. І гэтага было досыць. Ёсць такія трапяткія рэчы на свеце, да якіх нікому дакранацца нельга. З маміных аповедаў я і даведалася пра тое, што ў таты перад вайной была сям'я і што ў самым пачатку вайны яго жонка і сын загінулі пад бамбёжкай.

Аднак жыццё часам падае такія сцэнарыі, якіх і прыдумаць немагчыма. Здарылася, што і сын Сева, і яго маці Галіна засталіся жывыя. Прайшоўшы свае кругі пекла, яны апынуліся ў Германіі. Як мы даведаліся пазней, Сева выпадкова ўбачыў вокладку татавай кнігі і вырашыў напісаць літаральна "на вёску дзядулі". Не ведаючы адраса, не ўпэўнены ў тым, што гэта менавіта яго бацька (па логіцы бацьку даўно ўжо павінна была знішчыць рэпрэсіўная машына таталітарнай сістэмы), Сева проста напісаў на адрас Саюза пісьменнікаў БССР.

Гэтая незвычайная падзея і стала пачаткам маіх летуценняў, асноўнай тэмай якіх была нерэальная на той момант сустрэча з маім далёкім, які ўзяўся проста ніадкуль, а таму такім таямнічым братам. Мае мары з цягам часу абрасталі прыдуманымі падрабязнасцямі, паступова ператвараючыся ў тэму з бясконцай колькасцю варыяцый.

* * *

Час ішоў. Паміж нашымі сем'ямі завязалася кранальная перапіска, якая то абрывалася, часам надоўга, то ізноў аднаўлялася. Кожны чарговы ліст быў для нашай сям'і цэлай падзеяй, якая ўносіла ў хату непадробную радасць, змяшаную з цікаўным жаданнем спазнаць нешта новае аб далёкім, невядомым нам свеце. Чыталі ліст звычайна ўвечары, і ў ролі чытальніка часцей за ўсё выступала мама. Яна вельмі выразна дэкламавала кожны сказ, прычым была вялікая майстрыца рабіць пры гэтым каментары, якія былі вельмі дарэчы. Мая мама, тонка адчуваючы стылістыку мовы, выгадаваная на класічнай літаратуры, не пераставала дзівіцца і захапляцца бездакорна пісьменнай пабудове фраз, беспамылковай расстаноўцы знакаў пунктуацыі.

Паступова ў маім уяўленні ствараўся вобраз брата як чалавека ўдумлівага, грунтоўнага, з далікатнай і тонкай душой. Пакрысе стрыманы тон першых лістоў усё больш саступаў месца шчырасці і даверлівасці. І вось успамінаецца адзін смешны і кур'ёзны выпадак. Сева даслаў фота, на якім былі адлюстраваны на далёкім плане сярод кветкавых тэрас дзве жаночыя постаці. Адна з іх была Севава нявеста. Ён спытаў у таты, давяраючы яму як тонкаму псіхолагу чалавечай душы, ці спадабалася яму нявеста. Сева лічыў, што бацька, бясспрэчна, зразумее, пра якую з жанчын гаворка, бо ў другой постаці ён павінен быў без сумневу пазнаць сваю былую жонку Ліну. Які ж быў канфуз, калі тата, захапіўшыся і вырашыўшы, што Сева просіць даць параўнальную характарыстыку альтэрнатыўным варыянтам, з усёй грунтоўнасцю даў найпадрабязны аналіз магчымых рыс характару, паводзін, перспектыў на будучае жыццё… кожнай жанчыны! Мы доўга потым пакеплівалі над ім.

З Севавых лістоў (на канвертах ён падпісваўся Эвалд — на нямецкі манер) мы з адноснай рэгулярнасцю даведваліся падрабязнасці розных падзей, што адбываліся ў жыцці гэтай далёкай і блізкай нам сям'і. Шчыра цешыліся, калі ўведалі пра жаніцьбу Севы, пра нараджэнне дачок — Тацяны і пасля, некалькімі гадамі пазней, Эвы-Надзін. Некаторыя лісты прынеслі журботныя весткі: смерць мамы, праз некаторы час — бабулі.

Так неўпрыкмет наша сям'я міжволі станавілася для Севы тым далёкім астраўком, куды магла смела прыляцець яго душа і ў цяжкія, і ў светлыя хвіліны жыцця. Можна было толькі здагадацца, якія землятрусы бушавалі ў душы бацькі, якому так і не ўдалося сустрэцца з сынам.

Разбіраючы татавы архівы, сярод старых фатаграфій я знайшла маленькі зацёрты пакуначак з тонкай папяроснай паперы ў некалькі пластоў з надпісам "Севавы валасы". Якім жа было маё здзіўленне, калі, разгарнуўшы гэтыя пласты, я ўбачыла пасмачку "ільняных", літаральна першародных дзіцячых валосікаў, акуратна скручаных кольцам. Не паддаецца ніякай фантазіі, якой "галубінай" поштай гэты найкаштоўнейшы "груз" быў перададзены тату. І якім неверагодным спосабам быў захаваны ў гады ліхалецця!

* * *

Першыя дні мая 2007 года былі запоўнены надзвычай прыемнымі клопатамі — я заканчвала арганізацыйна-дакументальныя фармальнасці, звязаныя з маёй паездкай у Германію да сына Яся (Яна Скрыгана малодшага). Ён, прафесійны музыка (выканаўца на класічнай гітары), са сваёй жонкай Кацяй (выканаўца па класе мандаліны) пераехаў на жыхарства ў маляўнічы, утульны, з славутымі літаратурна-музычнымі традыцыямі горад Лейпцыг.

Унікальным законам светабудовы з'яўляецца беспярэчны і непарушны сусветны парадак, праўдзівасць якога заключана ў прарочых словах Эклезіяста: «Усяму свой час, і час усякай рэчы пад небам; час шукаць і час губляць; час кахаць і час ненавідзець; час вайне і час міру; час плакаць і час смяяцца…» Мабыць, надышоў і наш час убачыцца з братам. Я кажу "наш" час, разумеючы, што праз мяне працягваецца тая ніточка, што вядзе ад бацькі да сына.

Апускаючы падрабязнасці майго знаходжання ў Лейпцыгу, перанясёмся ў салон авіялайнера, які накіроўваўся па маршруце Лейпцыг — Дзюсельдорф. Вялікую частку клопатаў па арганізацыі нашай сустрэчы ўзяў на сябе мой сын. Яны з жонкай у 2003 годзе былі ў гасцях у Севы ў горадзе Дуйсбургу.

Што я адчувала тады? Не ведаю, як знайсці патрэбныя словы. Усе думкі і пачуцці змяшаліся. Я не хвалявалася, хоць у сумачку на ўсякі выпадак паклала пачак таблетак для заспакаення. Адным словам, поўны стан бязважкасці. Я не заўважыла, як прызямліліся, як мітусіліся, пакуль зарыентаваліся ў велізарным тэрмінале Дзюсельдорфскага аэрапорта, набліжаючы час і месца нашай сустрэчы.

Першае візуальнае ўражанне — вельмі падобны да таты: рысы твару, постаць, рост трохі вышэйшы, чым у бацькі. Стрыманыя марудлівыя рухі, уважлівы погляд, манера трымацца сціпла і ўпэўнена, зайздросная для яго 70-гадовага ўзросту спартовая падцягнутасць. Прыемны барытанальнага тэмбру голас завяршыў маё першае ўражанне. Забягаючы наперад, не магу не адзначыць адну рысу паводзін, якая перайшла ад бацькі на генетычным узроўні (перайманьніцтва апрыёры выключаецца), — манеру класці далонь павольным жэстам сабе на грудзі, нібыта кажучы суразмоўцу: "Вось мая душа, і яна шчырая перад табой". У такія хвіліны Сева, як і тата, марудліва закідваў нага на нагу, зручна абапёршыся на мяккую спінку канапы.

Дарогу ад Дзюсельдорфа да Дуйсбурга адолелі неўпрыкмет. Сева, выдатны кіроўца, па дарозе распавядаў пра мясцовыя славутасці і паказваў некаторыя цікавыя мясціны.

Дуйсбург — невялікі дагледжаны гарадок. Уздоўж нешырокіх вулачак, быццам толькі што вычышчаных і вымытых да бляску, размяшчаюцца расквечаныя дамы, пераважна малаэтажныя ці катэджавага тыпу. Адным словам, я патрапіла ў казачны горад.

У маленькай утульнай кватэры (цяпер Сева жыве адзін) адчуваеш, што яе гаспадаром з'яўляецца акуратны чалавек, які любіць чысціню і парадак. На адмысловых палічках роўненька стаяць аўдыё- і відэадыскі і касеты. На «сваім» месцы вісяць карціны, аўтарам якіх з'яўляецца сам гаспадар. Маючы незвычайны прыроджаны талент, Сева, у якога вельмі празаічная прафесія, звязаная з даследаваннямі ў галіне сельскай гаспадаркі, пранёс любоў да жывапісу праз усё сваё жыццё. Памятаю, яшчэ на пачатку нашых эпісталярных зносін ён даслаў адзін са сваіх малюнкаў. Гэта быў перафатаграфаваны, напісаны вугалем партрэт негрыцянскага дзіцяці з застылымі слязамі на вачах. Мая мама, узрушаная, доўга не магла супакоіцца і ўсё пытала самае сябе: як можна так адлюстраваць слязу «жывой»?

Сева ахвотна каментаваў, калі напісана тая ці іншая карціна, якая гісторыя набыцця таго ці іншага сувеніра, з якой памятнай падзеяй звязаны той ці іншы прадмет і г. д. Ну і, вядома ж, немагчыма было не заўважыць на цэнтральнай паліцы стэлажа выстаўленыя па храналогіі татавы кнігі.

Пакуль мы з Ясем асвойваліся, любуючыся інтэр'ерам, пераводзячы погляд з аднаго прадмета на другі, Сева віртуозна спраўляўся на кухні. Ён сёння нас будзе частаваць агурочным супам з кропам па сваёй рэцэптуры, свіным беконам з адварной спаржай і какосавай стружкай. Кулінарнае мастацтва — гэта чарговае захапленне Севы. Кожную апрабаваную порцыю, прыгатаваную па ўласным рэцэпце, ён сервіруе, фатаграфуе і афармляе ў "Кулінарны альбом" велізарных памераў з падрабязным апісаннем выкарыстаных інгрэдыентаў і працэсу гатавання. Да нашага прыезду гэты фаліянт дасягнуў такой таўшчыні, што ў руках яго ўтрымаць было немагчыма. Якраз да застолля паспела і малодшая дачка Севы Эва — жыццярадасная, імклівая, чароўная, добразычлівая.

Пра што і пра каго мы ў гэты дзень толькі не гутарылі! Сева распавядаў аб сваім жыцці, аб няпростым дзяцінстве. Некаторыя эпізоды ён пераказваў са слоў сваёй мамы. Пра адзін з іх я ў сваю чаргу ведаю з татавых успамінаў. Справа была ў памятным 1936 годзе. Пра нараджэнне сына тата ўведаў на турэмных нарах. Нейкімі ведомымі толькі ёй шляхамі Галіна (татава жонка) даведалася, калі павінна адбыцца перасылка зняволеных. І калі падышла татава чарга прайсці некалькі хуткіх крокаў з "варанка" ў вагон, ён у далёкім натоўпе такіх жа шматпакутных жанчын на імгненне ўбачыў… Ліну. З беленькім скруткам на руках. Яна варушыла вуснамі і паказвала гэты скрутак з анучы (у якім быў загорнуты грудны Сева). І… усё.

Наша душэўная гутарка неўзаметку прыспешвала няўмольны і абыякавы час. Наперадзе зваротны шлях. Ад Дуйсбурга да Дзюсельдорфа нас давезла на машыне Эва. Усю дарогу яна размаўляла з намі, седзячы напаўабарота і ўпэўнена трымаючы руль адной рукой.

А я глядзела на Севу і думала вось пра што: які добры сын у таты і брат у мяне жыве на гэтай зямлі. Якія перажыванні хвалююць і трывожаць яго душу? Калі мы ўбачымся ізноў? На гэтыя пытанні адказу няма. Як няма адказу і на пытанне, па якіх жа законах быцця адбываюцца катастрофы ў лёсах людзей, раздзіраючы іх душы і сэрцы? Якая д'ябальская сіла сваёй бязлітаснай рукой раз'ядноўвае блізкіх і родных людзей, раскідваючы па свеце, як аскепкі?

Але, мусіць, не было б жыцця на зямлі, калі б не было веры ў справядлівае, светлае, вечнае. Яркае таму сведчанне — словы Севы, звернутыя да бацькі ў відэалісце з нагоды святкавання стагоддзя з дня яго нараджэння: «Дарагі тата! Бачыш, якая справа: сёння з ініцыятывы Галі твае сябры сабраліся ў памяць твайго стогадовага дня нараджэння, святкуюць у твой гонар. Ну, з гэтай нагоды мне прапанаваў твой унук Янка таксама некалькі слоў сказаць. Бачыш, цяпер ёсць такая магчымасць — некалькі слоў па відэа паслаць. Такая магчымасць нам з табой не была дадзена пры тваім жыцці. Мы нават ніколі не бачыліся, і гэта вельмі журботна. Калі ты нарэшце атрымаў дазвол да мяне прыехаць, ты вельмі моцна захварэў. Такі суровы лёс. Ну што, мой тэрмін таксама канчаецца. Значыць, магчымасць расце, што мы ўсё-ткі хутка ўбачымся ў нейкім іншым свеце. Трэба верыць…»

Вось якая філасофія.

Ці існуюць у прыродзе Светабудовы механізмы, здольныя вымераць усю сілу і глыбіню бясконцага душэўнага чалавечага болю?..

Галіна СКРЫГАН

Ад рэдакцыі:

Сёлета з ініцыятывы дачкі беларускага пісьменніка Яна Скрыгана Галіны ў выдавецтве «Кнігазбор» рыхтуецца да друку паўторнае і дапоўненае выданне кнігі ўспамінаў аб Яне Скрыгане «Ян Скрыган ва ўспамінах», прысвечанай 105 угодкам з дня яго нараджэння. Некаторымі эпізодамі сваіх успамінаў Галіна Скрыган хоча падзяліцца з чытачом і прысвячае сваё апавяданне памяці бацькі.

На здымку: у Дзюсельдорфскім аэрапорце — Галіна Скрыган, Усевалад Скрыган, дачка Усевалада Эва, сын Галіны Янка.

Фота з сямейнага архіва Галіны Скрыган

## Строгасць і дабрыня

Для студэнта-маладзёна, што ўстае з-за школьнай парты і прыходзіць у вузаўскую аўдыторыю, абсалютна ўсё – новае. Набытыя ў школе веды ва універсітэце часцяком апынаюцца збольшага непатрэбнымі. Адчуваеш сябе бездапаможна слабым перад стройнасцю і структурнасцю сапраўднай навукі. У яе тонкасцях разбірацца вельмі цяжка і, адпаведна, нудна. Ажывіць "сухую тэорыю" можа толькі асоба выкладчыка, які ўласным досведам, сваім непаўторным характарам дапамагае знайсці ў знаках, сімвалах і класіфікацыях нешта антрапамарфічнае – урэшце, проста чалавечае.

Адным з такіх выкладчыкаў для мяне быў (і ёсць!) Алесь Аляксандравіч Каўрус, кандыдат філалагічных навук, у нядаўнім мінулым – дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

Усе студэнты яго любілі, паважалі і... баяліся. Баяліся, зрэшты, не яго самога, а тых прадметаў, якія ён выкладаў – "Стараславянская мова" і "Гістарычная граматыка беларускай мовы". Старажытныя скланенні, "яці" і "еры", перфекты і плюсквамперфекты, мудрагелістыя літары кірыліцы ў падручніках і на дошцы выклікалі непараўнальнае імгненнае ўражанне – "гэта непадуладна розуму!", але разумець было абавязкова. Са сведчанняў старшакурснікаў мы ведалі, што "здаць Каўруса" азначала "здаць сесію"... Але ж і любілі мы яго! Бо ясна было, што гэты добры дзядуля надта хоча дапамагчы нам разабрацца ва ўсёй гэтай стараславянскай "недатыкальнасці". Кожнаму невуку цярпліва тлумачыў ён чарговае правіла.

Калі мы даведаліся, што Алесь Аляксандравіч сыходзіць на пенсію, то моцна засмуціліся. Перш за ўсё, нам было шкада тых, будучых студэнтаў, якім ужо не пашчасціць сустрэцца з легендарнымі асобамі факультэта. Добрых выкладчыкаў, зразумела, і цяпер шмат, але легендаў, міфаў пра іх – няма.

Алесь Аляксандравіч напісаў шэраг кніг, якія і сёння актыўна выкарыстоўваюцца студэнтамі і школьнікамі, настаўнікамі і масцітымі вучонымі-мовазнаўцамі. Колькі гадоў таму ў сааўтарстве з М.Круталевічам выдаў першы беларускамоўны падручнік па стараславянскай мове. А.Каўрус многа займаўся і публіцыстыкай: сталыя чытачы нашага выдання, безумоўна, памятаюць ягоныя артыкулы супраць засмечвання мовы СМІ неўласцівымі айчыннаму слову сінтаксічнымі канструкцыямі, рускай і польскай лексікай, канцылярызмамі і штампамі. Ён і цяпер вельмі шмат працуе, актыўна друкуецца. Дарэчы, менавіта Алесь Каўрус адкрыў, сабраў і сістэматызаваў велізарны скарб. Я маю на ўвазе ягоны слоўнік "Словы без прапіскі", што друкаваўся ў 25 (!) нумарах "Роднага слова". Некалькі тысяч слоў, якія пачасту бязлітасна выкрэсліваюцца рэдактарамі як "няслоўнікавыя" і "непрынятыя", былі патлумачаны вучоным.

Цяпер ужо рэдка бачу Алеся Аляксандравіча. Часцей – у сценах Нацыянальнай бібліятэкі. Не верыцца, што яму днямі споўнілася 75 гадоў.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" смуткуе з прычыны смерці заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, члена Беларускага саюза журналістаў АБАКУМОЎСКАЙ Тамары Аляксееўны і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыцы.

Калектыў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры выказвае глыбокае спачуванне Варанец Тацяне Уладзіміраўне, загадчыку сектара навуковай апрацоўкі і захавання музейных калекцый, з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.



# «Песня» Міхаіла Савіцкага

**Напярэдадні Дня Перамогі ў Музеі гісторыі горада Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі твораў Героя Беларусі, народнага мастака СССР і Беларусі, акадэміка, ганаровага грамадзяніна Мінска Міхаіла Савіцкага "Мастак. Грамадзянін. Герой". І гэта толькі першы крок. Да святкавання Дня горада ў 2011 годзе запланавана адкрыццё галерэі мастака на плошчы Свабоды, 15.**

Лёс адмераў Міхаілу Савіцкаму шмат выпрабаванняў: 250 дзён гераічнай абароны Севастопаля, палон, пекла фашысцкіх канцлагераў… Пасля вайны ён вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, а ў 1957-м скончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Васіля Сурыкава. Ужо тады яго першая праца "Песня" атрымала прызнанне крытыкаў, якія прарочылі яму вялікую будучыню.

Мы ведаем Міхаіла Андрэевіча па такіх працах, як "Галгофа", "Партызанская мадонна", "Мадонна Біркенаў", цыклы работ "Лічбы на сэрцы", "Чорная быль", "Запаведзі"… Працуючы кожны дзень, без выхадных, мастак стварыў за сваё жыццё больш як 200 адметных работ! І ўжо сёння жыхары і госці беларускай сталіцы могуць пабачыць выдатныя творы мастака ў Музеі гісторыі горада Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 6а).

Экспазіцыя твораў змяшчаецца ў шасці залах. Першая зала знаёміць з палотнамі пачатку творчай дзейнасці майстра: "Песня", "Каля пераезду", "Размова". Працягваюць экспазіцыю залы, у якіх дэманструюцца работы цыкла "Лічбы на сэрцы". Таксама тут прадстаўлены цыкл работ прысвечаных Чарнобыльскай трагедыі "Чорная быль"(яны перададзеныя мастаком у дар Мінску). Паміж выставачнымі заламі, на сценах, вісяць фотаздымкі, якія расказваюць пра асобныя знакавыя падзеі з творчага жыцця аўтара. Трэба адзначыць, што ў афармленні залаў і размяшчэнні карцін прымаў непасрэдны ўдзел сам Міхаіл Андрэевіч.

Дырэктар Музея гісторыі горада Мінска Галіна Ладзісава адзначае:

— У склад экспазіцыі ўвайшлі работы, прадастаўленыя Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь, Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а таксама цыкл работ "Чорная быль". Творы мастака будуць экспанавацца тут да адкрыцця галерэі. Усяго ў шасці залах прадстаўлена 41 карціна мастака. У астатніх чатырох выставачных залах экспануецца 70 твораў, прадастаўленых творчай майстэрняй пад кіраўніцтвам Міхаіла Савіцкага.



У выставачных залах экспазіцыя кожныя два месяцы будзе змяняцца. Тут змогуць выстаўляцца і маладыя творцы.

На святочным адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі кіраўніцтва горада, Міністэрства культуры, дзеячы культуры і мастацтва, сябры і калегі мастака, аматары творчасці Міхаіла Савіцкага.

Выконваючы абавязкі старшыні Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька падкрэсліў:

— Сёння мы з гонарам можам сказаць, што пажаданне Міхаіла Андрэевіча па адкрыцці галерэі, якое было выказана ім Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкамам выканана. Цяпер вядуцца работы на плошчы Свабоды, 15, дзе да дня горада ў 2011 годзе прымеркавана адкрыццё галерэі Міхаіла Савіцкага. Яе плошча складзе 2600 квадратных метраў.

На вялікі жаль, аўтар не змог прысутнічаць на святочным адкрыцці. У лютым яму споўнілася 88 гадоў.

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка зазначыў, што сама творчасць Міхаіла Савіцкага гаворыць за сябе. Калі мы паглядзім на яго творы, то сапраўды ўсё зразумеем. Гэта асоба, імя якой залатымі літарамі ўпісана ў скарбонку не толькі беларускай, але і сусветнай культуры. Гэты чалавек прысвяціў увесь свой талент таму, каб адлюстраваць жудаснасць вайны; каб паказаць маладому пакаленню, што ніколі яна не павінна паўтарыцца.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, кіраўнік студыі ваенных мастакоў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь Мікалай Апіёк расказаў:

— Усё сваё жыццё Міхаіл Савіцкі, мой даўні сябра, прысвяціў служэнню мастацтву. Міхаіл Андрэевіч стварыў тыя творы, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнага выяўленчага мастацтва. Для творчасці Міхаіла Савіцкага характэрна эмацыянальна-экспрэсіўнае раскрыццё гістарычных і сучасных тэм. Створанай у 1963 годзе карцінай "Партызаны" мастак адразу заявіў пра сябе, як аб адным з вядучых мастакоў "суровага стылю".

Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі падкрэсліў:

— Мы з Міхаілам Андрэевічам амаль 60 гадоў сябруем: спачатку вучыліся разам, а цяпер ужо 25 гадоў супрацоўнікі творчай акадэмічнай майстэрні. Трэба прызнаць, што такога другога прафесіянала сёння ў Беларусі няма. Тое, што прадстаўлена ў экспазіцыі — гэта невялікая частка яго творчасці. Вось, напрыклад, "Чорная быль" — 12 работ, а "Лічбы на сэрцы" — 16. Вы ўяўляеце сабе, колькі гэта фізічнай і духоўнай працы! Я захапляюся творчасцю Міхаіла Савіцкага і ад ўсёй душы віншую яго з гэтай знакавай падзеяй. Вельмі рады, што нарэшце і звычайныя жыхары горада змогуць пазнаёміцца з яго творчасцю. Адметна, што тут, у залах, таксама прадстаўлена яго школа. Скульптуру вядзе Леў Гумілеўскі, я — графіку. Ужо нават з нашай акадэмічнай майстэрні выйшла цэлая плеяда мастакоў.

У многіх краінах менавіта мастацкія музеі — своеасаблівы сімвал-брэнд, месца паломніцтва шматлікіх турыстаў: Луўр у Парыжы, Прада ў Мадрыдзе, Дрэздэнская галерэя... Думаю, да гэтага ганаровага спісу зможа далучыцца і галерыя Міхаіла Савіцкага ў Мінску.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымках: фрагмент экспазіцыі Міхаіла Савіцкага "Лічбы на сэрцы"; Міхаіл Савіцкі.

Фота Яўгена Колчава і з Інтэрнэт-сайта

## У наступным нумары

Наступны нумар "ЛіМа" стане крыху нечаканым для пастаянных чытачоў газеты. Справа ў тым, што замест звыклых 16 старонак прыхільнікі нашай газеты ўбачаць 24:

"ЛіМ" выйдзе з новым дадаткам — "Кніжны свет" («Книжный мир»).

На яго старонках — інфармацыя пра кніжныя навінкі, матэрыялы пра асаблівасці працы кнігарняў, выдавецтваў, мастацкае афармленне выданняў, рэйтынгі продажаў кніг.

Распачнецца і пастаянны праект, у якім будзе прадстаўлены новы погляд на кнігі, выдадзеныя сто год таму.

З глыбінкі

## Равесніца Вялікай Перамогі

**Першая невялікая бібліятэка адкрылася ў Маладзечне ў красавіку 1945 года. Яе кніжны фонд складаў тады ўсяго шэсць тысяч кніг, а чытачоў было 270 чалавек.**

У канцы 1950-х пад кіраўніцтвам архітэктара Вальмена Аладава пачалося будаўніцтва цудоўнага будынка новай бібліятэкі, якое закончылася ў 1960 годзе.

Цяпер кніжны фонд бібліятэкі імя Максіма Багдановіча налічвае больш за 180 тысяч выданняў.

У бібліятэцы дзейнічае літаратурна-краязнаўчае аб'яднанне "Жывіца", тут праводзяцца духоўныя чытанні "Памнажэнне любові і дабра", працуюць з моладдзю клубы "Гермес", "Суразмоўца" і "Гасцёўня сямі муз".

Часта праходзяць тут і выставы мастакоў, бібліятэка супрацоўнічае з пасольствамі Германіі, Вялікабрытаніі і Францыі, Расіі.

З удзелам пісьменнікаў і паэтаў ладзяцца літаратурныя вечарыны. Гасцямі чытачоў у розныя часы тут былі Іван Шамякін, Іван Мележ, Іван Чыгрынаў, Васіль Быкаў, Генадзь Каханоўскі, Мікола Ермаловіч, Адам Русак, Васіль Жуковіч, Кастусь Цыбульскі, Хрысціна Лялько, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская.

На днях з нагоды 65-годдзя бібліятэкі імя Максіма Багдановіча адбыўся "круглы стол". З прывітальным словам да ўдзельнікаў "круглага стала" звярнулася дырэктар бібліятэкі Валянціна Страх, а пра гісторыю пабудовы распавёў аўтар праекта, заслужаны архітэктар Вальмен Аладаў.

Пра вялікую ролю бібліятэкі ў духоўным развіцці чалавека распавядалі намеснік дырэктара Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна Вольга Малюга, супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Вольга Рынкевіч, чытачка бібліятэкі імя Максіма Багдановіча Інеса Ларына.

У гэты ж дзень у бібліятэцы адкрылася і выстава жывапісу Вадзіма Аладава, сына архітэктара Вальмена Аладава.

Янка ГАЛУБОВІЧ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч (намеснік галоўнага рэдактара)
Юрый Цвяткоў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 3167
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 20.05.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2396

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6686